ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 10

№ 10



## XXI

## ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
1938



ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 10
Кастрычнік 1938 г.

ЗМЕСТ

## ГІСТОРЫЯ
## УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ)
## КАРОТКІ КУРС.

Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП(б).
Адобран ЦК ВКП (б). 1938 год.

*Стар.*





---

**Адрас рэдакцыі:**
**Менск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 7.**
Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20.000, даб. 50.



# ГІСТОРЫЯ

Усесаюзнай

Комуністычнай партыі

(большэвікоў)

Кароткі курс.

**Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП(б).**

**Адобран ЦК ВКП(б). 1938 год.**

Раздзел V.

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ГОДЫ ЎЗДЫМУ РАБОЧАГА РУХУ ПЕРАД ПЕРШАЙ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНОЙ

(1912—1914 годы).

## 1. Уздым рэвалюцыйнага руху ў 1912—1914 годах.

Таржаство сталыпінскай рэакцыі аказалася нядоўгавечным. Не мог быць моцным урад, які не хацеў даць народу нічога, апрача бізуна і шыбеніц. Рэпрэсіі сталі такімі звычайнымі, што яны перасталі палохаць народ. Стала знікаць стомленасць рабочых, навеяная ў першыя годы паражэння рэвалюцыі. Рабочыя зноў пачалі падымацца на барацьбу. Прадбачанне большэвікоў аб няўхільнасці новага рэвалюцыйнага ўздыму аказалася правільным. Ужо ў 1911 годзе колькасць стачачнікаў перавышала 100 тысяч, тады як у папярэднія годы яна складала ўсяго 50—60 тысяч чалавек. Яшчэ Пражская партыйная канферэнцыя ў студзені 1912 года адзначыла ажыўленне, якое пачалося ў рабочым руху. Але сапраўдны ўздым рэвалюцыйнага руху пачынаецца ў красавіку—маі 1912 года, калі ўспыхнулі масавыя палітычныя стачкі ў сувязі з ленскім расстрэлам рабочых.

4 красавіка 1912 года на Ленскіх залатых прыісках у Сібіры ў часе стачкі па загаду царскага жандармскага афіцэра было забіта і ранена больш 500 рабочых. Расстрэл бяззбройнага натоўпу ленскіх шахцёраў, якія мірна ішлі для перагавораў з адміністрацыяй, усхваляваў усю краіну. Гэтае новае крывавае злодзеянне царскага самадзяржаўя было ўчынена ва ўгоду гаспадарам Ленскіх залатых прыіскаў—англійскім капіталістам, каб зламаць эканамічную забастоўку шахцёраў. Англійскія капіталісты і іх рускія кампаньёны атрымлівалі ад Ленскіх прыіскаў шалёныя прыбыткі—штогод больш 7 мільёнаў рублёў—за кошт самай бессаромнай эксплуатацыі рабочых. Яны плацілі рабочым мізэрную заработную плату, кармілі іх нягоднымі, гнілымі прадуктамі. Не вытрымаўшы прыцясненняў і здзекаў, 6 тысяч рабочых Ленскіх прыіскаў забаставалі.

На ленскі расстрэл пралетарыят адказаў масавымі забастоўкамі, дэманстрацыямі і мітынгамі ў Пецербургу, Маскве, ва ўсіх прамысловых цэнтрах і раёнах.

«Мы былі так ашаломлены і ўзрушаны, што адразу не знаходзілі падыходзячых слоў. Які-б пратэст мы ні заявілі, гэта было-б слабым ценем таго душэўнага клакатання, якое кожны з нас перажываў. Нішто нам не дапаможа: ні слёзы, ні пратэсты, а толькі арганізаваная масавая барацьба»,—так пісалі рабочыя адной групы прадпрыемстваў у сваёй рэзалюцыі.

Вялікае абурэнне рабочых яшчэ больш узмацнілася, калі царскі міністр Макараў у адказ на запрос соцыял-дэмакратычнай фракцыі ў Дзяржаўнай думе па поваду ленскага расстрэлу нагла заявіў: «Так было і так будзе!». Колькасць удзельнікаў палітычных стачак пратэсту супроць крывавага збіення ленскіх рабочых вырасла да 300 тысяч.

Ленскія дні, нібы ўраган, уварваліся ў тую атмасферу «супакаення», якая была створана сталыпінскім рэжымам.

Вось што пісаў па гэтаму поваду т. Сталін у большэвіцкай пецербургскай газеце «Звезда» ў 1912 годзе:

> «Ленскія выстралы разбілі лёд маўчання, і—рушыла рака народнага руху. Рушыла!.. Усё, што было злога і згубнага ў сучасным рэжыме, усё, чым хварэла многапакутная Расія—усё гэта сабралася ў адным факце, у падзеях на Лене. Вось чаму іменна ленскія выстралы паслужылі сігналам забастовак і дэманстрацый».

Дарэмна ліквідатары і трацкісты хаванілі рэволюцыю. Ленскія падзеі паказалі, што рэволюцыйныя сілы жывуць, што ў рабочым класе накапілася велізарная маса рэволюцыйнай энергіі. Першамайскія забастоўкі 1912 года ахапілі каля 400 тысяч рабочых. Стачкі гэтыя насілі яркі палітычны характар, праходзілі пад большэвіцкімі рэволюцыйнымі лозунгамі: дэмакратычная рэспубліка, 8-гадзінны рабочы дзень, канфіскацыя ўсёй памешчыцкай зямлі. Гэтыя асноўныя лозунгі былі разлічаны на тое, каб аб'ядноўваць не толькі шырокія масы рабочых, але і сялян і салдат для рэволюцыйнага націску супроць самадзяржаўя.

> «Грандыёзная майская забастоўка ўсерасійскага пролетарыята і звязаныя з ёю вулічныя дэманстрацыі, рэволюцыйныя пракламацыі і рэволюцыйныя прамовы перад натоўпамі рабочых ясна паказалі, што Расія ўступіла ў паласу рэволюцыйнага ўздыму»,— пісаў Ленін у артыкуле «Рэволюцыйны ўздым». (**Ленін**, т. XV, стар. 533).

Устрывожаныя рэволюцыйнасцю рабочых, ліквідатары выступілі супроць стачачнай барацьбы, называючы яе «стачачным азартам». Рэволюцыйную барацьбу пролетарыята ліквідатары і іх саюзнік Троцкі хацелі падмяніць «петыцыйнай кампаніяй». Рабочым прапаноўвалася падпісаць паперку, «петыцыю», з просьбай аб «правах» (аб адмене абмежаванняў саюзаў, стачак і т. п.), каб потым гэту паперку накіраваць у Дзяржаўную думу. Ліквідатарам удалося сабраць толькі 1.300 подпісаў, у той час як вакол рэволюцыйных лозунгаў, выстаўленых большэвікамі, згуртаваліся сотні тысяч рабочых.

Рабочы клас ішоў па шляху, указанаму большэвікамі.

Эканамічная абстаноўка ў краіне ў гэты перыяд прадстаўляла наступную карціну.

Прамысловы застой ужо ў 1910 годзе змяніўся ажыўленнем, пашырэннем вытворчасці ў асноўных галінах прамысловасці. Калі выплаўка чыгуну ў 1910 годзе складала 186 мільёнаў пудоў, а ў 1912 годзе—256, то ў 1913 годзе складала 283 мільёны пудоў. Выпрацоўка каменнага вугалю ў 1910 годзе была роўна 1.522 мільёнам пудоў, а ў 1913 годзе—ужо 2.214 мільёнам пудоў.

Адначасова з ростам капіталістычнай прамысловасці ішоў быстры рост пролетарыята. Асаблівасцю развіцця прамысловасці з'яўлялася далейшая канцэнтрацыя вытворчасці на буйных і буйнейшых прадпрыемствах. Калі ў 1901 годзе на буйных прадпрыемствах з коль-

касцю 500 і вышэй рабочых працавала 46,7 проц. усёй колькасці рабочых, то ў 1910 годзе на прадпрыемствах такога тыпу працавала ўжо каля 54 проц., гэта значыць больш палавіны ўсіх рабочых. Гэта была небывалая канцэнтрацыя прамысловасці. Нават у такой развітай прамысловай краіне, як Паўночная Амерыка, у гэты час на буйных прадпрыемствах працавала толькі каля трэці ўсіх рабочых.

Рост і сканцэнтраванасць пролетарыята на буйных прадпрыемствах пры наяўнасці такой рэволюцыйнай партыі, як партыя большэвікоў,ператваралі рабочы клас Расіі ў найвялікшую сілу палітычнага жыцця краіны. Варварскія формы эксплуатацыі рабочых на прадпрыемствах у спалучэнні з нясцерпным паліцэйскім рэжымам царскіх апрычнікаў надавалі кожнай сур'ёзнай стачцы палітычны характар. Перапляценне-ж эканамічнай і палітычнай барацьбы надавала масавым стачкам асобую рэволюцыйную сілу.

У авангардзе рэволюцыйнага рабочага руху ішоў гераічны пролетарыят Пецербурга, за Пецербургам ішлі Прыбалтыйскі край, Масква і Маскоўская губерня, затым Паваложжа і поўдзень Расіі. У 1913 годзе рух ахапляе Заходні край, Польшчу, Каўказ. Усяго ў 1912 годзе баставала па афіцыяльных справаздачах 725 тысяч, а па іншых больш поўных даных—звыш мільёна рабочых, у 1913 годзе па афіцыяльных справаздачах—861 тысяча, а па больш поўных даных—1.272 тысячы. У першай палавіне 1914 года прымала ўдзел у стачках ужо каля паўтара мільёнаў рабочых.

Такім чынам, рэволюцыйны ўздым 1912—1914 гадоў, размах стачачнага руху наблізілі краіну да абстаноўкі пачатку рэволюцыі 1905 года.

Рэволюцыйныя масавыя стачкі пролетарыята мелі **агульна-народнае** значэнне. Яны былі накіраваны супроць самадзяржаўя. Стачкі сустракалі спачуванне велізарнай большасці працоўнага насельніцтва. Фабрыканты і заводчыкі помсцілі рабочым за забастоўкі лакаутамі. У 1913 годзе ў Маскоўскай губерні капіталісты выкінулі на вуліцу 50 тысяч тэкстыльшчыкаў. У сакавіку 1914 года ў Пецербургу ў адзін дзень было звольнена 70 тысяч рабочых. Рабочыя іншых прадпрыемстваў і галін прамысловасці дапамагалі таварышам, якія забаставалі і падвергліся лакауту, масавымі грашовымі зборамі, часам забастоўкамі салідарнасці.

Уздым рабочага руху і масавыя стачкі будзілі і ўцягвалі ў барацьбу таксама сялянскія масы. Сяляне зноў падымаліся на барацьбу супроць памешчыкаў, знішчалі памешчыцкія маёнткі і кулацкія хутары. За 1910—1914 годы адбылося звыш 13 тысяч сялянскіх выступленняў.

Пачаліся рэволюцыйныя выступленні і ў войсках. У 1912 годзе адбылося ўзброенае выступленне сярод войск у Туркестане. Наспявалі паўстанні ў Балтыйскім флоце і Севастопалі.

Рэволюцыйны стачачны рух і дэманстрацыі, кіруемыя большэвіцкай партыяй, паказвалі, што рабочы клас вядзе барацьбу не за частковыя патрабаванні, не за «рэформы», а за вызваленне народа ад царызма. Краіна ішла насустрач новай рэволюцыі.

Для таго, каб быць бліжэй да Расіі, Ленін пераехаў з Парыжа летам 1912 года ў Галіцыю (былая Аўстрыя). Тут пад яго старшынствам адбыліся дзве нарады членаў ЦК і адказных работнікаў: адна—у Кракаве ў канцы 1912 года і другая—восенню 1913 года ў мястэчку Пароніно, каля Кракава. На гэтых нарадах былі прыняты рашэнні па важнейшых пытаннях рабочага руху: аб рэволюцыйным уздыме, аб

стачках і задачах партыі, аб умацаванні нелегальных арганізацый, аб думскай соцыял-дэмакратычнай фракцыі, аб партыйнай прэсе, аб страхавой кампаніі.

## 2. Большэвіцкая газета „Правда". Большэвіцкая фракцыя ў IV Дзяржаўнай думе.

Магутнай зброяй у руках большэвіцкай партыі ў справе ўмацавання сваіх арганізацый і заваявання ўплыву ў масах з'явілася штодзённая большэвіцкая газета «Правда», якая выдавалася ў Пецербургу. Яна была аснована згодна ўказанню Леніна, па ініцыятыве Сталіна, Ольмінскага і Палетаева. Масавая рабочая газета «Правда» нарадзілася разам з новым уздымам рэволюцыйнага руху. 22 красавіка (5 мая па новаму стылю) 1912 года вышаў яе першы нумар. Гэта было сапраўдным святам для рабочых. У гонар паяўлення «Правды» было рашано лічыць 5 мая днём свята рабочага друку.

Яшчэ да «Правды» выходзіла штотыднёвая большэвіцкая газета «Звезда», прызначаная для перадавых рабочых. «Звезда» адыграла вялікую ролю ў ленскія дні. У ёй быў змешчан рад баявых палітычных артыкулаў Леніна і Сталіна, якія мабілізавалі рабочы клас на барацьбу. Але ва ўмовах рэволюцыйнага ўздыму штотыднёвай газеты для большэвіцкай партыі было ўжо недастаткова. Патрэбна была штодзённая масавая палітычная газета, разлічаная на самыя шырокія слаі рабочых. Такой газетай і была «Правда».

У гэты перыяд роля «Правды» была выключна вялікая. «Правда» заваёўвала на старану большэвізма шырокія масы рабочага класа. У абстаноўцы безупынных паліцэйскіх праследаванняў, штрафаў, канфіскацый за змяшчэнне артыкулаў і карэспандэнцый, якія не спадабаліся цэнзуры, «Правда» магла існаваць толькі пры актыўным падтрыманні дзесяткаў тысяч перадавых рабочых. Велізарныя грашовыя штрафы маглі выплачвацца «Правдой» толькі дзякуючы шырокім зборам сярод рабочых. Нярэдка значная частка тыража канфіскаваных нумароў «Правды» ўсё-ж пападала да чытача, бо перадавыя рабочыя яшчэ з ночы прыходзілі ў друкарню і выносілі з сабой пачкі газет.

Царскі ўрад за два з палавінай годы восем разоў закрываў «Правду», але пры падтрыманні рабочых яна зноў пачынала выходзіць пад новай, сходнай назвай, напрыклад—«За правду», «Путь правды», «Трудовая правда».

У той час, як «Правда» разыходзілася ў сярэднім па 40 тысяч экземпляраў у дзень, тыраж меншавіцкай штодзённай газеты «Луч» не перавышаў 15—16 тысяч.

Рабочыя лічылі «Правду» сваёй рабочай газетай, адносіліся да яе з вялікім давер'ем і чутка прыслухоўваліся да яе голасу. Кожны экземпляр «Правды», пераходзячы з рук у рукі, абслугоўваў дзесяткі чытачоў, фарміраваў іх класавае сазнанне, выхоўваў, арганізоўваў, заклікаў на барацьбу.

Аб чым пісала «Правда»?

У кожным нумары «Правды» змяшчаліся дзесяткі карэспандэнцый рабочых, у якіх апісвалася рабочае жыццё, зверская эксплуатацыя, розныя прыцясненні і здзекванні капіталістаў, іх упраўляючых і майстраў над рабочымі. Гэта былі вострыя, меткія выкрыванні капіталістычных парадкаў. Нярэдка ў заметках «Правды» паведамлялася аб самагубствах галадаючых беспрацоўных, страціўшых надзею знайсці работу.

«Правда» пісала аб нуждах і патрабаваннях рабочых розных фабрык і галін прамысловасці, пісала, як рабочыя змагаюцца за свае патрабаванні. Амаль у кожным нумары пісалася аб стачках на розных прадпрыемствах. Калі адбываліся буйныя, працяглыя стачкі, газета арганізоўвала рабочых іншых прадпрыемстваў і галін прамысловасці для дапамогі стачачнікам сваімі зборамі. Часам у стачачныя фонды збіраліся дзесяткі тысяч рублёў—велізарныя па таму часу сумы, калі прыняць пад увагу, што большасць рабочых атрымлівала ўсяго па 70—80 капеек у дзень. Гэта выхоўвала рабочых у духу пролетарскай салідарнасці і сазнання адзінства інтарэсаў усіх рабочых.

На кожную палітычную падзею, на кожную перамогу або паражэнне рабочыя адклікаліся прысылкай у «Правду» пісьмаў, прывітанняў, пратэстаў і т. д. У сваіх артыкулах «Правда» асвятляла задачы рабочага руху з паслядоўнага большэвіцкага пункту гледжання. Легальная газета не магла прама заклікáць да звяржэння царызма. Прыходзілася пісаць намёкамі, якія добра разумелі свядомыя рабочыя і раз'яснялі масам. Калі, напрыклад, у «Правде» пісалася аб «поўных і няўрэзаных патрабаваннях пятага года», рабочыя разумелі, што гутарка ідзе аб рэволюцыйных лозунгах большэвікоў—аб лозунгах за звяржэнне царызма, за дэмакратычную рэспубліку, за канфіскацыю памешчыцкай зямлі, за 8-гадзінны рабочы дзень.

«Правда» арганізавала перадавых рабочых напярэдадні выбараў у IV думу. Яна выкрывала прэдацельскую пазіцыю староннікаў пагаднення з ліберальнай буржуазіяй, староннікаў «сталыпінскай рабочай партыі»—меншавікоў. «Правда» заклікáла рабочых галасаваць за староннікаў «няўрэзаных патрабаванняў пятага года», гэта значыць за большэвікоў. Выбары былі многаступенныя. Спачатку на сходах рабочых выбіралі ўпаўнаважаных, потым упаўнаважаныя выбіралі выбаршчыкаў, а ўжо выбаршчыкі прымалі ўдзел у выбарах рабочага дэпутата ў думу. У дзень выбараў «Правда» апублікавала спіс выбаршчыкаў-большэвікоў, за якіх рэкамендавала галасаваць рабочым. Апублікаваць загадзя гэты спіс нельга было, каб не падвергнуць намечаных кандыдатаў небяспецы арышту.

«Правда» дапамагала арганізаваць выступленні пролетарыята. У момант вялікага лакаута ў Пецербургу вясной 1914 года, калі немэтазгодна было аб'явіць масавую стачку, «Правда» заклікáла рабочых да іншых форм барацьбы—да масавых мітынгаў на заводах, да дэманстрацый на вуліцы. Прама пісаць аб гэтым у газеце нельга было. Але гэты заклік быў зразумелы свядомым рабочым, якія чыталі артыкул Леніна пад скромным загалоўкам «Аб формах рабочага руху», у якім гаварылася, што стачку ў даны момант трэба замяняць больш высокай формай рабочага руху, што азначала заклік да арганізацыі мітынгаў і дэманстрацый.

Так ажыццяўлялася спалучэнне нелегальнай рэволюцыйнай дзейнасці большэвікоў з легальнай агітацыяй і арганізацыяй рабочых мас праз «Правду».

«Правда» пісала не толькі аб рабочым жыцці, аб рабочых стачках і дэманстрацыях. «Правда» сістэматычна асвятляла сялянскае жыццё, галадоўкі сялянства, эксплуатацыю сялян прыгоннікамі-памешчыкамі, аграбленне лепшай сялянскай зямлі кулакамі-хутаранамі ў рэзультаце сталыпінскай «рэформы». «Правда» паказвала свядомым рабочым, як многа гаручага матэрыялу накапілася ў вёсцы. «Правда» вучыла пролетарыят, што задачы рэволюцыі 1905 года не вырашаны, што прадстаіць новая рэволюцыя. «Правда» вучыла, што ў гэтай другой рэволюцыі пролетарыят павінен выступіць сапраўдным правадыром,



кіраўніком народа, што ён будзе мець у гэтай рэволюцыі такога моцнага саюзніка, як рэволюцыйнае сялянства.

Меншавікі дабіваліся таго, каб пролетарыят кінуў думаць аб рэволюцыі. Меншавікі ўнушалі рабочым: кіньце думаць аб народзе, аб галадоўках сялян, аб панаванні чорнасоценных памешчыкаў-прыгоннікаў, змагайцеся толькі за «свабоду кааліцый», падавайце аб гэтым «петыцыі» царскаму ўраду. Большэвікі раз'яснялі рабочым, што гэтая меншавіцкая пропаведзь адмовы ад рэволюцыі, адмовы ад саюза з сялянствам вядзецца ў інтарэсах буржуазіі, што рабочыя наверняка перамогуць царызм, калі яны прыцягнуць на свой бок сялянства, як свайго саюзніка, што дрэнныя пастыры, накшталт меншавікоў, павінны быць адкінуты прэч, як ворагі рэволюцыі.

Аб чым пісала «Правда» ў аддзеле «Сялянскае жыццё»?

Возьмем для прыкладу некалькі карэспандэнцый за 1913 год.

Карэспандэнцыя пад загалоўкам «Аграрная справа» паведамляла з Самары, што з 45 сялян сяла Новахасбулата Бугульмінскага павета, абвінавачваемых у супраціўленні землямеру пры выдзяленні адрубшчыкам грамадскай зямлі, значная частка прыгаворана да доўгага турэмнага зняволення.

Кароценькая карэспандэнцыя з Пскоўскай губерні паведамляла: «Сяляне сяла Псіца (паблізу станцыі Завалле) аказалі ўзброенае супраціўленне стражнікам. Ёсць раненыя. Прычына сутычкі—аграрныя непаразуменні. У Псіцу сцягнуты стражнікі; туды-ж выехалі віцэ-губернатар і пракурор».

Карэспандэнцыя з Уфімскай губерні паведамляла аб распрадажы сялянскіх надзелаў, аб тым, што голад і закон аб выхадзе з сельскай абшчыны ўзмацнілі працэс абеззямелення сялян. Вось хутар Барысаўка. Тут 27 дамоў, якія ўладаюць 543 дзесяцінамі ворыўнай зямлі. За час голаду 5 домагаспадароў прадалі ў вечнасць 31 дзес. па 25—33 руб. за дзесяціну, а зямля каштуе разы ў 3—4 даражэй. Тут-жа 7 дамоў заклалі 177 дзес., атрымаўшы па 18—20 руб. за дзесяціну на 6 год па 12 проц. у год. Калі прыняць пад увагу абнішчаласць насельніцтва і шалёныя процанты, то з упэўненасцю можна сказаць: з 177 дзесяцін палавіна павінна перайсці ў рукі растаўшчыка, бо такую велізарную суму на працягу 6 год наўрад ці зможа выплаціць і палавіна даўжнікоў.

У сваім артыкуле «Буйнае памешчыцкае і дробнае сялянскае землеўладанне ў Расіі», апублікаваным у «Правде», Ленін наглядна паказваў рабочым і сялянам, якія велізарныя зямельныя багацці знаходзяцца ў руках паразітаў-памешчыкаў. Толькі ў 30 тысяч буйнейшых памешчыкаў было каля 70 мільёнаў дзесяцін зямлі. Столькі-ж зямлі прыходзілася на долю 10 мільёнаў сялянскіх двароў. На кожнага буйнага памешчыка ў сярэднім прыходзілася па 2.300 дзесяцін, на кожны сялянскі двор, лічачы і кулацкія двары,—у сярэднім 7 дзесяцін, пры гэтым 5 мільёнаў маламоцных сялянскіх двароў, гэта значыць палавіна ўсяго сялянства, мелі на двор не больш адной—двух дзесяцін зямлі. Гэтыя факты наглядна паказвалі, што корань сялянскай нішчаты і галадовак ляжыць у буйным памешчыцкім землеўладанні, у перажытках прыгонніцтва, ад якіх сялянства можа вызваліцца толькі праз рэволюцыю, кіруемую рабочым класам.

Праз рабочых, звязаных з вёскай, «Правда» пранікала ў вёску, прабуджаючы да рэволюцыйнай барацьбы перадавых сялян.

У перыяд стварэння «Правды» нелегальныя соцыял-дэмакратычныя арганізацыі знаходзіліся цалкам у руках большэвікоў. Легаль-

ныя-ж формы арганізацыі—думская фракцыя, друк, страхавыя касы, профсаюзы—не былі яшчэ цалкам адваяваны ў меншавікоў. Патрэбна была рашучая барацьба большэвікоў за выгнанне ліквідатараў з легальных арганізацый рабочага класа. Гэтая барацьба ўвянчалася поспехам, дзякуючы «Праўдзе».

«Праўда» стаяла ў цэнтры барацьбы за партыйнасць, за аднаўленне **масавай** рабочай рэволюцыйнай партыі. «Праўда» згуртоўвала легальныя арганізацыі вакол падпольных ачагоў большэвіцкай партыі і накіроўвала рабочы рух да адной пэўнай мэты—да падрыхтоўкі рэволюцыі.

У «Праўды» была велізарная колькасць рабочых карэспандэнтаў. Толькі за адзін год у ёй было надрукавана звыш 11 тысяч рабочых карэспандэнцый. Але «Праўда» звязвалася з рабочымі масамі не толькі шляхам пісем і карэспандэнцый. Шматлікія рабочыя з прадпрыемстваў кожны дзень заходзілі ў рэдакцыю. У рэдакцыі «Праўды» была сканцэнтравана значная частка арганізацыйнай работы партыі. Тут наладжваліся сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовых партыйных ячэек, сюды прыходзілі весткі аб партыйнай рабоце на фабрыках і заводах, адсюль перадаваліся партыйныя дырэктывы Пецербургскага камітэта і Цэнтральнага Камітэта партыі.

У рэзультаце двух з палавінай год упорнай барацьбы з ліквідатарамі за аднаўленне масавай рэволюцыйнай рабочай партыі большэвікі дабіліся таго, што к лету 1914 года за большэвіцкай партыяй, за «праўдзісцкай» тактыкай ішло **чатыры пятых** актыўных рабочых Расіі. Аб гэтым гаварыў, напрыклад, той факт, што з агульнай колькасці 7 тысяч рабочых груп, якія рабілі ў 1914 годзе зборы на рабочыя газеты, 5.600 груп збіралі грошы на большэвіцкі друк і толькі 1.400 груп—на меншавіцкі. У меншавікоў затое было многа «багатых прыяцеляў» з ліберальнай буржуазіі і буржуазнай інтэлігенцыі, якія давалі больш палавіны сродкаў, неабходных на ўтрыманне меншавіцкай газеты.

Большэвікоў тады называлі «праўдзістамі». З «Праўдой» расло цэлае пакаленне рэволюцыйнага пралетарыята, якое правяло потым Кастрычніцкую сацыялістычную рэволюцыю. За «Праўдой» стаялі дзесяткі і сотні тысяч рабочых. У годы рэволюцыйнага ўздыму (1912—1914) быў закладзен моцны фундамент масавай большэвіцкай партыі, якога не маглі разбурыць ніякія праследаванні царызма ў перыяд імперыялістычнай вайны.

> «Праўда» 1912 года—гэта закладка фундамента для перамогі большэвізма ў 1917 годзе» **(Сталін).**

Другім агульнарасійскім легальным органам партыі была большэвіцкая фракцыя ў IV Дзяржаўнай думе.

У 1912 годзе ўрад назначыў выбары ў IV думу. Удзелу ў выбарах наша партыя надавала вялікае значэнне. Думская соцыял-дэмакратычная фракцыя і газета «Праўда» з'яўляліся асноўнымі апорнымі легальнымі пунктамі агульнарасійскага маштабу, праз якія большэвіцкая партыя праводзіла сваю рэволюцыйную работу ў масах.

Большэвіцкая партыя выступіла на выбарах у думу самастойна, пад сваімі ўласнымі лозунгамі, наносячы ўдары адначасова і ўрадавым партыям і ліберальнай буржуазіі (кадэтам). Выбарчую кампанію большэвікі вялі пад лозунгамі дэмакратычнай рэспублікі, 8-гадзіннага рабочага дня, канфіскацыі памешчыцкай зямлі.

Выбары ў IV думу адбываліся восенню 1912 года. У пачатку кастрычніка ўрад, нездаволены ходам выбараў у Пецербургу, папра-

баваў нарушыць выбарчыя правы рабочых на радзе буйнейшых заводаў. У адказ на гэта Пецербургскі камітэт нашай партыі, па прапанове тав. Сталіна, заклікаў рабочых буйнейшых прадпрыемстваў да аднадзённай забастоўкі. Пастаўлены ў затрудняльнае становішча, урад вымушан быў уступіць, і рабочыя на сходах атрымалі магчымасць выбіраць тых, каго хацелі. Рабочыя велізарнай большасцю галасавалі за «Наказ» упаўнаважаным і дэпутату, складзены тав. Сталіным. «Наказ пецербургскіх рабочых свайму рабочаму дэпутату» напамінаў аб нявырашаных задачах 1905 года.

> «...Мы думаем,—гаварылася ў «Наказе»,—што Расія жыве напярэдадні надыходзячых масавых рухаў, быць можа, больш глыбокіх, чым у пятым годзе... Застрэльшчыкам гэтых рухаў будзе, як і ў пятым годзе, найбольш перадавы клас рускага грамадства, рускі пролетарыят. Саюзнікам-жа яго можа быць толькі многапакутнае сялянства, кроўна зацікаўленае ў разняволенні Расіі».

«Наказ» заяўляў, што будучыя выступленні народа павінны набыць форму барацьбы на два фронты—як супроць царскага ўрада, так і супроць ліберальнай буржуазіі, якая шукае пагаднення з царызмам.

Ленін надаваў вялікае значэнне «Наказу», які заклікаў рабочых да рэволюцыйнай барацьбы. І рабочыя ў сваіх рэзалюцыях адклікаліся на гэты заклік.

Большэвікі перамаглі на выбарах, і ў думу ад рабочых Пецербурга быў выбран тав. Бадаеў.

Рабочыя выбіралі ў думу асобна ад астатніх слаёў насельніцтва (так званая рабочая курыя). З дзевяці дэпутатаў ад рабочай курыі шэсць былі членамі большэвіцкай партыі: Бадаеў, Петроўскі, Муранаў, Самойлаў, Шагаў і Маліноўскі (які потым аказаўся правакатарам). Большэвіцкія дэпутаты прайшлі ад буйнейшых прамысловых цэнтраў, у якіх налічвалася не менш $^{4}/_{5}$ рабочага класа. Але некаторыя ліквідатары былі выбраны не ад рабочых, г. зн. не па рабочай курыі. Таму ў думе аказалася 7 ліквідатараў супроць 6 большэвікоў. Першапачаткова большэвікі і ліквідатары ўтварылі ў думе адну агульную соцыял-дэмакратычную фракцыю. Пасля ўпорнай барацьбы з ліквідатарамі, якія перашкаджалі рэволюцыйнай рабоце большэвікоў, дэпутаты-большэвікі ў кастрычніку 1913 года, па ўказанню ЦК большэвіцкай партыі, вышлі з аб'яднанай соцыял-дэмакратычнай фракцыі і ўтварылі самастойную большэвіцкую фракцыю.

Большэвіцкія дэпутаты выступалі ў думе з рэволюцыйнымі прамовамі, у якіх выкрывалі самадзяржаўны лад, рабілі запросы ўраду аб расправах з рабочымі, аб бесчалавечнай эксплуатацыі рабочых капіталістамі.

Яны выступалі ў думе таксама па аграрнаму пытанню, заклікалі ў сваіх прамовах сялян да барацьбы супроць прыгоннікаў-памешчыкаў, выкрывалі кадэцкую партыю, якая стаяла супроць канфіскацыі памешчыцкіх зямель і перадачы іх сялянам.

Большэвікі ўнеслі ў Дзяржаўную думу законапраект аб 8-гадзінным рабочым дні, які, вядома, не быў прынят чорнасоценнай думай, але адыграў вялікую агітацыйную ролю.

Большэвіцкая фракцыя ў думе была цесна звязана з ЦК партыі, з Леніным і атрымлівала ад яго ўказанні. Непасрэдна кіраваў ёю ў часе свайго прабывання ў Пецербургу тав. Сталін.

Не абмяжоўваючыся работай у думе, дэпутаты-большэвікі развілі вялікую дзейнасць па-за думай. Яны выязджалі на фабрыкі і заводы,

ездзілі па рабочых цэнтрах краіны з дакладамі, арганізоўвалі тайныя сходы, на якіх раз'яснялі рашэнні партыі, стваралі новыя партыйныя арганізацыі. Дэпутаты ўмела спалучалі легальную дзейнасць з нелегальнай, падпольнай работай.

### 3. Перамога большэвікоў у легальных арганізацыях. Далейшы рост рэволюцыйнага руху. Пярэдадзень імперыялістычнай вайны.

Партыя большэвікоў паказала ў гэты перыяд узоры кіраўніцтва ўсімі формамі і праяўленнямі класавай барацьбы пролетарыята. Яна будавала падпольныя арганізацыі. Яна выдавала нелегальныя лістоўкі. Яна вяла тайную рэволюцыйную работу ў масах. Разам з тым яна ўсё больш авалодвала рознымі легальнымі арганізацыямі рабочага класа. Партыя імкнулася заваяваць прафесіянальныя саюзы, народныя дамы, вячэрнія універсітэты, клубы, страхавыя ўстановы. Гэтыя легальныя арганізацыі здаўна служылі прытулкам для ліквідатараў. Большэвікі павялі энергічную барацьбу за ператварэнне легальных таварыстваў у апорныя пункты нашай партыі. Умела спалучаючы нелегальную работу з легальнай, большэвікі заваялі на сваю старану ў абодвух сталіцах большасць прафесіянальных аб'яднанняў. Асабліва бліскучую перамогу большэвікі атрымалі пры выбарах у 1913 годзе праўлення саюза металістаў у Пецербургу: на сходзе з 3 тысяч металістаў ледзь 150 чалавек галасавала за ліквідатараў.

Тое-ж самае трэба сказаць аб такой легальнай арганізацыі, як соцыял-дэмакратычная фракцыя ў IV Дзяржаўнай думе. Хоць у меншавікоў было ў думе 7 дэпутатаў, а ў большэвікоў 6 дэпутатаў, меншавіцкая сямёрка, якая прайшла галоўным чынам ад нерабочых раёнаў, прадстаўляла ледзь ⅕ частку рабочага класа, тады як большэвіцкая шасцёрка, якая прайшла ад асноўных прамысловых цэнтраў краіны (Пецербург, Масква, Іванава-Вазнесенск, Кастрама, Екацерынаслаў, Харкаў), прадстаўляла больш ⅘ рабочага класа краіны. Рабочыя лічылі сваімі дэпутатамі шасцёрку (Бадаеў, Петроўскі і інш.), а не сямёрку.

Большэвікам удалося заваяваць легальныя арганізацыі таму, што яны, не гледзячы на дзікія праследаванні царызма і траўлю з боку ліквідатараў і троцкістаў, здолелі захаваць нелегальную партыю і цвёрдую дысцыпліну ў сваіх радах, стойка абаранялі інтарэсы рабочага класа, былі цесна звязаны з масамі і вялі непрымірымую барацьбу з ворагамі рабочага руху.

Такім чынам, перамога большэвікоў і паражэнне меншавікоў у легальных арганізацыях развіваліся па ўсёй лініі. Як у галіне агітацыі з думскай трыбуны, так і ў галіне рабочага друку і іншых легальных арганізацый меншавікі былі адкінуты на задні план. Ахоплены рэволюцыйным рухам рабочы клас упэўнена згуртоўваўся вакол большэвікоў, адкідаючы прэч меншавікоў.

У давяршэнне да ўсяго меншавікі аказаліся банкротамі ў галіне нацыянальнага пытання. Рэволюцыйны рух на акраінах Расіі патрабаваў яснай праграмы па нацыянальнаму пытанню. Але ў меншавікоў не аказалася ніякай праграмы, калі не лічыць «культурную аўтаномію» Бунда, якая нікога не магла задаволіць. Толькі ў большэвікоў аказалася марксісцкая праграма па нацыянальнаму пытанню, выкладзеная ў артыкуле тав. Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне» і ў артыкулах Леніна «Аб праве нацый на самавызначэнне» і «Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню».

Не дзіўна, што пасля такіх паражэнняў меншавізма Жнівеньскі блок стаў трашчаць па ўсіх швах. Складзены з match рознашэрсных элементаў, ён не вытрымаў напору большэвікоў і стаў распадацца на часткі. Створаны для барацьбы з большэвікамі, Жнівеньскі блок у хуткім часе распаўся пад ударамі большэвікоў. Спачатку вышлі з блока ўпяродаўцы (Багданаў, Луначарскі і інш.), потым вышлі латышы, потым разбрыліся астатнія.

Пацярпеўшы паражэнне ў барацьбе з большэвікамі, ліквідатары звярнуліся за дапамогай да II Інтэрнацыянала. II Інтэрнацыянал прышоў ім на дапамогу. Пад выглядам «прымірэння» большэвікоў з ліквідатарамі, пад выглядам устанаўлення «міру ў партыі» II Інтэрнацыянал патрабаваў ад большэвікоў спынення крытыкі згодніцкай палітыкі ліквідатараў. Але большэвікі былі непрымірымы: яны адмовіліся падпарадкавацца рашэнням апартуністычнага II Інтэрнацыянала і не пайшлі ні на якія ўступкі.

Перамога большэвікоў у легальных арганізацыях не была і не магла быць выпадковасцю. Яна не была выпадковасцю не толькі таму, што толькі большэвікі мелі правільную марксісцкую тэорыю, ясную праграму і загартаваную ў баях рэволюцыйную пролетарскую партыю. Яна не была выпадковасцю яшчэ таму, што перамога большэвікоў адлюстроўвала рост рэволюцыйнага ўздыму.

Рэволюцыйны рух рабочых усё больш разгортваўся, захватваючы новыя гарады і вобласці. З наступленнем 1914 года стачкі рабочых не толькі не сталі заціхаць, а, наадварот, сталі разгортвацца з новай сілай. Стачкі станавіліся ўсё больш упорнымі, захватвалі ўсё большую колькасць рабочых, 9 студзеня баставала 250 тысяч рабочых, з іх 140 тысяч—у Пецербургу. 1 мая баставала звыш поўмільёна, з іх у Пецербургу—больш 250 тысяч. У забастоўках рабочыя праяўлялі незвычайную стойкасць. На Обухаўскім заводзе ў Пецербургу забастоўка прадаўжалася больш двух месяцаў, на заводзе Леснер—каля трох месяцаў. Масавыя атручванні на радзе прадпрыемстваў Пецербурга выклікалі забастоўку 115 тысяч рабочых і следам за гэтым дэманстрацыі. Рух прадаўжаў нарастаць. Усяго за першае паўгоддзе 1914 года (уключаючы і пачатак ліпеня) баставала 1.425 тысяч рабочых.

У маі пачалася ўсеагульная забастоўка нафтапрамысловых рабочых у Баку, якая прыкавала да сябе ўвагу ўсяго пролетарыята Расіі. Стачка праходзіла арганізавана. 20 чэрвеня ў Баку адбылася дэманстрацыя 20 тысяч рабочых. Паліцыя прыняла супроць бакінскіх рабочых лютыя меры. У знак пратэсту і салідарнасці з бакінскімі рабочымі пачалася стачка ў Маскве, якая перакінулася ў іншыя раёны.

3 ліпеня на Пуцілаўскім заводзе ў Пецербургу адбываўся мітынг па поваду Бакінскай стачкі. Паліцыя страляла ў рабочых. Велізарнае ўзбуджэнне ахапіла пецербургскі пролетарыят. 4 ліпеня ў Пецербургу па закліку Пецербургскага камітэта партыі забаставала ў знак пратэсту 90 тысяч рабочых, 7 ліпеня баставала 130 тысяч, 8 ліпеня—150 тысяч, 11 ліпеня—200 тысяч.

Усе заводы былі ахоплены хваляваннем, усюды адбываліся мітынгі і дэманстрацыі. Справа дайшла да спроб будаваць барыкады. Барыкады будаваліся таксама ў Баку і Лодзі. У радзе пунктаў паліцыя страляла ў рабочых. Для падаўлення руху ўрад прадпрыняў «надзвычайныя» меры, сталіца была ператворана ў ваенны лагер, «Правда» была закрыта.

Але ў гэты час паявілася на сцэне новая сіла міжнароднага парадку—імперыялістычная вайна,—якая павінна была змяніць ход падзей. Якраз у часе ліпеньскіх рэволюцыйных падзей у Пецербург прыехаў для перагавораў з царом аб пачатку прадстаячай вайны французскі прэзідэнт Пуанкарэ. Праз некалькі дзён Германія аб'явіла вайну Расіі. Царскі ўрад скарыстаў вайну для таго, каб разграміць большэвіцкія арганізацыі і падавіць рабочы рух. Уздым рэволюцыі быў перарван сусветнай вайной, у якой царскі ўрад шукаў выратавання ад рэволюцыі.

## КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.

У годы новага рэволюцыйнага ўздыму (1912—1914) партыя большэвікоў узначаліла рабочы рух і вяла яго пад большэвіцкімі лозунгамі да новай рэволюцыі. Партыя здолела ажыццявіць спалучэнне нелегальнай работы з легальнай. Ламаючы супраціўленне ліквідатараў і іх прыяцеляў—трацкістаў і адзавістаў, яна авалодала ўсімі формамі легальнага руху і зрабіла легальныя арганізацыі апорнымі пунктамі сваёй рэволюцыйнай работы.

Змагаючыся з ворагамі рабочага класа і іх агентамі ў рабочым руху, партыя ўмацавала свае рады і расшырыла свае сувязі з рабочым класам. Шырока скарыстоўваючы думскую трыбуну для рэволюцыйнай агітацыі і стварыўшы выдатную масавую рабочую газету «Правда», партыя выхавала новае пакаленне рэволюцыйных рабочых—праўдзістаў. Гэты слой рабочых у годы імперыялістычнай вайны астаўся верны сцягу інтэрнацыяналізма і пролетарскай рэволюцыі. Ён-жа складаў потым ядро большэвіцкай партыі ў дні Кастрычніцкай рэволюцыі ў 1917 годзе.

Напярэдадні імперыялістычнай вайны партыя кіравала рэволюцыйнымі выступленнямі рабочага класа. Гэта былі авангардныя бaі, якія былі перарваны імперыялістычнай вайной, але якія аднавіліся потым, праз тры годы, для таго, каб звергнуць царызм. У цяжкую паласу імперыялістычнай вайны большэвіцкая партыя ўступала з разгорнутымі сцягамі пролетарскага інтэрнацыяналізма.

## Раздзел VI

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ. ДРУГАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ Ў РАСІІ.

## (1914 г.—сакавік 1917 г.).

### 1. Узнікненне і прычыны імперыялістычнай вайны.

14 (27) ліпеня 1914 года царскі ўрад аб'явіў усеагульную мабілізацыю. 19 ліпеня (1 жніўня) Германія аб'явіла вайну Расіі.

Расія ўступіла ў вайну.

Яшчэ задоўга да пачатку вайны Ленін, большэвікі прадбачылі яе немінучасць. На міжнародных з'ездах соцыялістаў Ленін выступаў са сваімі прапановамі, накіраванымі да таго, каб вызначыць рэволюцыйную лінію паводзін соцыялістаў у выпадку ўзнікнення вайны.

Ленін указваў, што войны—немінучы спадарожнік капіталізма. Грабеж чужых зямель, заваяванне і аграбленне калоній, захват новых рынкаў не раз служылі прычынай заваявальных войн капіталістычных дзяржаў. Вайна для капіталістычных краін з'яўляецца такім-жа натуральным і законным станам, як эксплуатацыя рабочага класа.

У асаблівасці войны сталі немінучы, калі капіталізм у канцы XIX і ў пачатку XX века канчаткова перарос у вышэйшую і апошнюю ступень свайго развіцця—імперыялізм. Пры імперыялізме набылі рашаючую ролю ў жыцці капіталістычных дзяржаў магутныя аб'яднанні (манаполіі) капіталістаў і банкі. Фінансавы капітал стаў гаспадаром у капіталістычных дзяржавах. Фінансавы капітал патрабаваў новых рынкаў, захвату новых калоній, новых месц для вывазу капітала, новых крыніц сыравіны.

Але ўжо ў канцы XIX века ўся тэрыторыя зямнога шара аказалася падзеленай паміж капіталістычнымі дзяржавамі. Між тым, развіццё капіталізма ў эпоху імперыялізма адбываецца надзвычай няроўнамерна і скачкападобна: адны краіны, якія раней былі на першым месцы, развіваюць сваю прамысловасць параўнальна павольна, другія, якія раней былі адсталымі, быстрымі скачкамі наганяюць і пераганяюць іх. Змяняліся суадносіны эканамічных і ваенных сіл імперыялістычных дзяржаў. Паяўлялася імкненне да новага перадзелу свету. Барацьба за новы перадзел свету ыклі ала немінучасць імперыялістычнай вайны. Вайна 1914 года была вайной за перадзел свету і сфер уплыву. Яна задоўга падрыхтоўвалася ўсімі імперыялістычнымі дзяржавамі. Яе віноўнікі—імперыялісты ўсіх краін.

У асаблівасці-ж гэтая вайна падрыхтоўвалася Германіяй і Аўстрыяй, з аднаго боку, Францыяй, Англияй і залежнай ад іх Расіяй—з другога. У 1907 годзе ўзнікла Тройственая згода, або Антанта,—саюз Англіі, Францыі і Расіі. Другі імперыялістычны саюз складалі Германія, Аўстра-Венгрыя і Італія. Але Італія ў пачатку вайны 1914 года вышла з гэтага саюза, а затым далучылася да Антанты. Германію і Аўстра-Венгрыю падтрымлівалі Балгарыя і Турцыя.

Падрыхтоўваючыся да імперыялістычнай вайны, Германія імкнулася адабраць у Англіі і Францыі калоніі, у Расіі—Украіну, Польшчу, Прыбалтыку. Германія пагражала панаванню Англіі на Бліжнім Усходзе, пабудаваўшы Багдадскую чыгунку. Англія баялася росту марскіх узбраенняў Германіі.

Царская Расія імкнулася да раздзелу Турцыі, марыла аб заваяванні праліваў з Чорнага мора к Сяродземнаму мору (Дарданелы), аб захваце Канстанцінопаля. У планы царскага ўрада ўваходзіў таксама захват Галіцыі—часткі Аўстра-Венгрыі.

Англія імкнулася пры дапамозе вайны разбіць свайго небяспечнага канкурэнта—Германію, тавары якой перад вайной сталі ўсё больш выцясняць англійскія тавары на сусветным рынку. Апрача таго, Англія намервалася захваціць у Турцыі Месапатамію, Палесціну і цвёрда абаснавацца ў Егіпце.

Французскія капіталісты імкнуліся захваціць у Германіі багатыя вугалем і жалезам Саарскі басейн і Эльзас-Латарынгію, якая была адабрана Германіяй у Францыі ў вайне 1870—1871 годаў.

Такім чынам, да імперыялістычнай вайны прывялі буйнейшыя супярэчнасці паміж двума групамі капіталістычных дзяржаў.

Гэтая грабежніцкая вайна за перадзел свету закранала інтарэсы ўсіх імперыялістычных краін, і таму ў яе аказаліся ў далейшым уцягнутымі Японія, Злучаныя Штаты Амерыкі і рад іншых дзяржаў.

Вайна стала сусветнай.

Імперыялістычная вайна падрыхтоўвалася буржуазіяй у глыбокай тайне ад сваіх народаў. Калі вайна выбухнула, кожны імперыялістычны ўрад стараўся даказаць, што не ён напаў на суседзяў, а на яго напалі. Буржуазія абманвала народ, скрываючы сапраўдныя мэты вайны, яе імперыялістычны, захватніцкі характар. Кожны імперыялістычны ўрад заяўляў, што вайна вядзецца для абароны сваёй радзімы.

Абманваць народ дапамагалі буржуазіі апартуністы з II Інтэрнацыянала. Соцыял-дэмакраты II Інтэрнацыянала подла здрадзілі справе соцыялізма, справе міжнароднай салідарнасці пролетарыята. Яны не толькі не выступілі супроць вайны, але, наадварот, дапамагалі буржуазіі натраўліваць рабочых і сялян ваюючых дзяржаў адных на другіх пад сцягам абароны бацькаўшчыны.

Расія не выпадкова выступіла ў імперыялістычнай вайне на старане Антанты—Францыі і Англіі. Неабходна мець на ўвазе, што перад 1914 годам важнейшыя галіны прамысловасці Расіі знаходзіліся ў руках замежнага капітала, галоўным чынам французскага, англійскага і бельгійскага, гэта значыць краін Антанты. Важнейшыя металургічныя заводы Расіі знаходзіліся ў руках французскіх капіталістаў. У цэлым металургія амаль на тры чвэрці (на 72 проценты) залежала ад замежнага капітала. У каменавугальнай прамысловасці—у Данбасе—была такая-ж карціна. Каля палавіны нафтавай здабычы знаходзілася ў руках англа-французскага капітала. Значная частка прыбыткаў

рускай прамысловасці ішла ў загранічныя, пераважна—у англа-французскія, банкі. Усе гэтыя акалічнасці плюс мільярдныя пазыкі, заключаныя царом ва Францыі і Англіі, прыкавалі царызм да англа-французскага імперыялізма, ператварылі Расію ў данніцу гэтых краін, у іх поўкалонію.

Руская буржуазія разлічвала, пачаўшы вайну, паправіць свае справы: заваяваць новыя рынкі, нажыцца на ваенных заказах і пастаўках і заадно падавіць рэволюцыйны рух, скарыстоўваючы ваенную абстаноўку.

Царская Расія ўступіла ў вайну непадрыхтаванай. Прамысловасць Расіі сільна адставала ад іншых капіталістычных краін. У ёй пераважалі старыя фабрыкі і заводы са зношаным абсталяваннем. Сельская гаспадарка пры наяўнасці поўпрыгонніцкага землеўладання і масы абнішчалага, разоранага сялянства не магла служыць моцнай эканамічнай асновай для вядзення працяглай вайны.

Цар апіраўся галоўным чынам на прыгоннікаў-памешчыкаў. Буйныя чорнасоценныя памешчыкі ў блоку з буйнымі капіталістамі гаспадарылі ў краіне і ў Дзяржаўнай думе. Яны цалкам падтрымлівалі ўнутраную і знешнюю палітыку царскага ўрада. Руская імперыялістычная буржуазія спадзявалася на царскае самадзяржаўе, як на бранíраваны кулак, які мог забяспечыць ёй захват новых рынкаў і новых зямель, з аднаго боку, і падаўляць рэволюцыйны рух рабочых і сялян—з другога.

Партыя ліберальнай буржуазіі—кадэты—прадстаўляла з сябе апазіцыю, але знешнюю палітыку царскага ўрада падтрымлівала без агаворак.

Дробнабуржуазныя партыі эсэраў і меншавікоў з самага пачатку вайны, маскіруючыся сцягам соцыялізма, дапамагалі буржуазіі абманваць народ, скрываць імперыялістычны, грабежніцкі характар вайны. Яны прапаведвалі неабходнасць аховы, неабходнасць абароны буржуазнай «бацькаўшчыны» ад «пруcкіх варвараў», падтрымлівалі палітыку «грамадзянскага міру» і дапамагалі, такім чынам, ураду рускага цара весці вайну таксама, як германскія соцыял-дэмакраты дапамагалі ўраду германскага цара весці вайну супроць «рускіх варвараў».

Толькі партыя большэвікоў асталася вернай вялікаму сцягу рэволюцыйнага інтэрнацыяналізма, астаючыся цвёрда на марксісцкіх пазіцыях рашучай барацьбы супроць царскага самадзяржаўя, супроць памешчыкаў і капіталістаў, супроць імперыялістычнай вайны. Большэвіцкая партыя з першых-жа дзён вайны прытрымлівалася той устаноўкі, што вайна пачата не для абароны бацькаўшчыны, а для захвату чужых зямель, для аграблення чужых народаў у інтарэсах памешчыкаў і капіталістаў, што з гэтай вайной рабочым трэба весці рашучую вайну.

Рабочы клас падтрымліваў партыю большэвікоў.

Праўда, буржуазна-патрыятычны чад, які ахапіў у пачатку вайны інтэлігенцыю і кулацкія слаі сялянства, закрануў таксама некаторую частку рабочых. Але гэта былі пераважна члены хуліганскага «Саюза рускага народа» і частка эсэраўска-меншавіцкі настроеных рабочых. Яны, вядома, не адлюстроўвалі і не маглі адлюстроўваць настрояў рабочага класа. Гэтыя іменна элементы і аказаліся ўдзельнікамі шавіністычных маніфестацый буржуазіі, арганізаваных царскім урадам у першыя дні вайны.

## 2. Пераход партый II Інтэрнацыянала на старану сваіх імперыялістычных урадаў. Распадзенне II Інтэрнацыянала на асобныя соцыял-шавіністычныя партыі.

Ленін не раз папярэджваў аб апартунізме II Інтэрнацыянала і няўстойлівасці яго правадыроў. Ён увесь час цвярдзіў, што правадыры II Інтэрнацыянала толькі на словах стаяць супроць вайны, што ў выпадку, калі вайна надыйдзе, яны могуць змяніць сваю пазіцыю і перабегчы на бок імперыялістычнай буржуазіі, могуць стаць староннікамі вайны. Першыя-ж дні вайны пацвердзілі прадбачанне Леніна.

У 1910 годзе на кангрэсе II Інтэрнацыянала ў Капенгагене было прынята рашэнне аб тым, што соцыялісты павінны ў парламентах галасаваць супроць ваенных крэдытаў. У часе вайны на Балканах у 1912 годзе Міжнародны кангрэс II Інтэрнацыянала ў Базеле заявіў, што рабочыя ўсіх краін лічаць злачынствам страляць адны ў другіх дзеля павелічэння прыбыткаў капіталістаў. Так было на словах, у рэзалюцыях.

Калі-ж грымнуў гром імперыялістычнай вайны і трэба было гэтыя рашэнні правесці ў жыццё, правадыры II Інтэрнацыянала аказаліся прэдацелямі, здраднікамі пролетарыята, аказаліся слугамі буржуазіі,—сталі староннікамі вайны.

4 жніўня 1914 года германская соцыял-дэмакратыя галасавала ў парламенце за ваенныя крэдыты, за падтрыманне імперыялістычнай вайны. Тое-ж самае зрабіла пераважная большасць соцыялістаў Францыі, Англіі, Бельгіі і іншых краін.

II Інтэрнацыянал перастаў існаваць. Ён распаўся на справе на асобныя соцыял-шавіністычныя партыі, ваюючыя адна з другой.

Правадыры соцыялістычных партый, здрадзіўшы пролетарыяту, перайшлі на пазіцыю соцыял-шавінізма і абароны імперыялістычнай буржуазіі. Яны дапамагалі імперыялістычным урадам абдурваць рабочы клас і атручваць яго ядам нацыяналізма. Гэтыя соцыял-прэдацелі пад сцягам абароны бацькаўшчыны пачалі натраўліваць нямецкіх рабочых на французскіх, а англійскіх і французскіх рабочых— на нямецкіх. Толькі нязначная меншасць у II Інтэрнацыянале асталася на інтэрнацыяналістычнай пазіцыі і пайшла супроць цячэння, праўда, не зусім упэўнена і не зусім цвёрда, але ўсё-ж пайшла супроць цячэння.

Толькі партыя большэвікоў адразу-ж і без хістанняў падняла сцяг рашучай барацьбы супроць імперыялістычнай вайны. У тэзісах аб вайне, напісаных Леніным восенню 1914 г., Ленін указваў, што падзенне II Інтэрнацыянала не з'яўляецца выпадковасцю. II Інтэрнацыянал загубілі апартуністы, супроць якіх ужо даўно папярэджвалі лепшыя прадстаўнікі рэволюцыйнага пролетарыята.

Партыі II Інтэрнацыянала і да вайны былі заражаны апартунізмам. Апартуністы адкрыта прапаведвалі адмову ад рэволюцыйнай барацьбы, прапаведвалі тэорыю «мірнага ўрастання капіталізма ў соцыялізм». II Інтэрнацыянал не хацеў змагацца з апартунізмам, стаяў за мір з ім і даў яму ўмацавацца. Прытрымліваючыся прымірэнчай палітыкі ў адносінах апартунізма, II Інтэрнацыянал сам стаў апартуністычным.

Імперыялістычная буржуазія за кошт сваіх прыбыткаў ад калоній, ад эксплуатацыі адсталых краін сістэматычна падкупляла шляхам



больш высокай заработнай платы і іншых падачак вярхушку кваліфікаваных рабочых, так званую рабочую арыстакратыю. З гэтай праслойкі рабочых вышла нямала кіраўнікоў профсаюзаў і каапэратываў, муніцыпальных і парламенцкіх дэпутатаў, работнікаў друку і социял-дэмакратычных арганізацый. У момант вайны гэтыя людзі, баючыся страціць сваё становішча, сталі праціўнікамі рэволюцыі, сталі самымі ярымі абаронцамі сваёй буржуазіі, сваіх імперыялістычных урадаў.

Апартуністы сталі соцыял-шавіністамі.

Соцыял-шавіністы, у тым ліку рускія меншавікі і эсэры, прапаведвалі **класавы мір** рабочых з буржуазіяй унутры краіны і вайну з іншымі народамі па-за сваёй краінай. Яны абманвалі масы наконт сапраўдных віноўнікаў вайны, заяўляючы, што буржуазія іх краіны не вінавата ў вайне. Многія соцыял-шавіністы сталі міністрамі імперыялістычных урадаў сваёй краіны.

Не менш небяспечнымі для справы пролетарыята былі скрытыя соцыял-шавіністы, так званыя цэнтрысты. Цэнтрысты—Каўцкі, Троцкі, Мартаў і іншыя апраўдвалі і абаранялі адкрытых соцыял-шавіністаў, стала быць, здраджвалі пролетарыяту разам з соцыял-шавіністамі, прыкрываючы сваю здраду «левымі» фразамі аб барацьбе з вайной, разлічанымі на абман рабочага класа. На справе цэнтрысты падтрымлівалі вайну, бо прапанова цэнтрыстаў не галасаваць супроць крэдытаў на вайну і абмежавацца ўстрыманнем пры галасаванні крэдытаў на вайну,—азначала падтрыманне вайны. Яны таксама, як і соцыял-шавіністы, патрабавалі адмовы ад класавай барацьбы ў часе вайны, каб не перашкаджаць свайму імперыялістычнаму ўраду весці вайну. Цэнтрыст Троцкі па ўсіх важнейшых пытаннях вайны і соцыялізма стаяў супроць Леніна, супроць большэвіцкай партыі.

Ленін стаў з першых-жа дзён вайны збіраць сілы для стварэння новага, III Інтэрнацыянала. Ужо ў маніфесце супроць вайны ў лістападзе 1914 года ЦК большэвіцкай партыі паставіў задачу стварыць III Інтэрнацыянал замест пацярпеўшага ганебны крах II Інтэрнацыянала.

У лютым 1915 года ў Лондане на канферэнцыі соцыялістаў краін Антанты па даручэнню Леніна выступіў т. Літвінаў. Літвінаў патрабаваў выхаду соцыялістаў (Вандэрвельдэ, Самба, Гэд) з буржуазных урадаў Бельгіі і Францыі і поўнага разрыву з імперыялістамі, адмовы ад супрацоўніцтва з імі. Ён патрабаваў ад усіх соцыялістаў рашучай барацьбы супроць сваіх імперыялістычных урадаў і асуджэння галасавання за ваенныя крэдыты. Але голас Літвінава на гэтай канферэнцыі прагучэў адзінока.

У пачатку верасня 1915 года ў Цымервальдзе сабралася першая канферэнцыя інтэрнацыяналістаў. Ленін называў гэтую канферэнцыю «першым крокам» у развіцці інтэрнацыянальнага руху супроць вайны. Ленін утварыў на гэтай канферэнцыі Цымервальдскую левую групу. Але ў гэтай Цымервальдскай левай адзіна правільную, да канца паслядоўную пазіцыю супроць вайны займала толькі партыя большэвікоў на чале з Леніным. Цымервальдская левая выдавала на нямецкай мове журнал «Прадвеснік», у якім друкаваліся артыкулы Леніна.

У 1916 годзе ўдалося склікаць у швейцарскай вёсцы Кінталі другую канферэнцыю інтэрнацыяналістаў. Яна называецца другой Цымервальдскай канферэнцыяй. К гэтаму часу амаль ва ўсіх краінах выдзе-

ліліся групы інтэрнацыяналістаў, больш рэзка намеціўся раскол інтэрнацыяналістычных элементаў з соцыял-шавіністамі. А галоўнае—самі масы к гэтаму часу палявелі пад уплывам вайны і выкліканых ёю бядот. Кінтальскі маніфест быў выпрацаван у рэзультаце пагаднення розных груп, якія змагаліся на канферэнцыі. Ён быў крокам уперад у параўнанні з Цымервальдскім маніфестам.

Але і Кінтальская канферэнцыя не прыняла асноўных палажэнняў палітыкі большэвікоў: ператварэнне імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую, паражэнне ў вайне сваіх імперыялістычных урадаў, арганізацыя III Інтэрнацыянала. Тым не менш Кінтальская канферэнцыя садзейнічала выдзяленню інтэрнацыяналістычных элементаў, з якіх у далейшым утварыўся Комуністычны III Інтэрнацыянал.

Ленін крытыкаваў памылкі непаслядоўных інтэрнацыяналістаў з левых соцыял-дэмакратаў, такіх, як Роза Люксембург, Карл Лібкнехт, але ў той-жа час дапамагаў ім заняць правільную пазіцыю.

### 3. Тэорыя і тактыка большэвіцкай партыі па пытаннях вайны, міру і рэволюцыі.

Большэвікі не былі простымі пацыфістамі (старроннікамі міру), якія ўздыхалі аб міры і абмяжоўваліся прапагандай міру, як гэта рабіла большасць левых соцыял-дэмакратаў. Большэвікі стаялі за актыўную рэволюцыйную барацьбу за мір аж да звяржэння ўлады ваяўнічай імперыялістычнай буржуазіі. Большэвікі звязвалі справу міру са справай перамогі пролетарскай рэволюцыі, лічачы, што найбольш верным сродкам для ліквідацыі вайны і завяявання справядлівага міру, міру без анексій і кантрыбуцый,—з'яўляецца звяржэнне ўлады імперыялістычнай буржуазіі.

Супроць меншавіцка-эсэраўскага адрачэння ад рэволюцыі і прэдацельскага лозунга аб захаванні «грамадзянскага міру» ў часе вайны—большэвікі выставілі лозунг **«ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую».** Лозунг гэты азначаў, што працоўныя, у тым ліку ўзброеныя рабочыя і сяляне, · пераадзетыя ў салдацкія шынелі, павінны павярнуць зброю супроць сваёй буржуазіі і звергнуць яе ўладу, калі яны хочуць вызваліцца ад вайны і дабіцца справядлівага міру.

Супроць меншавіцка-эсэраўскай палітыкі абароны буржуазнай бацькаўшчыны—большэвікі выставілі палітыку **«паражэння свайго ўрада ў імперыялістычнай вайне».** Гэта азначала, што неабходна галасаваць супроць ваенных крэдытаў, ствараць нелегальныя рэволюцыйныя арганізацыі ў арміі, падтрымліваць братанне салдат на фронце і арганізоўваць рэволюцыйныя выступленні рабочых і сялян супроць вайны, пераводзячы іх у паўстанне супроць свайго імперыялістычнага ўрада.

Большэвікі лічылі, што найменшым злом для народа ў імперыялістычнай вайне было-б ваеннае паражэнне царскага ўрада, бо яно аблегчыла-б перамогу народа над царызмам і паспяховую барацьбу рабочага класа за вызваленне ад капіталістычнага рабства і імперыялістычных войн. Пры гэтым Ленін лічыў, што палітыку паражэння свайго імперыялістычнага ўрада павінны праводзіць не толькі рускія рэволюцыянеры, але і рэволюцыйныя партыі рабочага класа **ўсіх** ваюючых краін.

Большэвікі не былі супроць **усякай** вайны. Яны былі толькі супроць захватніцкай, супроць імперыялістычнай вайны. Большэвікі лічылі, што вайна бывае двух радоў:

а) вайна **справядлівая,** незахватніцкая, вызваленчая, якая мае на мэце або абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення, або вызваленне народа ад рабства капіталізма, або, нарэшце, вызваленне калоній і залежных краін ад гнёту імперыялістаў, і

б) вайна **несправядлівая,** захватніцкая, якая мае на мэце захват і заняволенне чужых краін, чужых народаў.

Вайну першага роду большэвікі падтрымлівалі. Што датычыць вайны другога роду, большэвікі лічылі, што супроць яе трэба весці рашучую барацьбу аж да рэволюцыі і зваржэння свайго імперыялістычнага ўрада.

Велізарнае значэнне для рабочага класа ўсяго свету мелі тэарэтычныя работы Леніна ў часе вайны. Вясной 1916 года Ленін напісаў работу: «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма». Ленін паказаў у гэтай кнізе, што імперыялізм—гэта вышэйшая стадыя капіталізма, калі ён паспеў ужо з «прагрэсіўнага» капіталізмаператварыцца ў капіталізм паразітычны, у капіталізм загніваючы, што імперыялізм—ёсць паміраючы капіталізм. Гэта, вядома, не азначала, што капіталізм сам адамрэ, без рэволюцыі пролетарыята, што ён сам згніе на корані. Ленін заўсёды вучыў, што без рэволюцыі рабочага класа немагчыма звергнуць капіталізм. Таму, вызначыўшы імперыялізм, як паміраючы капіталізм, Ленін разам з тым паказаў у гэтай кнізе, што «імперыялізм ёсць пярэдадзень соцыяльнай рэволюцыі пролетарыята».

Ленін паказаў, што капіталістычны гнёт у эпоху імперыялізма ўсё больш узмацняецца, што ва ўмовах імперыялізма расце абурэнне пролетарыята супроць асноў капіталізма, нарастаюць элементы рэволюцыйнага выбуху ўнутры капіталістычных краін.

Ленін паказаў, што ў эпоху імперыялізма абвастраецца рэволюцыйны крызіс у каланіяльных і залежных краінах, нарастаюць элементы абурэння супроць імперыялізма, нарастаюць элементы вызваленчай вайны супроць імперыялізма.

Ленін паказаў, што ва ўмовах імперыялізма няроўнамернасць развіцця і супярэчнасці капіталізма асабліва абвастрыліся, што барацьба за рынкі збыту тавараў і вывазу капітала, барацьба за калоніі, за крыніцы сыравіны робіць немінучымі перыядычныя імперыялістычныя войны за новы перадзел свету.

Ленін паказаў, што іменна ў выніку гэтай няроўнамернасці развіцця капіталізма адбываюцца імперыялістычныя войны, якія аслабляюць сілы імперыялізма і робяць магчымым прарыў фронта імперыялізма там, дзе ён акажацца ўсяго слабей.

На падставе ўсяго гэтага Ленін прышоў да вываду, што зусім магчым прарыў імперыялістычнага фронта пролетарыятам дзе-небудзь у адным месцы або некалькіх месцах, што **магчыма** перамога соцыялізма першапачаткова ў некалькіх краінах або нават у адной, асобна ўзятай, краіне, што адначасовая перамога соцыялізма ва ўсіх краінах з прычыны няроўнамернасці развіцця капіталізма ў гэтых краінах—**немагчыма,** што соцыялізм пераможа першапачаткова ў адной або некалькіх краінах, а астатнія краіны на працягу некаторага часу астануцца буржуазнымі краінамі.

Вось фармуліроўка гэтага геніяльнага вываду, даная Леніным у

двух розных артыкулах, напісаных у перыяд імперыялістычнай вайны:

1) «Нявоўнамернасць эканамічнага і палітычнага развіцця ёсць безумоўны закон капіталізма. Адсюль вынікае, што магчыма перамога соцыялізма першапачаткова ў нямногіх або нават у адной, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне. Перамогшы пролетарыят гэтай краіны, экспрапрыяваўшы капіталістаў і арганізаваўшы ў сябе соцыялістычную вытворчасць, паўстаў-бы **супроць** астатняга, капіталістычнага свету, прыцягваючы да сябе прыгнечаныя класы іншых краін»... (З артыкула «Аб лозунгу Злучаных Штатаў Еўропы», пісанага ў жніўні 1915 года) (**Ленін**, т. XVIII, стар. 232—233).

2) «Развіццё капіталізма адбываецца ў вышэйшай ступені няроўнамерна ў розных краінах. Інакш і не можа быць пры таварнай вытворчасці. Адсюль бясспрэчны вывад: соцыялізм не можа перамагчы аднача́сова **ва ўсіх** краінах. Ён пераможа першапачаткова ў адной або некалькіх краінах, а астатнія на працягу некаторага часу астануцца буржуазнымі або дабуржуазнымі. Гэта павінна выклікаць не толькі трэнні, але і прамое імкненне буржуазіі іншых краін да разгрому пераможнага пролетарыята соцыялістычнай дзяржавы. У гэтых выпадках вайна з нашага боку была-б законнай і справядлівай. Гэта была-б вайна за соцыялізм, за вызваленне іншых народаў ад буржуазіі» (З артыкула «Ваенная праграма пролетарскай рэволюцыі», пісанага восенню 1916 года) (**Ленін**, т. XIX, стар. 325).

Гэта была **новая**, закончаная тэорыя соцыялістычнай рэволюцыі, тэорыя аб магчымасці перамогі соцыялізма ў асобных краінах, аб умовах яго перамогі, аб перспектывах яго перамогі, тэорыя, асновы якой былі намечаны Леніным яшчэ ў 1905 годзе ў брашуры «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».

Яна ў корані разыходзілася з той устаноўкай, якая мела хаджэнне сярод марксістаў у перыяд **даімперыялістычнага** капіталізма, калі марксісты лічылі, што перамога соцыялізма ў адной якой-небудзь краіне немагчыма, што перамога соцыялізма адбудзецца аднача́сова ва ўсіх цывілізаваных краінах. Ленін, на падставе даных аб **імперыялістычным** капіталізме, выкладзеных у яго выдатнай кнізе «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма», перавярнуў гэту ўстаноўку, як устарэлую, і даў новую тэарэтычную ўстаноўку, у сілу якой аднача́совая перамога соцыялізма ва ўсіх краінах лічыцца **немагчымай**, а перамога соцыялізма ў адной, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне прызнаецца **магчымай**.

Неацанімае значэнне ленінскай тэорыі соцыялістычнай рэволюцыі заключаецца не толькі ў тым, што яна ўзбагаціла марксізм новай тэорыяй і рушыла яго ўперад. Яе значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што яна дае рэволюцыйную перспектыву пролетарыям асобных краін, развязвае іх ініцыятыву ў справе націску на сваю, нацыянальную, буржуазію, вучыць іх скарыстоўваць абстаноўку вайны для арганізацыі такога націску і ўмацоўвае іх веру ў перамогу пролетарскай рэволюцыі.

Такая вось была тэарэтычная і тактычная ўстаноўка большэвікоў па пытаннях вайны, міру і рэволюцыі.

На аснове гэтай устаноўкі праводзілі сваю практычную работу ў Расіі большэвікі.

Не гледзячы на жорсткія паліцэйскія праследаванні, думскія дэпутаты—большэвікі Бадаеў, Петроўскі, Муранаў, Самойлаў, Шагаў у пачатку вайны прадпрынялі аб'езд раду арганізацый з дакладамі аб адносінах большэвікоў да вайны і рэволюцыі. У лістападзе 1914 года была склікана нарада большэвіцкай фракцыі Дзяржаўнай думы для абмеркавання пытання аб адносінах да вайны. На трэці дзень пасяджэнне гэтае ў поўным саставе было арыштавана. Суд прыгаварыў усіх дэпутатаў да пазбаўлення правоў і ссылкі на пасяленне ва Усходнюю Сібір. Царскі ўрад абвінавачваў большэвіцкіх дэпутатаў Дзяржаўнай думы «ў дзяржаўнай здрадзе».

На судзе выяснілася карціна дзейнасці думскіх дэпутатаў, якая рабіла чэсць нашай партыі. Мужна вялі сябе большэвікі-дэпутаты перад царскім судом, ператварыўшы яго ў трыбуну для выкрыцця захватніцкай палітыкі царызма.

Інакш вёў сябе прыцягнуты па гэтай справе Каменеў. З прычыны сваёй трусасці ён пры першай-жа небяспецы адрокся ад палітыкі большэвіцкай партыі. Каменеў на судзе заявіў, што ён не згодзен з большэвікамі па пытанню аб вайне, і ў доказ гэтага прасіў выклікаць сведкай меншавіка Іорданскага.

Вялікую работу правялі большэвікі супроць ваенна-прамысловых камітэтаў, якія абслугоўвалі вайну, супроць спроб меншавікоў падпарадкаваць рабочых уплыву імперыялістычнай буржуазіі. Буржуазія была кроўна зацікаўлена ў тым, каб прадставіць перад усімі імперыялістычную вайну, як вайну ўсенародную. Буржуазія дабілася ў часе вайны вялікага ўплыву на дзяржаўныя справы, стварыўшы сваю ўсерасійскую арганізацыю—саюзы земстваў і гарадоў. Ей трэба было падпарадкаваць свайму кіраўніцтву і ўплыву таксама і рабочых. Буржуазія прыдумала для гэтага сродак—стварэнне «рабочых груп» пры ваенна-прамысловых камітэтах. Меншавікі падхапілі гэту ідэю буржуазіі. Буржуазіі выгадна было прыцягнуць у гэтыя ваенна-прамысловыя камітэты прадстаўнікоў рабочых, якія агітавалі-б сярод рабочых мас за неабходнасць узмацніць прадукцыйнасць працы на снарадных, гарматных, збройных, патронных і іншых фабрыках і заводах, якія працавалі на абарону. «Усё для вайны, усе на вайну»,—такі быў лозунг буржуазіі. На справе гэты лозунг абазначаў: «Нажывайся ва-ўсю на ваенных пастаўках і на захваце чужых зямель». Меншавікі прынялі дзейны ўдзел у гэтай лжэпатрыятычнай справе, зацеянай буржуазіяй. Дапамагаючы капіталістам, яны ўзмоцнена агітавалі рабочых прымаць удзел у выбарах «рабочых груп» пры ваенна-прамысловых камітэтах. Большэвікі былі супроць гэтай зацеі. Яны былі за байкот ваенна-прамысловых камітэтаў і правялі паспяхова гэты байкот. Але частка рабочых усё-такі прыняла ўдзел у дзейнасці ваенна-прамысловых камітэтаў пад кіраўніцтвам вядомага меншавіка Гваздзёва і правакатара Абрасімава. Калі-ж упаўнаважаныя ад рабочых сабраліся ў верасні 1915 года для канчатковых выбараў у «рабочыя групы» ваенна-прамысловых камітэтаў, то аказалася, што большасць упаўнаважаных супроць удзелу ў іх. Большасць прадстаўнікоў рабочых вынесла рэзкую рэзалюцыю супроць удзелу ў ваенна-прамысловых камітэтах, заявіўшы, што рабочыя ставяць перад сабой задачу—змагацца за мір, за звяржэнне царызма.

Вялікую работу разгарнулі большэвікі таксама ў арміі і флоце. Яны раз'яснялі масам салдат і матросаў, хто вінават у нечуваных

жахах вайны і пакутах народа, раз'яснялі, што рэволюцыя—адзіны выхад для народа з імперыялістычнай бойні. Большэвікі стваралі ячэйкі ў арміі і флоце, на фронце і ў тылавых часцях, распаўсюджвалі лістоўкі з заклікам супроць вайны.

У Кранштаце большэвікамі быў створан «Галоўны калектыў кранштацкай ваеннай арганізацыі», які знаходзіўся ў цеснай сувязі з Петраградскім камітэтам партыі. Была створана ваенная арганізацыя пры Петраградскім камітэце партыі для работы ў гарнізоне. У жніўні 1916 года начальнік петраградскай ахранкі даносіў, што ў «Кранштацкім калектыве справа пастаўлена вельмі сур'ёзна, канспіратыўна, і ўдзельнікі—усе маўклівыя і асцярожныя людзі. Калектыў гэты мае прадстаўнікоў і на беразе».

Партыя на фронце вяла агітацыю за братанне паміж салдатамі ваюючых армій, падкрэсліваючы, што вораг—гэта сусветная буржуазія і што вайну скончыць можна, толькі ператварыўшы вайну імперыялістычную ў вайну грамадзянскую і накіраваўшы зброю супроць сваёй уласнай буржуазіі і яе ўрада. Усё часцей паўтараліся выпадкі адмовы асобных вайсковых часцей ісці ў наступленне. Такія факты мелі месца ўжо ў 1915 годзе і асабліва ў 1916 годзе.

Асабліва вялікая работа была разгорнута большэвікамі ў арміях паўночнага фронта ў раёне Прыбалтыкі. Галоўнакамандуючы арміяй паўночнага фронта генерал Рузскі паведамляў па начальству ў пачатку 1917 года аб велізарнай рэволюцыйнай рабоце, разгорнутай большэвікамі на гэтым фронце.

Вайна была найвялікшым пераломам у жыцці народаў, у жыцці міжнароднага рабочага класа. Яна паставіла на карту лёс дзяржаў, лёс народаў, лёс соцыялістычнага руху. Таму яна была разам з тым пробным каменем, іспытаннем для ўсіх партый і плыней, якія называлі сябе соцыялістычнымі. Ці астануцца гэтыя партыі і плыні вернымі справе соцыялізма, справе інтэрнацыяналізма, або палічаць за лепшае здрадзіць рабочаму класу, згарнуць свае сцягі і кінуць іх к стапам сваёй нацыянальнай буржуазіі,—так стаяла тады пытанне.

Вайна паказала, што партыі II Інтэрнацыянала не вытрымалі іспытання, здрадзілі рабочаму класу і схілілі свае сцягі перад сваёй, нацыянальнай, імперыялістычнай буржуазіяй.

Інакш і не маглі паступіць гэтыя партыі, якія культывавалі ў сваім асяроддзі апартунізм і былі выхаваны на ўступках апартуністам, нацыяналістам.

Вайна паказала, што партыя большэвікоў была адзінай партыяй, якая вытрымала з чэсцю іспытанне і асталася вернай да канца справе соцыялізма, справе пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Яно і зразумела: толькі партыя новага тыпу, толькі партыя, выхаваная ў духу непрымірымай барацьбы з апартунізмам, толькі партыя, свабодная ад апартунізма і нацыяналізма—толькі такая партыя магла вытрымаць вялікае іспытанне і астацца вернай справе рабочага класа, справе соцыялізма і інтэрнацыяналізма.

Большэвіцкая партыя была такой іменна партыяй.

### 4. Паражэнне царскіх войск на фронце. Гаспадарчая разруха. Крызіс царызма.

Вайна ішла ўжо тры годы. Вайна забірала мільёны чалавечых жыццяў, забітых, раненых, памёршых у рэзультаце эпідэмій, паро-

джаных вайной. Буржуазія і памешчыкі нажываліся на вайне. Але рабочыя і сяляне пераносілі ўсё больш нужды і лішэнняў. Вайна разбурала народную гаспадарку Расіі. Каля 14 мільёнаў здаровых работнікаў было ўзята ў армію, адарвана ад гаспадаркі. Фабрыкі і заводы спыняліся. Скараціліся пасевы зярна—нехапала работнікаў. Насельніцтва і салдаты на фронце галадалі, былі разуты і раздзеты. Вайна пажырала ўсе рэсурсы краіны.

Царская армія цярпела паражэнне за паражэннем. Нямецкая артылерыя засыпала царскія войскі градам снарадаў. У царскай арміі нехапала гармат, нехапала снарадаў, нехапала нават вінтовак. Часамі на трох салдат прыходзілася адна вінтоўка. Ужо ў часе вайны раскрылася здрада царскага ваеннага міністра Сухамлінава, які аказаўся звязаным з нямецкімі шпіёнамі. Сухамлінаў выконваў заданне нямецкай разведкі—сарваць снабжэнне фронта снарадамі, не даваць фронту гармат, не даваць вінтовак. Некаторыя царскія міністры і генералы самі цішком садзейнічалі поспехам нямецкай арміі: разам з царыцай, звязанай з немцамі, яны выдавалі немцам ваенныя тайны. Не дзіўна, што царская армія цярпела паражэнне і вымушана была адступаць. К 1916 году немцы паспелі ўжо захваціць Польшчу і частку Прыбалтыкі.

Усё гэта выклікала нянавісць і азлабленне да царскага ўрада сярод рабочых, сялян, салдат, інтэлігенцыі, узмацняла і абвастрала рэволюцыйны рух народных мас супроць вайны, супроць царызма як у тылу, так і на фронце, як у цэнтры, так і на акраінах.

Незадаволенне пачало захватваць таксама рускую імперыялістычную буржуазію. Яе азлабляла тая акалічнасць, што пры царскім двары гаспадарылі прайдохі, накшталт Распуціна, якія яўна вялі лінію на заключэнне сепаратнага міру з немцамі. Яна ўсё больш пераконвалася, што царскі ўрад няздолен весці паспяховую вайну. Яна баялася, што царызм, каб выратаваць сваё становішча, можа пайсці на сепаратны мір з немцамі. Таму руская буржуазія рашыла правесці дварцовы пераварот з тым, каб зняць цара Нікалая II і замест яго паставіць царом звязанага з буржуазіяй Міхаіла Раманава. Гэтым яна хацела забіць двух зайцаў: па-першае, прабрацца да ўлады і забяспечыць далейшае вядзенне імперыялістычнай вайны, па-другое—папярэдзіць невялікім дварцовым пераваротам наступленне вялікай народнай рэволюцыі, хвалі якой нарасталі.

Рускую буржуазію цалкам падтрымлівалі ў гэтай справе англійскі і французскі ўрады. Яны бачылі, што цар няздолен прадаўжаць вайну. Яны баяліся, што цар скончыць справу сепаратным мірам з немцамі. Калі-б царскі ўрад заключыў сепаратны мір, урады Англіі і Францыі страцілі-б у асобе Расіі саюзніка ў вайне, які не толькі адцягваў на свае фронты сілы праціўніка, але і пастаўляў ва Францыю дзесяткі тысяч адборных рускіх салдат. Таму яны аказалі падтрыманне рускай буржуазіі ў яе спробах зрабіць дварцовы пераварот.

Цар аказаўся, такім чынам, ізаляваным.

У той час як няўдачы на фронце не спыняліся, гаспадарчая разруха прадаўжала ўсё больш і больш нарастаць. У студзеньска-лютаўскія дні 1917 года прадавольственная, сыравінная і паліўная разруха дасягнула найвышэйшага свайго развіцця і найбольшай астрыні. Амаль спыніўся падвоз прадуктаў у Петраград і ў Маскву. Пачалі закрывацца адно прадпрыемства за другім. Закрыццё прадпрыемстваў

ўзмацніла беспрацоўе. Асабліва нязносна стала становішча рабочых. Усё больш шырокія масы народа пераконваліся, што выхад з нязноснага становішча толькі адзін—звяржэнне царскага самадзяржаўя.

Царызм яўна перажываў смяртэльны крызіс.

Буржуазія думала вырашыць крызіс шляхам дварцовага перавароту.

Але народ вырашыў яго па-свойму.

### 5. Лютаўская рэволюцыя. Падзенне царызма. Утварэнне Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Утварэнне Часовага ўрада. Двоеўладдзе.

1917 год пачаўся стачкай 9 студзеня. У часе стачкі адбыліся дэманстрацыі ў Петраградзе, у Маскве, у Баку, Ніжнім Ноўгарадзе, прычым у Маскве 9 студзеня прымала ўдзел у забастоўцы каля адной трэці ўсіх рабочых. Двухтысячная дэманстрацыя на Тверскім бульвары была разагнана коннай паліцыяй. У Петраградзе на Выбаргскім шасе да дэманстрантаў далучыліся салдаты.

«Ідэя ўсеагульнай стачкі,—даносіла петраградская паліцыя,—з дня на дзень набывае новых староннікаў і становіцца папулярнай, якой яна была ў 1905 годзе».

Меншавікі і эсэры стараліся ўвесці пачаўшыйся рэволюцыйны рух у патрэбныя ліберальнай буржуазіі рамкі. Ка дню адкрыцця Дзяржаўнай думы, 14 лютага, меншавікі прапанавалі арганізаваць шэствіе рабочых к Дзяржаўнай думе. Але рабочыя масы пайшлі за большэвікамі, не к думе, а на дэманстрацыю.

18 лютага 1917 года пачалася забастоўка пуцілаўскіх рабочых у Петраградзе. 22 лютага баставалі рабочыя большасці буйнейшых прадпрыемстваў. У Міжнародны дзень работніцы, 23 лютага (8 сакавіка) па закліку Петраградскага камітэта большэвікоў работніцы вышлі на вуліцу дэманстраваць супроць голаду, вайны, царызма. Дэманстрацыю работніц падтрымалі рабочыя агульным забастовачным выступленнем па Петраграду. Палітычная стачка пачала перарастаць у агульную палітычную дэманстрацыю супроць царскага ладу.

24 лютага (9 сакавіка) дэманстрацыя аднаўляецца з большай сілай. Баставала ўжо каля 200 тысяч рабочых.

25 лютага (10 сакавіка) рэволюцыйны рух ахапляе ўвесь рабочы Петраград. Палітычныя забастоўкі па раёнах пераходзяць ва ўсеагульную палітычную забастоўку па ўсяму Петраграду. Усюды дэманстрацыі і сутычкі з паліцыяй. Над масамі рабочых—чырвоныя сцягі з лозунгамі: «Далоў цара!», «Далоў вайну!», «Хлеба!».

Раніцай 26 лютага (11 сакавіка) палітычная стачка і дэманстрацыя пачынаюць перарастаць у спробы паўстання. Рабочыя раззбройваюць паліцыю і жандармерыю і ўзбройваюцца самі. Аднак, узброеная сутычка з паліцыяй заканчваецца расстрэлам дэманстрацыі на Знаменскай плошчы.

Генерал Хабалаў, які камандаваў Петраградскай ваеннай акругай, аб'яўляе, што рабочыя павінны прыступіць да работы 28 лютага (13 сакавіка), што інакш яны будуць адпраўлены на фронт. 25 лютага (10 сакавіка) цар дае загад генералу Хабалаву: «Павеляваю заўтра-ж спыніць у сталіцы беспарадкі».

Але «спыніць» рэволюцыю ўжо нельга было.

Днём 26 лютага (11 сакавіка) 4-я рота запаснога батальёна Паўлаўскага палка адкрыла агонь, але не па рабочых, а па атрадах конных гарадавых, уступіўшых у перастрэлку з рабочымі. Барацьба за войска разгарнулася самая энергічная і настойлівая, у асаблівасці з боку жанчын-работніц, якія звярталіся непасрэдна да салдат, браталіся з імі, заклікалі іх дапамагчы народу звергнуць ненавісное ім царскае самадзяржаўе.

Кіраўніцтва практычнай работай большэвіцкай партыі ажыццяўлялася ў гэты час знаходзіўшымся ў Петраградзе Бюро Цэнтральнага Камітэта нашай партыі на чале з тав. Молатавым. Бюро ЦК выпусціла 26 лютага (11 сакавіка) маніфест з заклікам да прадаўжэння ўзброенай барацьбы супроць царызма, да стварэння Часовага рэволюцыйнага ўрада.

27 лютага (12 сакавіка) войскі ў Петраградзе адмовіліся страляць у рабочых і пачалі пераходзіць на старану паўстаўшага народа. Яшчэ раніцай 27 лютага было толькі 10 тысяч паўстаўшых салдат, а вечарам іх было ўжо звыш 60 тысяч.

Паўстаўшыя рабочыя і салдаты сталі арыштоўваць царскіх міністраў і генералаў, вызваляць з турмаў рэволюцыянераў. Вызваленыя палітычныя зняволеныя ўключаліся ў справу рэволюцыйнай барацьбы.

На вуліцах яшчэ ішла перастрэлка з гарадавымі і жандармамі, якія заселі на чардаках дамоў з кулямётамі. Але быстры пераход войск на старану рабочых рашыў лёс царскага самадзяржаўя.

Калі вестка аб перамозе рэволюцыі ў Петраградзе пашырылася ў іншых гарадах і на фронце, рабочыя і салдаты ўсюды пачалі зяргаць царскіх чыноўнікаў.

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя перамагла.

Рэволюцыя перамагла таму, што рабочы клас быў застрэльшчыкам рэволюцыі і ўзначальваў рух мільённых мас сялян, пераадзетых у салдацкія шынелі—«за мір, за хлеб, за свабоду». Гегемонія пролетарыята абумовіла поспех рэволюцыі.

> «Рэволюцыю зрабіў пролетарыят, ён праявіў гераізм, ён праліваў кроў, ён пацягнуў за сабою самыя шырокія масы працоўнага і бяднейшага насельніцтва...»,—пісаў Ленін у першыя дні рэволюцыі (**Ленін,** т. XX, стар. 23—24).

Першая рэволюцыя 1905 года падрыхтавала быструю перамогу другой рэволюцыі 1917 года.

> «Без трох год найвялікшых класавых бітваў і рэволюцыйнай энергіі рускага пролетарыята 1905—1907 годаў была-б немагчыма такая быстрая, у сэнсе завяршэння яе **пачатковага** этапа, у некалькі дзён, другая рэволюцыя»,—указваў Ленін (там-жа, стар. 13).

У першыя-ж дні рэволюцыі паявіліся Советы. Перамогшая рэволюцыя апіралася на Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Паўстаўшыя рабочыя і салдаты стварылі Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Рэволюцыя 1905 года паказала, што Советы з'яўляюцца органамі ўзброенага паўстання і ў той-жа самы час зародкам новай, рэволюцыйнай улады. Ідэя Советаў жыла ў сазнанні рабочых мас, і яны яе ажыццявілі на другі-ж дзень пасля звяржэння царызма з той, аднак, розніцай, што ў 1905 годзе былі створаны Советы толькі **рабочых** дэпутатаў, а ў лютым 1917 года па ініцыятыве большэвікоў паявіліся Советы **рабочых і салдацкіх** дэпутатаў.

У той час, як большэвікі кіравалі непасрэднай барацьбой мас на вуліцах, згодніцкія партыі, меншавікі і эсэры захватвалі дэпутацкія месцы ў Советах, утвараючы ў іх сваю большасць. Гэтаму часткова садзейнічала тая акалічнасць, што большасць лідэраў большэвіцкай партыі знаходзілася ў турмах і ссылках (Ленін знаходзіўся ў эміграцыі, Сталін і Свердлоў у Сібірскай ссылцы), тады як меншавікі і эсэры свабодна разгульвалі на вуліцах Петраграда. Такім чынам, на чале Петраградскага Совета і яго Выканаўчага камітэта аказаліся прадстаўнікі згодніцкіх партый: меншавікі і эсэры. Тое-ж самае было ў Маскве і ў радзе іншых гарадоў. Толькі ў Іванава-Вазнесенску, Краснаярску і некаторых іншых гарадах большасць у Советах з самага пачатку належала большэвікам.

Узброены народ—рабочыя і салдаты, пасылаючы сваіх прадстаўнікоў у Совет, глядзелі на яго, як на орган народнай улады. Яны лічылі і верылі, што Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў ажыццёвіць усе патрабаванні рэволюцыйнага народа і што ў першую чаргу будзе заключан мір.

Але залішняя даверчывасць рабочых і салдат адыграла з імі злы жарт. Эсэры і меншавікі і не памышлялі аб ліквідацыі вайны, аб заваяванні міру. Яны думалі скарыстаць рэволюцыю для таго, каб прадоўжыць вайну. Што датычыць рэволюцыі і рэволюцыйных патрабаванняў народа, эсэры і меншавікі лічылі, што рэволюцыя ўжо закончылася, і цяпер задача заключаецца ў тым, каб замацаваць яе і перайсці на рэльсы «нармальнага», канстытуцыйнага існавання сумесна з буржуазіяй. Таму эсэра-меншавіцкае кіраўніцтва Петраградскага Совета прыняло ўсе залежачыя ад яго меры, каб замяць пытанне аб ліквідацыі вайны, пытанне аб міры і перадаць уладу буржуазіі.

27 лютага (12 сакавіка) 1917 года ліберальныя дэпутаты Дзяржаўнай думы па закуліснаму ўгавору з эсэра-меншавіцкімі лідэрамі ўтварылі Часовы камітэт Дзяржаўнай думы на чале са старшынёй IV думы, памешчыкам і манархістам Радзянка. А праз некалькі дзён пасля гэтага Часовы камітэт Дзяржаўнай думы і эсэра-меншавіцкія лідэры Выканкома Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў утайне ад большэвікоў дагаварыліся аб сфарміраванні новага ўрада Расіі,—буржуазнага Часовага ўрада на чале з князем Львовым, якога яшчэ да лютаўскага перавароту цар Нікалай II намячаў у прэм'ер-міністры свайго ўрада. У састаў Часовага ўрада ўвайшлі глава кадэтаў Мілюкоў, глава акцябрыстаў Гучкоў і іншыя відныя прадстаўнікі класа капіталістаў, а ў якасці прадстаўніка «дэмакратыі» быў уведзен эсэр Керэнскі.

Вышла так, што эсэра-меншавіцкія лідэры Выканкома Совета здалі ўладу буржуазіі, а Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, даведаўшыся потым аб гэтым, адобрыў сваёй большасцю дзеянні эсэра-меншавіцкіх лідэраў, не гледзячы на пратэсты большэвікоў.

Так утварылася новая дзяржаўная ўлада ў Расіі, якая складалася, як гаварыў Ленін, з прадстаўнікоў «буржуазіі і абуржуазіўшыхся памешчыкаў».

Але побач з буржуазным урадам існавала другая ўлада—Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Салдацкія дэпутаты ў Совеце—гэта былі, галоўным чынам, сяляне, мабілізаваныя на вайну. Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў з'яўляўся органам саюза рабочых і сялян

супроць царскай улады і разам з тым—органам іх улады, органам дыктатуры рабочага класа і сялянства.

Такім чынам, атрымалася своеасаблівае перапляценне двух улад, двух дыктатур: дыктатуры буржуазіі, у асобе Часовага ўрада, і дыктатуры пролетарыята і сялянства ў асобе Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Атрымалася **двоеўладдзе.**

Чым аб'ясніць, што ў Советах спачатку аказалася большасць меншавікоў і эсэраў?

Чым аб'ясніць, што перамогшыя рабочыя і сяляне **добравольна** аддалі ўладу прадстаўнікам буржуазіі?

Ленін аб'ясняў гэта тым, што праснуліся і пацягнуліся да палітыкі мільёны людзей, не іскушоных у палітыцы. Гэта былі ў большасці дробныя гаспадары, сяляне, рабочыя з нядаўніх сялян, людзі, якія стаялі пасярэдзіне паміж буржуазіяй і пролетарыятам. Расія была тады найбольш дробнабуржуазнай краінай з усіх вялікіх еўрапейскіх краін. І ў гэтай краіне «гіганцкая дробнабуржуазная хваля захліснула ўсё, падавіла свядомы пролетарыят не толькі сваёй колькаснасцю, але і ідэйна, гэта значыць заразіла, захваціла вельмі шырокія кругі рабочых дробнабуржуазнымі поглядамі на палітыку» (**Ленін,** т. XX, стар. 115).

Гэтая хваля дробнабуржуазнай стыхіі і вынесла на паверхню дробнабуржуазныя партыі меншавікоў і эсэраў.

Ленін указваў, што другой прычынай з'яўляецца змена састава пролетарыята ў часе вайны і недастатковая свядомасць і арганізаванасць пролетарыята ў пачатку рэволюцыі. У часе вайны адбыліся значныя змены ў саставе самога пролетарыята. Каля 40 процантаў кадравых рабочых было мабілізавана ў армію. На прадпрыемствы ў годы вайны папала, з мэтай укрыцца ад мабілізацыі, многа дробных уласнікаў, саматужнікаў, крамнікаў, чуждых пролетарскай псіхалогіі.

Гэтыя дробнабуржуазныя праслойкі рабочых і з'ўляліся пажыўнай глебай для дробнабуржуазных палітыкаў—меншавікоў і эсэраў.

Вось чаму не іскушоныя ў палітыцы шырокія масы народа, захліснутыя хваляй дробнабуржуазнай стыхіі і ап'янёныя першымі поспехамі рэволюцыі, аказаліся ў першыя месяцы рэволюцыі ў палоне ў згодніцкіх партый і згадзіліся ўступіць буржуазіі дзяржаўную ўладу, наіўна лічачы, што буржуазная ўлада не будзе перашкаджаць Советам весці сваю работу.

Перад большэвіцкай партыяй стаяла задача—цярплівай раз'яснянальнай работай у масах ускрыць імперыялістычны характар Часовага ўрада, выкрыць прэдацельства эсэраў і меншавікоў і паказаць, што дабіцца міру немагчыма без замены Часовага ўрада ўрадам Советаў.

І партыя большэвікоў узялася за гэту работу з усёй энергіяй.

Яна аднаўляе свае легальныя органы друку. Ужо праз пяць дзён пасля лютаўскай рэволюцыі пачынае выходзіць газета «Правда» ў Петраградзе, а праз некалькі дзён пасля гэтага—«Социал-демократ» у Маскве. Партыя пачынае выступаць на чале мас, якія вызваляюцца ад давер'я да ліберальнай буржуазіі, ад давер'я да меншавікоў і эсэраў. Яна цярпліва раз'ясняе салдатам, сялянам неабходнасць сумесных дзеянняў з рабочым класам. Яна раз'ясняе ім, што сяляне не атрымаюць ні міру, ні зямлі без далейшага развіцця рэволюцыі, без замены буржуазнага Часовага ўрада ўрадам Советаў.

## КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.

Імперыялістычная вайна ўзнікла ў сілу няроўнамернасці развіцця капіталістычных краін, у сілу нарушэння роўнавагі паміж галоўнымі дзяржавамі, у сілу неабходнасці для імперыялістаў новага перадзелу свету шляхам вайны і стварэння новай роўнавагі сіл.

Вайна не мела-б такога разбуральнага характару і, можа быць, нават зусім не разгарнулася-б з такой сілай, калі-б партыі II Інтэрнацыянала не здрадзілі справе рабочага класа, калі-б яны не нарушылі рашэнняў Кангрэсаў II Інтэрнацыянала супроць вайны, калі-б яны рашыліся актыўна выступіць і падняць рабочы клас супроць сваіх імперыялістычных урадаў, супроць падпальшчыкаў вайны.

Большэвіцкая партыя аказалася адзінай пролетарскай партыяй, якая асталася вернай справе соцыялізма і інтэрнацыяналізма і арганізавала грамадзянскую вайну супроць свайго імперыялістычнага ўрада. Усе астатнія партыі II Інтэрнацыянала, будучы звязаны з буржуазіяй праз свае кіруючыя вярхушкі, аказаліся ў палоне ў імперыялізма, перабеглі на старану імперыялістаў.

Будучы адлюстраваннем агульнага крызісу капіталізма, вайна абвастрыла гэты крызіс і аслабіла сусветны капіталізм. Рабочыя Расіі і партыя большэвікоў аказаліся першымі ў свеце, якія з поспехам скарысталі слабасць капіталізма, прарвалі фронт імперыялізма, звергл і цара і стварылі Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Ап'янёныя першымі поспехамі рэволюцыі і супакоеныя запэўніваннямі меншавікоў і эсэраў, што з гэтага часу ўсё пойдзе добра, шырокія масы дробнай буржуазіі, салдат, а таксама рабочых пранікаюцца давер'ем да Часовага ўрада, аказваюць яму падтрыманне.

Перад большэвіцкай партыяй паўстала задача—раз'ясніць ап'янёным ад першых поспехаў рабочым і салдацкім масам, што да поўнай перамогі рэволюцыі яшчэ далёка, што пакуль улада знаходзіцца ў руках буржуазнага Часовага ўрада, а ў Советах гаспадараць згоднікі,—меншавікі і эсэры, народу не атрымаць ні міру, ні зямлі, ні хлеба, што для поўнай перамогі неабходна зрабіць яшчэ крок уперад і перадаць уладу Советам.

Раздзел VII

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД ПАДРЫХТОЎКІ І ПРАВЯДЗЕННЯ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ.

(Красавік 1917 г.—1918 г.).

## 1. Абстаноўка ў краіне пасля лютаўскай рэвалюцыі. Выхад партыі з падполля і пераход да адкрытай палітычнай работы. Прыезд Леніна ў Петраград. Красавіцкія тэзісы Леніна. Устаноўка партыі на пераход да социялістычнай рэвалюцыі.

Падзеі і паводзіны Часовага ўрада з кожным днём пацвярджалі правільнасць лініі большэвікоў. Яны ўсё ясней паказвалі, што Часовы ўрад стаіць не за народ, а супроць народа, не за мір, а за вайну, што ён не хоча і не можа даць ні міру, ні зямлі, ні хлеба. Раз'яснянльная дзейнасць большэвікоў знаходзіла спрыяючую глебу.

У той час як рабочыя і салдаты звяргалі царскі ўрад і знішчалі карэнні манархіі, Часовы ўрад яўна цягацеў да захавання манархіі. Ён паслаў тайком 2 сакавіка 1917 года Гучкова і Шульгіна да цара. Буржуазія хацела перадаць уладу брату Нікалая Раманава—Міхаілу. Але калі на мітынгу чыгуначнікаў Гучкоў закончыў сваю прамову воклічам «Няхай жыве імператар Міхаіл», то рабочыя патрэбавалі неадкладнага арышту і вобыску Гучкова, гаворачы з абурэннем: «Хрэн за рэдзьку не саладзей».

Было ясна, што рабочыя не дазволяць аднавіць манархію.

У той час як рабочыя і сяляне, ажыццяўляючы рэвалюцыю і праліваючы кроў, чакалі спынення вайны, дабіваліся хлеба і зямлі, патрабавалі рашучых мер у барацьбе з разрухай, Часовы ўрад астаўся глухім да гэтых кроўных патрабаванняў народа. Гэты ўрад, які складаўся з віднейшых прадстаўнікоў капіталістаў і памешчыкаў, і не думаў задавальваць патрабаванняў сялян аб перадачы ім зямлі. Ён не мог таксама даць хлеба працоўным, бо для гэтага неабходна было закрануць інтарэсы буйных гандляроў хлебам, трэба было ўсімі мерамі ўзяць хлеб у памешчыкаў, у кулакоў, чаго не рашаўся рабіць урад, бо ён сам быў звязан з інтарэсамі гэтых класаў. Не мог ён таксама даць міру. Звязаны з англа-французскімі імперыялістамі, Часовы ўрад не толькі не думаў аб спыненні вайны, але, наадварот, прабаваў скарыстаць рэвалюцыю для больш актыўнага ўдзелу Расіі ў імперыялістычнай вайне, для ажыццяўлення сваіх імперыялістычных замыслаў аб захваце Канстанцінопаля і праліваў, аб захваце Галіцыі.

Было ясна, што даверчывым адносінам народных мас да палітыкі Часовага ўрада хутка павінен наступіць канец.

Станавілася ясным, што двоеўладдзе, якое склалася пасля лютаўскай рэволюцыі, не можа ўжо трымацца доўга, бо ход падзей патрабаваў, каб улада была сканцэнтравана дзе-небудзь у адным месцы: або ў сценах Часовага ўрада, або ў руках Советаў.

Праўда, згодніцкая палітыка меншавікоў і эсэраў пакуль яшчэ мела падтрыманне ў народных масах. Было яшчэ нямала рабочых, і яшчэ больш салдат і сялян, якія верылі, што «хутка прыдзе Устаноўчы сход і ўсё наладзіць па-добраму», якія думалі, што вайна вядзецца не для захватаў, а па неабходнасці,—для абароны дзяржавы. Такіх людзей Ленін называў добрасумленна заблуджаючыміся абаронцамі. Сярод усіх гэтых людзей эсэра-меншавіцкая палітыка абяцанняў і ўгаварванняў расцэньвалася пакуль яшчэ, як правільная палітыка. Але было ясна, што абяцанняў і ўгаварванняў не можа хапіць надоўга, бо ход падзей і паводзіны Часовага ўрада з кожным днём ускрывалі і паказвалі, што згодніцкая палітыка эсэраў і меншавікоў ёсць палітыка правалочак і абману даверчывых людзей.

Часовы ўрад не заўсёды абмяжоўваўся палітыкай скрытай барацьбы з рэволюцыйным рухам мас, палітыкай закулісных камбінацый супроць рэволюцыі. Ён часам рабіў спробы перайсці ў адкрытае наступленне супроць дэмакратычных свабод, спробы «аднавіць дысцыпліну», асабліва сярод салдат, спробы «навесці парадак», гэта значыць увесці рэволюцыю ў патрэбныя для буржуазіі рамкі. Але як ён ні стараўся ў гэтым напрамку, яму гэта не ўдавалася, і народныя масы з рвеннем ажыццяўлялі дэмакратычныя свабоды—свабоду слова, друку, саюзаў, сходаў, дэманстрацый. Рабочыя і салдаты стараліся поўнасцю скарыстаць упершыню заваяваныя імі дэмакратычныя правы для актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці краіны, каб зразумець і асмысліць стварыўшаеся становішча і прыняць рашэнне—як дзейнічаць далей.

Пасля лютаўскай рэволюцыі арганізацыі большэвіцкай партыі, якія працавалі нелегальна ў найцяжэйшых умовах царызма, вышлі з падполля і пачалі разгортваць адкрытую палітычную і арганізацыйную работу. Колькаснасць членаў арганізацый большэвікоў у гэты час была не больш 40—45 тысяч чалавек. Але гэта былі загартаваныя ў барацьбе кадры. Камітэты партыі былі рэарганізаваны на пачатках дэмакратычнага цэнтралізма. Была ўстаноўлена выбарнасць усіх партыйных органаў знізу даверху.

Пераход партыі на легальнае становішча выявіў рознагалоссі ў партыі. Каменеў і некаторыя работнікі маскоўскай арганізацыі, напрыклад, Рыкаў, Бубноў, Ногін стаялі на поўменшавіцкай пазіцыі ўмоўнага падтрымання Часовага ўрада і палітыкі абаронцаў. Сталін, які толькі што вярнуўся з ссылкі, Молатаў і іншыя, разам з большасцю партыі, адстойвалі палітыку недавер'я Часоваму ўраду, выступалі супроць абаронцтва і заклікалі да актыўнай барацьбы за мір, да барацьбы супроць імперыялістычнай вайны. Частка работнікаў партыі хісталася, адлюстроўваючы сваю палітычную адсталасць у рэзультаце доўгачасовага прабывання ў турме або ссылцы.

Адчувалася адсутнасць правадыра партыі—Леніна.

3 (16) красавіка 1917 года, пасля доўгага выгнання, вярнуўся ў Расію Ленін.

Прыезд Леніна меў велізарнае значэнне для партыі, для рэволюцыі.

Яшчэ з Швейцарыі, атрымаўшы толькі першыя весткі аб рэвалюцыі, Ленін пісаў партыі і рабочаму класу Расіі ў «Пісьмах здалёку»:

> «Рабочыя! Вы праявілі цуды пролетарскага, народнага гераізма ў грамадзянскай вайне супроць царызма. Вы павінны праявіць цуды пролетарскай і агульнанароднай арганізацыі, каб падрыхтаваць сваю перамогу ў другім этапе рэвалюцыі» (**Ленін**, т. XX, стар. 19).

У Петраград Ленін прыехаў 3 красавіка ноччу. На Фінляндскім вакзале і на плошчы перад вакзалам сустракаць Леніна сабраліся тысячы рабочых, салдат і матросаў. Неапісуемае захапленне ахапіла масы, калі Ленін вышаў з вагона. Яны падхапілі Леніна на рукі і так унеслі свайго правадыра ў вялікую залу вакзала, дзе меншавікі Чхеідзе і Скобелеў пачалі было гаварыць ад імя Петраградскага Совета «прывітальныя» прамовы, у якіх яны «выражалі надзею», што Ленін знойдзе з імі «агульную мову». Але Ленін не стаў іх слухаць, прайшоў міма іх да масы рабочых і салдат і з браневіка сказаў сваю знамянітую прамову, у якой заклікаў масы да барацьбы за перамогу социялістычнай рэвалюцыі. «Няхай жыве социялістычная рэвалюцыя!»—так закончыў Ленін гэтую сваю першую пасля доўгіх год выгнання прамову.

Па прыездзе ў Расію Ленін з усёй энергіяй аддаўся рэвалюцыйнай рабоце. На другі дзень пасля прыезду Ленін выступіў з дакладам аб вайне і рэвалюцыі на сходзе большэвікоў, а затым паўтарыў тэзісы свайго даклада на сходзе, дзе апрача большэвікоў прысутнічалі таксама меншавікі.

Гэта былі знамянітыя Красавіцкія тэзісы Леніна, якія далі партыі і пролетарыяту ясную рэвалюцыйную лінію пераходу ад буржуазнай рэвалюцыі да социялістычнай.

Тэзісы Леніна мелі велізарнае значэнне для рэвалюцыі, для далейшай работы партыі. Рэвалюцыя азначала найвялікшы пералом у жыцці краіны, і партыя ў новых умовах барацьбы, пасля звяржэння царызма, мела патрэбу ў новай арыентыроўцы, каб смела і ўпэўнена пайсці па новай дарозе. Гэтую арыентыроўку давалі партыі тэзісы Леніна.

Красавіцкія тэзісы Леніна давалі геніяльны план барацьбы партыі за пераход ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да рэвалюцыі социялістычнай, за пераход ад першага этапу рэвалюцыі да другога этапу—да этапу социялістычнай рэвалюцыі. Усёй сваёй папярэдняй гісторыяй партыя была падрыхтавана да гэтай вялікай задачы. Яшчэ ў 1905 годзе Ленін гаварыў у сваёй брашуры «Дзве тактыкі социял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі», што пасля звяржэння царызма пролетарыят пяройдзе да ажыццяўлення социялістычнай рэвалюцыі. Новае ў тэзісах заключалася ў тым, што яны давалі тэарэтычна абгрунтаваны, канкрэтны план прыступу к пераходу к социялістычнай рэвалюцыі.

У галіне эканамічнай пераходныя меры зводзіліся: да нацыяналізацыі ўсіх зямель у краіне пры канфіскацыі памешчыцкіх зямель, да зліцця ўсіх банкаў у адзін нацыянальны банк і ўвядзення кантролю над ім з боку Совета рабочых дэпутатаў, да ўвядзення кантролю над грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў.

У галіне палітычнай Ленін прапанаваў пераход ад парламентарнай рэспублікі да рэспублікі Советаў. Гэта быў сур'ёзны крок уперад

у галіне тэорыі і практыкі марксізма. Да гэтага часу марксісцкія тэарэтыкі лічылі парламентарную рэспубліку лепшай палітычнай формай пераходу да соцыялізма. Цяпер Ленін прапанаваў замяніць парламентарную рэспубліку рэспублікай Советаў, як найбольш мэтазгоднай формай палітычнай арганізацыі грамадства ў пераходны перыяд ад капіталізма да соцыялізма.

«Своеасаблівасць бягучага моманту ў Расіі, гаварылася ў тэзісах, заключаецца ў **пераходзе** ад першага этапу рэволюцыі, які даў уладу буржуазіі ў сілу недастатковай свядомасці і арганізаванасці пролетарыята,—**да другога** яе этапу, які павінен даць уладу ў рукі пролетарыята і бяднейшых слаёў сялянства» (там-жа, стар. 88).

І далей:

«Не парламентарная рэспубліка,—зварот да яе ад Советаў рабочых дэпутатаў быў-бы крокам назад,—а рэспубліка Советаў рабочых, батрацкіх і сялянскіх дэпутатаў па ўсёй краіне, знізу даверху» (там-жа, стар. 88).

Вайна, гаварыў Ленін, і пры новым, Часовым урадзе астаецца грабежніцкай, імперыялістычнай вайной. Задача партыі заключаецца ў тым, каб раз'ясніць гэта масам і паказаць ім, што скончыць вайну не гвалтоўным, а сапраўды дэмакратычным мірам нельга без звяржэння буржуазіі.

У адносінах да Часовага ўрада Ленін выставіў лозунг: «Ніякага падтрымання Часоваму ўраду!».

Ленін указваў, далей, у тэзісах, што наша партыя пакуль што знаходзіцца ў Советах у меншасці, што там пануе блок меншавікоў і эсэраў, які праводзіць буржуазны ўплыў на пролетарыят. Таму задачай партыі з'яўлялася:

«Раз'ясненне масам, што Совет рабочых дэпутатаў ёсць **адзіна магчымая** форма рэволюцыйнага ўрада і што таму нашай задачай, пакуль **гэты** ўрад паддаецца ўплыву буржуазіі, можа з'явіцца толькі цярплівае, сістэматычнае, настойлівае, прыстасоўваючаеся, асабліва да практычных патрэбнасцей мас, **раз'ясненне** памылак іх тактыкі. Пакуль мы ў меншасці, мы вядзем работу крытыкі і выяснення памылак, прапаведуючы ў той-жа час неабходнасць пераходу ўсёй дзяржаўнай улады да Советаў рабочых дэпутатаў...» (там-жа, стар. 88).

Гэта азначала, што Ленін не заклікаў да паўстання супроць Часовага ўрада, які карыстаўся ў даны момант давер'ем Советаў, не патрабаваў яго звяржэння, а дабіваўся таго, каб шляхам раз'яснядьнай і вярбовачнай работы заваяваць большасць у Советах, змяніць палітыку Советаў, а праз Советы—змяніць састаў і палітыку ўрада.

Гэта была ўстаноўка на мірнае развіццё рэволюцыі.

Ленін патрабаваў, далей, скінуць «брудную бялізну»—адмовіцца ад назвы партыі соцыял-дэмакратычнай. Соцыял-дэмакратамі называлі сябе і партыі II Інтэрнацыянала, і рускія меншавікі. Гэтая назва была забруджана, зганьбавана апартуністамі, здраднікамі соцыялізма. Ленін прапанаваў назваць большэвіцкую партыю **комуністычнай партыяй**, як называлі сваю партыю Маркс і Энгельс. Такая назва з'яўляецца навукова правільнай, таму што канчатковай мэтай большэвіцкай партыі з'яўляецца дасягненне комунізма. Ад капіта-

лізма чалавецтва можа перайсці непасрэдна толькі да соцыялізма, гэта значыць агульнага ўладання сродкамі вытворчасці і размеркавання прадуктаў па меры работы кожнага. Ленін гаварыў, што наша партыя глядзіць далей. Соцыялізм немінуча павінен паступова перарасці ў комунізм, на сцягу якога напісана: «Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго патрэбнасцях».

Нарэшце, Ленін патрабаваў у сваіх тэзісах стварэння новага Інтэрнацыянала, стварэнне III, Комуністычнага Інтэрнацыянала, свабоднага ад апартунізма, ад соцыял-шавінізма.

Тэзісы Леніна выклікалі яраснае выццё сярод буржуазіі, меншавікоў, эсэраў.

Меншавікі звярнуліся да рабочых з адозвай, якая пачыналася перасцярогай, што «рэволюцыя ў небяспецы». Небяспека, па думцы меншавікоў, была ў тым, што большэвікі выставілі патрабаванне пераходу ўлады да Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Плеханаў у сваёй газеце «Единство» змясціў артыкул, у якім назваў прамову Леніна **«брэдавай прамовай».** Плеханаў спасылаўся на словы меншавіка Чхеідзе, які заявіў: «Па-за рэволюцыяй астанецца адзін Ленін, а мы пойдзем сваім шляхам».

14 красавіка адбылася Петраградская агульнагарадская канферэнцыя большэвікоў. Яна адобрыла тэзісы Леніна і паклала іх у аснову сваёй работы.

Праз некаторы час мясцовыя арганізацыі партыі таксама адобрылі тэзісы Леніна.

**Уся партыя,** за выключэннем некалькіх адзіночак тыпу Каменева, Рыкава, Пятакова, прыняла тэзісы Леніна з велізарным задавальненнем.

### 2. Пачатак крызіса Часовага ўрада. Красавіцкая канферэнцыя большэвіцкай партыі.

У той час як большэвікі рыхтаваліся да далейшага разгортвання рэволюцыі, Часовы ўрад прадаўжаў тварыць сваю процінародную справу. 18 красавіка міністр замежных спраў Часовага ўрада Мілюкоў заявіў саюзнікам аб «усенародным імкненні давесці сусветную вайну да рашучай перамогі і намеры Часовага ўрада ўпаўне захоўваць абавязацельствы, прынятыя ў адносінах да нашых саюзнікаў».

Такім чынам, Часовы ўрад кляўся ў вернасці царскім дагаворам і абяцаў праліць яшчэ столькі народнай крыві, колькі спатрэбіцца імперыялістам для дасягнення «пераможнага канца».

19 красавіка гэта заява («нота Мілюкова») стала вядома рабочым і салдатам. 20 красавіка Цэнтральны Камітэт партыі большэвікоў заклікаў масы да пратэсту супроць імперыялістычнай палітыкі Часовага ўрада. 20—21 красавіка (3—4 мая) 1917 года рабочыя і салдацкія масы, у колькасці не менш 100 тысяч чалавек, ахопленыя пачуццём абурэння супроць «ноты Мілюкова», вышлі на дэманстрацыю. На сцягах было мноства лозунгаў: «Апублікаваць тайныя дагаворы!», «Далоў вайну!», «Уся ўлада Советам!». Рабочыя і салдаты ішлі з акраін к цэнтру, к месцу знаходжання Часовага ўрада. На Неўскім і ў іншых месцах адбыліся сутычкі з асобнымі групамі буржуазіі.

Найбольш адкравенныя контррэволюцыянеры, як генерал Карнілаў, заклікалі да расстрэлу дэманстрантаў і нават аддалі адпаведныя

загады. Аднак воінскія часці, атрымаўшы такія загады, адмовіліся іх выканаць.

Невялікая група членаў Петраградскага Камітэта партыі (Багдацьеў і іншыя) выставіла ў часе дэманстрацыі лозунг неадкладнага звяржэння Часовага ўрада. ЦК партыі большэвікоў рэзка асудзіў паводзіны гэтых «левых» авантурыстаў, лічачы такі лозунг несвоечасовым і няправільным, перашкаджаючым партыі заваяваць большасць Советаў на свой бок і супярэчачым установцы партыі на мірнае развіццё рэволюцыі.

Падзеі 20—21 красавіка азначалі пачатак крызіса Часовага ўрада.

Гэта была першая сур'ёзная трэшчына ў згодніцкай палітыцы меншавікоў і эсэраў.

2 мая 1917 года пад даўленнем мас з састава Часовага ўрада былі выведзены Мілюкоў і Гучкоў.

Утварыўся першы **кааліцыйны** Часовы ўрад, у састаў якога побач з прадстаўнікамі буржуазіі ўвайшлі меншавікі (Скобелеў, Цэрэтэлі) і эсэры (Чэрноў, Керэнскі і інш.).

Такім чынам, меншавікі, якія адмаўлялі ў 1905 годзе дапушчальнасць удзелу прадстаўнікоў соцыял-дэмакратыі ў Часовым **рэволюцыйным** урадзе, знайшлі цяпер дапушчальным удзел сваіх прадстаўнікоў у Часовым **контррэволюцыйным** урадзе.

Гэта быў пераход меншавікоў і эсэраў у лагер контррэволюцыйнай буржуазіі.

24 красавіка 1917 года адкрылася VII (Красавіцкая) канферэнцыя большэвікоў. Упершыню за час існавання партыі адкрыта сабралася канферэнцыя большэвікоў, якая па свайму значэнню займае ў гісторыі партыі такое-ж месца, як з'езд партыі.

Усерасійская красавіцкая канферэнцыя паказала бурны рост партыі. На канферэнцыі прысутнічала 133 дэлегаты з рашаючым і 18 з дарадчым голасам. Яны прадстаўлялі 80 тысяч арганізаваных членаў партыі.

Канферэнцыя абмеркавала і выпрацавала лінію партыі па ўсіх асноўных пытаннях вайны і рэволюцыі: аб бягучым момакце, аб вайне, аб Часовым урадзе, аб Советах, аб аграрным пытанні, аб нацыянальным пытанні і т. д.

У сваім дакладзе Ленін развіваў палажэнні, ужо выказаныя ім раней у Красавіцкіх тэзісах. Задача партыі заключалася ў тым, каб ажыццявіць пераход ад першага этапу рэволюцыі, «які даў уладу буржуазіі... **да другога** яе этапу, які павінен даць уладу ў рукі пролетарыята і бяднейшых слаёў сялянства» **(Ленін)**. Партыя павінна ўзяць курс на падрыхтоўку соцыялістычнай рэволюцыі. У якасці бліжэйшай задачы партыі Ленін выставіў лозунг: «Уся ўлада Советам!».

Лозунг «Уся ўлада Советам» азначаў, што неабходна пакончыць з двоеўладдзем, гэта значыць з раздзяленнем улады паміж Часовым урадам і Советамі, што трэба перадаць **усю** ўладу Советам, а прадстаўнікоў памешчыкаў і капіталістаў—выгнаць з органаў улады.

Канферэнцыя ўстанавіла, што адной з важнейшых задач партыі з'яўляецца няспыннае раз'ясненне масам той ісціны, што «Часовы ўрад па свайму характару з'яўляецца органам панавання памешчыкаў і буржуазіі», таксама як выкрыццё пагубнасці згодніцкай палітыкі эсэраў і меншавікоў, якія абманваюць народ ілжывымі абяцаннямі і падводзяць яго пад удар імперыялістычнай вайны і контррэволюцыі.

На канферэнцыі супроць Леніна выступілі Каменеў і Рыкаў. Яны ўслед за меншавікамі паўтаралі, што Расія не выспела для соцыялістычнай рэволюцыі, што ў Расіі магчыма толькі буржуазная рэспубліка. Яны прапаноўвалі партыі і рабочаму класу абмежавацца тым, каб «кантраляваць» Часовы ўрад. Па сутнасці яны, таксама як і меншавікі, стаялі на пазіцыі захавання капіталізма, захавання ўлады буржуазіі.

Зіноўеў таксама выступіў на канферэнцыі супроць Леніна па пытанню аб тым, аставацца большэвіцкай партыі ў Цымервальдскім аб'яднанні ці парваць з гэтым аб'яднаннем і стварыць новы Інтэрнацыянал. Як паказалі годы вайны, гэта аб'яднанне, ведучы прапаганду за мір, усё-ж фактычна не парывала з буржуазнымі абаронцамі. Таму Ленін настойваў на неадкладным выхадзе з гэтага аб'яднання і арганізацыі новага, Комуністычнага Інтэрнацыянала. Зіноўеў прапанаваў астацца з цымервальдцамі. Ленін рашуча асудзіў гэта выступленне Зіноўева, назваўшы яго тактыку «архіапартуністычнай і шкоднай».

Красавіцкая канферэнцыя абмеркавала таксама аграрнае і нацыянальнае пытанні.

Па дакладу Леніна аб аграрным пытанні канферэнцыя прыняла рашэнне аб канфіскацыі памешчыцкіх зямель з перадачай іх у распараджэнне сялянскіх камітэтаў і аб нацыяналізацыі ўсіх зямель у краіне. Большэвікі заклікалі сялянства на барацьбу за зямлю і даказвалі сялянскім масам, што партыя большэвікоў з'яўляецца адзінай рэволюцыйнай партыяй, якая дапамагае на справе сялянам звергнуць памешчыкаў.

Вялікае значэнне меў даклад тав. Сталіна па нацыянальнаму пытанню. Ленін і Сталін яшчэ да рэволюцыі, напярэдадні імперыялістычнай вайны, распрацавалі асновы палітыкі партыі большэвікоў па нацыянальнаму пытанню. Ленін і Сталін гаварылі, што пролетарская партыя павінна падтрымліваць нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных народаў, накіраваны супроць імперыялізма. У сувязі з гэтым большэвіцкая партыя адстойвала права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў. Гэты пункт гледжання абараняў на канферэнцыі дакладчык ЦК тав. Сталін.

Супроць Леніна і Сталіна выступаў Пятакоў, які разам з Бухарыным яшчэ ў годы вайны займаў у нацыянальным пытанні нацыянал-шавіністычную пазіцыю. Пятакоў і Бухарын былі супроць права нацый на самавызначэнне.

Рашучая і паслядоўная пазіцыя партыі ў нацыянальным пытанні, барацьба партыі за поўнае роўнапраўе нацый і за знішчэнне ўсіх форм нацыянальнага гнёту і нацыянальнага няроўнапраўя забяспечылі ёй сімпатыі і падтрыманне прыгнечаных нацыянальнасцей.

Вось тэкст рэзалюцыі па нацыянальнаму пытанню, прынятай Красавіцкай канферэнцыяй:

> «Палітыка нацыянальнага прыгнечання, будучы спадчынай самадзяржаўя і манархіі, падтрымліваецца памешчыкамі, капіталістамі і дробнай буржуазіяй у інтарэсах аховы іх класавых прывілеяў і раз'яднання рабочых розных народнасцей. Сучасны імперыялізм, узмацняючы імкненні да падпарадкавання

слабых народаў, з'яўляецца новым фактарам абвастрэння нацыянальнага гнёту.

Паколькі дасягальна ў капіталістычным грамадстве ўстараненне нацыянальнага гнёту, гэта магчыма толькі пры паслядоўна-дэмакратычным рэспубліканскім ладзе і кіраванні дзяржавы, забяспечваючым поўнае роўнапраўе ўсіх нацый і моваў.

За ўсімі нацыямі, якія ўваходзяць у састаў Расіі, павінна быць прызнана права на свабоднае аддзяленне і на ўтварэнне самастойнай дзяржавы. Адмаўленне такога права і непрыняцце мер, якія гарантуюць яго практычную ажыццявімасць, роўнасільна падтрыманню палітыкі захватаў або анексій. Толькі прызнанне пролетарыятам права нацый на аддзяленне забяспечвае поўную салідарнасць рабочых розных нацый і садзейнічае сапраўды дэмакратычнаму збліжэнню нацый...

Пытанне аб праве нацый на свабоднае аддзяленне недазвольна змешваць з пытаннем аб мэтазгоднасці аддзялення той ці іншай нацыі ў той ці іншы момант. Гэта апошняе пытанне партыя пролетарыята павінна вырашаць у кожным асобным выпадку зусім самастойна, з пункту гледжання інтарэсаў усяго грамадскага развіцця і інтарэсаў класавай барацьбы пролетарыята за соцыялізм.

Партыя патрабуе шырокай абласной аўтаноміі, адмены нагляду зверху, адмены абавязковай дзяржаўнай мовы і вызначэння граніц самакіруючыхся і аўтаномных абласцей на падставе ўліку самім мясцовым насельніцтвам гаспадарчых і бытавых умоў, нацыянальнага састава насельніцтва і т. д.

Партыя пролетарыята рашуча адвяргае так званую «культурна-нацыянальную аўтаномію», г. зн. із'яцце з-пад ведама дзяржавы школьнай справы і т. п. і перадачу яе ў рукі свайго роду нацыянальных сеймаў. Рабочых, якія жывуць у адзінай мясцовасці і нават працуюць у адных і тых-жа прадпрыемствах, культурна-нацыянальная аўтаномія штучна размяжоўвае па прыналежнасці да той ці іншай «нацыянальнай культуры», г. зн. узмацняе сувязь рабочых з буржуазнай культурай асобных нацый, між тым як задача соцыял-дэмакратыі заключаецца ва ўзмацненні інтэрнацыянальнай культуры сусветнага пролетарыята.

Партыя патрабуе ўключэння ў канстытуцыю асноўнага закона, аб'яўляючага несапраўднымі якія-б то ні было прывілеі адной з нацый, якія-б то ні было нарушэнні правоў нацыянальных меншасцей.

Інтарэсы рабочага класа патрабуюць зліцця рабочых усіх нацыянальнасцей Расіі ў адзіных пролетарскіх арганізацыях, палітычных, професіянальных, кааператыўна-асветных і т. д. Толькі такое зліццё ў адзіных арганізацыях рабочых розных нацыянальнасцей дасць магчымасць пролетарыяту весці пераможную барацьбу з міжнародным капіталам і з буржуазным нацыяналізмам» (ВКП(б) у рэзалюцыях, частка I, стар. 239—240).

Такім чынам, на Красавіцкай канферэнцыі была выкрыта апартуністычная, антыленінская лінія Каменева, Зіноўева, Пятакова, Бухарына, Рыкава і іх нешматлікіх аднамышленнікаў.

Канферэнцыя аднадушна пайшла за Леніным, заняўшы чоткую пазіцыю па ўсіх важнейшых пытаннях і ведучы лінію на перамогу соцыялістычнай рэволюцыі.

### 3. Поспехі большэвіцкай партыі ў сталіцы. Няўдачнае наступленне войск Часовага ўрада на фронце. Падаўленне ліпеньскай дэманстрацыі рабочых і салдат.

Партыя разгарнула на аснове рашэнняў Красавіцкай канферэнцыі велізарную работу па заваяванню мас, па баявому іх выхаванню і арганізацыі. Лінія партыі ў гэты перыяд заключалася ў тым, каб шляхам цярплівага раз'яснення большэвіцкай палітыкі і выкрыцця згодніцтва меншавікоў і эсэраў ізаляваць гэтыя партыі ад мас, заваяваць большасць у Советах.

Апрача работы ў Советах большэвікі вялі велізарную работу ў профсаюзах, фабрычна-заводскіх камітэтах.

У асаблівасці вялікую работу павялі большэвікі ў арміі. Усюды сталі ствараццa ваенныя арганізацыі. На фронтах і ў тылу большэвікі нястомна працавалі над арганізацыяй салдат і матросаў. Асабліва вялікую ролю адыграла ў справе рэволюцыянізавання салдат большэвіцкая франтавая газета «Окопная правда».

Дзякуючы гэтай прапагандысцка-агітацыйнай рабоце большэвікоў ужо ў першыя месяцы рэволюцыі ва многіх гарадах рабочыя перавыбралі Советы, у асаблівасці раённыя, вышыбаючы меншавікоў і эсэраў і выбіраючы замест іх староннікаў большэвіцкай партыі.

Работа большэвікоў давала выдатныя рэзультаты, асабліва ў Петраградзе.

30 мая—3 чэрвеня 1917 года адбылася Петраградская канферэнцыя фабзаўкомаў. На гэтай канферэнцыі за большэвікамі ішло ўжо тры чвэрці дэлегатаў. Петраградскі пролетарыят амаль поўнасцю ішоў за большэвіцкім лозунгам—«Уся ўлада Советам!».

3 (16) чэрвеня 1917 года сабраўся I Усерасійскі з'езд Советаў. Большэвікі былі яшчэ ў меншасці ў Советах,—яны мелі на з'ездзе нямногім больш 100 дэлегатаў супроць 700—800 меншавікоў, эсэраў і іншых.

Большэвікі на I з'ездзе Советаў настойліва выкрывалі згубнасць згодніцтва з буржуазіяй, ускрывалі імперыялістычны характар вайны. Ленін выступіў на з'ездзе з прамовай, у якой даказваў правільнасць лініі большэвікоў, заяўляючы, што толькі ўлада Советаў можа даць хлеб працоўным, зямлю сялянам, дабіцца міру, вывесці краіну з разрухі.

У гэты час у рабочых раёнах Петраграда ішла масавая кампанія за арганізацыю дэманстрацыі і прад'яўленне патрабаванняў з'езду Советаў. Жадаючы папярэдзіць самачынную дэманстрацыю рабочых і разлічваючы скарыстаць у сваіх мэтах рэволюцыйны настрой мас, Выканком Петраградскага Совета рашыў назначыць у Петраградзе дэманстрацыю на 18 чэрвеня (1 ліпеня). Меншавікі і эсэры разлічвалі, што дэманстрацыя пройдзе пад антыбольшэвіцкімі лозунгамі. Большэвіцкая партыя энергічна пачала рыхтавацца да гэтай дэманстрацыі. Тав. Сталін пісаў тады ў «Правде», што «... наша задача—дабіцца таго, каб дэманстрацыя ў Петраградзе 18 чэрвеня прайшла пад нашымі рэволюцыйнымі лозунгамі».

Дэманстрацыя 18 чэрвеня 1917 года, якая адбывалася ля магілы ахвяр рэволюцыі, аказалася сапраўдным аглядам сіл большэвіцкай

партыі. Яна паказала нарастаючую рэволюцыйнасць мас і ўзрастаючае давер'е іх да большэвіцкай партыі. Лозунгі меншавікоў і эсэраў аб давер'і Часоваму ўраду, аб неабходнасці прадаўжэння вайны танулі ў велізарнай масе большэвіцкіх лозунгаў. 400 тысяч дэманстрантаў праходзілі з лозунгамі на сцягах: «Далоў вайну!», «Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў!», «Уся ўлада Советам!».

Гэта быў поўны правал меншавікоў і эсэраў, правал Часовага ўрада ў сталіцы.

Аднак, Часовы ўрад, які атрымаў падтрыманне ад I з'езда Советаў, рашыў прадаўжаць імперыялістычную палітыку. Якраз у дзень 18 чэрвеня Часовы ўрад, выконваючы волю англа-французскіх імперыялістаў, пагнаў салдат на фронце ў наступленне. У гэтым наступленні буржуазія бачыла адзіную магчымасць пакончыць з рэволюцыяй. У выпадку ўдачы наступлення буржуазія спадзявалася ўзяць усю ўладу ў свае рукі, адцясніць Советы і раздавіць большэвікоў. Пры няўдачы можна было ўзваліць усю віну на тых-жа большэвікоў, абвінаваціўшы іх у разлажэнні арміі.

Можна было не сумнявацца, што наступленне праваліцца. І яно сапраўды правалілася. Стомленасць салдат, неразуменне імі мэты наступлення, недавер'е да чуждага для салдат каманднага састава, няхватка снарадаў і артылерыі,—усё гэта вызначыла правал наступлення на фронце.

Вестка аб наступленні на фронце, а потым аб правале наступлення ўскалыхнула сталіцу. Абурэнню рабочых і салдат не было граніцы. Выходзіла, што, абвяшчаючы мірную палітыку, Часовы ўрад абманваў народ. Выходзіла, што Часовы ўрад стаіць за прадаўжэнне імперыялістычнай вайны. Выходзіла, што ВЦВК Советаў і Петраградскі Совет не захацелі або не змаглі процідзейнічаць злачынным дзеянням Часовага ўрада і самі папляліся за ім у хвасце.

Рэволюцыйнае абурэнне петраградскіх рабочых і салдат пералівала праз край. 3 (16) ліпеня ў Петраградзе, у Выбаргскім раёне, стыхійна пачаліся дэманстрацыі. Яны прадаўжаліся ўвесь дзень. Асобныя дэманстрацыі разрасліся ў агульную грандыёзную ўзброеную дэманстрацыю пад лозунгам пераходу ўлады да Советаў. Большэвіцкая партыя была супроць узброенага выступлення ў гэты момант, бо яна лічыла, што рэволюцыйны крызіс яшчэ не наспеў, што армія і правінцыя яшчэ не гатовы для падтрымання паўстання у сталіцы, што ізаляванае і заўчаснае паўстанне ў сталіцы можа толькі аблягчыць контррэволюцыі разгром авангарда рэволюцыі. Але калі стала відаць, што ўтрымаць масы ад дэманстрацыі немагчыма, партыя пастанавіла прыняць удзел у дэманстрацыі, з тым, каб надаць ёй мірны і арганізаваны характар. Партыі большэвікоў гэта ўдалося, і сотні тысяч дэманстрантаў накіраваліся да Петраградскага Совета і да ВЦВК Советаў, дзе патрабавалі ад Советаў узяць уладу ў свае рукі, парваць з імперыялістычнай буржуазіяй і правесці актыўную палітыку міру.

Не гледзячы на мірны характар дэманстрацыі, супроць дэманстрантаў былі выстаўлены рэакцыйныя часці—юнкерскія і афіцэрскія атрады. Вуліцы Петраграда багата былі паліты крывёю рабочых і салдат. Для разгрому рабочых былі выкліканы з фронта найбольш цёмныя, контррэволюцыйныя воінскія часці.

Меншавікі і эсэры ў саюзе з буржуазіяй і белагвардзейскімі генераламі, падавіўшы рабочую і салдацкую дэманстрацыю, абрушыліся

на большэвіцкую партыю. Памяшканне рэдакцыі «Правды» было разгромлена. «Правда», «Солдатская правда» і рад іншых большэвіцкіх газет былі закрыты. На вуліцы быў забіт юнкерамі рабочы Воінаў толькі за тое, што прадаваў «Листок Правды». Пачалося разбраенне чырвонагвардзейцаў. Рэволюцыйныя часці петраградскага гарнізона былі выведзены са сталіцы і адпраўлены на фронт. Былі праведзены арышты ў тылу і на фронтах. 7 ліпеня быў выдан загад аб арышце Леніна. Быў арыштован рад відных дзеячоў большэвіцкай партыі. Была разгромлена друкарня «Труд», дзе друкаваліся большэвіцкія выданні. У паведамленні пракурора петраградскай судовай палаты гаварылася, што Ленін і рад іншых большэвікоў прыцягваюцца к суду за «дзяржаўную здраду» і за арганізацыю ўзброенага паўстання. Абвінавачанне супроць Леніна было сфабрыкавана ў штабе генерала Дзенікіна на падставе паказанняў шпіёнаў і правакатараў.

Такім чынам, кааліцыйны Часовы ўрад, куды ўваходзілі такія відныя прадстаўнікі меншавікоў і эсэраў, як Цэрэтэлі і Скобелеў, Керэнскі і Чэрноў,—скаціўся ў балота адкрытага імперыялізма і контррэволюцыі. Замест мірнай палітыкі ён пачаў праводзіць палітыку прадаўжэння вайны. Замест аховы дэмакратычных правоў народа ён пачаў праводзіць палітыку ліквідацыі гэтых правоў і расправы з рабочымі і салдатамі сілай зброі.

Чаго не рашаліся рабіць прадстаўнікі буржуазіі—Гучкоў і Мілюкоў, тое рашыліся зрабіць «соцыялісты» —Керэнскі і Цэрэтэлі, Чэрноў і Скобелеў.

Скончылася двоеўладдзе.

Скончылася ў карысць буржуазіі, бо ўся ўлада перайшла ў рукі Часовага ўрада, а Советы з іх эсэра-меншавіцкім кіраўніцтвам ператварыліся ў прыдатак Часовага ўрада.

Скончыўся мірны перыяд рэволюцыі, бо ў парадак дня быў пастаўлен штык.

З прычыны змяніўшайся абстаноўкі большэвіцкая партыя рашыла змяніць сваю тактыку. Яна перайшла ў падполле, укрыла свайго правадыра Леніна ў глыбокім падполлі і пачала рыхтавацца да паўстання, каб звергнуць уладу буржуазіі сілай зброі і ўстанавіць Совецкую ўладу.

### 4. Курс партыі большэвікоў на падрыхтоўку ўзброенага паўстання. VI з'езд партыі.

У абстаноўцы неймавернай траўлі з боку буржуазнага і дробнабуржуазнага друку сабраўся ў Петраградзе VI з'езд партыі большэвікоў. Сабраўся ён праз дзесяць год пасля V Лонданскага з'езда і праз пяць год пасля Пражскай канферэнцыі большэвікоў. З'езд прадаўжаўся з 26 ліпеня па 3 жніўня 1917 года і праходзіў нелегальна. У друку было аб'яўлена толькі аб скліканні з'езда, месца з'езда не ўказвалася. Першыя пасяджэнні адбываліся на Выбаргскай старане. Апошнія пасяджэнні былі праведзены ў будынку школы ля Нарвскіх варот, дзе цяпер пабудован Дом культуры. Буржуазны друк патрабаваў арышту ўдзельнікаў з'езда. Сышчыкі збіліся з ног, каб знайсці месца пасяджэння з'езда, але так і не знайшлі яго.

Так, праз пяць месяцаў пасля зврржэння царызма, большэвікі вымушаны былі збірацца тайком, а правадыр пролетарскай партыі, Ленін вымушан быў скрывацца ў гэты час у шалашы паблізу станцыі Разліў.

Праследуемы ішчэйкамі Часовага ўрада, Ленін не мог быць на з'ездзе, але ён кіраваў ім з падполля праз сваіх саратнікаў і вучняў у Петраградзе: Сталіна, Свердлова, Молатава, Орджанікідзе.

На з'ездзе прысутнічала 157 дэлегатаў з рашаючым і 128 з дарадчым голасам. Партыя к таму часу налічвала каля 240 тысяч чалавек. К 3 ліпеня, гэта значыць да разгрому рабочай дэманстрацыі, калі большэвікі працавалі яшчэ легальна, партыя мела 41 друкаваны орган, з іх 29 на рускай і 12 на іншых мовах.

Ганенні на большэвікоў, на рабочы клас у ліпеньскія дні не толькі не зменшылі ўплыву нашай партыі, а наадварот—яшчэ больш павялічылі яго. Дэлегаты з месц прыводзілі мноства фактаў аб тым, што рабочыя і салдаты сталі масамі пакідаць меншавікоў і эсэраў, пагардліва называючы іх «соцыял-турэмшчыкамі». Рабочыя і салдаты, члены партый меншавікоў і эсэраў, рвалі свае членскія білеты і з праклящцем выходзілі з іх партый, просячы большэвікоў прыняць іх у сваю партыю.

Асноўнымі пытаннямі з'езда былі палітычная справаздача Цэнтральнага Камітэта і пытанне аб палітычным становішчы. У дакладах па гэтых пытаннях тав. Сталін з усёй чоткасцю паказваў, што, не гледзячы на ўсе намаганні буржуазіі падавіць рэволюцыю, рэволюцыя расце і развіваецца. Ён паказваў, што рэволюцыя ставіць пытанне аб ажыццяўленні рабочага кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, аб перадачы зямлі сялянам, аб перадачы ўлады з рук буржуазіі ў рукі рабочага класа і сялянскай беднаты. Ён гаварыў, што рэволюцыя становіцца па свайму характару—соцыялістычнай.

Палітычнае становішча ў краіне пасля ліпеньскіх дзён рэзка змянілася. Не стала двоеўладдзя. Советы з іх эсэра-меншавіцкім кіраўніцтвам не захацелі ўзяць усю ўладу. Таму Советы сталі безуладнымі. Улада сканцэнтравалася ў руках буржуазнага Часовага ўрада, а апошні прадаўжаў раззбройваць рэволюцыю, граміць яе арганізацыі, граміць партыю большэвікоў. Магчымасці мірнага развіцця рэволюцыі зніклі. Астаецца, гаварыў тав. Сталін, адно—узяць уладу сілай, звергнуўшы Часовы ўрад. Але ўзяць уладу сілай можа толькі пролетарыят у саюзе з вясковай беднатой.

Советы, усё яшчэ кіруемыя меншавікамі і эсэрамі, скаціліся ў лагер буржуазіі і пры цяперашнім становішчы могуць выступіць толькі ў ролі пасобнікаў Часовага ўрада. Лозунг «Уся ўлада Советам», гаварыў тав. Сталін, пасля ліпеньскіх дзён павінен быць знят. Аднак часовае знящце гэтага лозунга ні ў якім разе не азначае адмовы ад барацьбы за ўладу Советаў. Гутарка ідзе не аб Советах наогул, як органах рэволюцыйнай барацьбы, а толькі аб даных Советах, кіруемых меншавікамі і эсэрамі.

> «Мірны перыяд рэволюцыі скончыўся,—гаварыў тав. Сталін,—наступіў перыяд не-мірны, перыяд схватак і выбухаў...» (Пратаколы VI з'езда РСДРП(б), стар. 111).

Партыя ішла да ўзброенага паўстання.

На з'ездзе знайшліся людзі, якія, адлюстроўваючы буржуазны ўплыў, выступілі супроць курса на соцыялістычную рэволюцыю.

Трацкіст Прэабражэнскі прапаноўваў у рэзалюцыі аб заваяванні ўлады ўказаць, што толькі пры наяўнасці пролетарскай рэволюцыі на Захадзе можна будзе накіраваць краіну па соцыялістычнаму шляху.

Супроць гэтай троцкісцкай прапановы выступіў тав. Сталін.

> «Не выключана магчымасць,—гаварыў тав. Сталін,—што іменна Расія з'явіцца краінай, пракладваючай шлях да соцыялізма... Трэба адкінуць аджыўшае ўяўленне аб тым, што толькі Еўропа можа ўказаць нам шлях. Існуе марксізм дагматычны і марксізм творчы. Я стаю на глебе апошняга» (Пратаколы VI з'езда РСДРП(б), стар. 233—234).

Бухарын, знаходзячыся на троцкісцкіх пазіцыях, сцвярджаў, што сяляне настроены абарончa, што яны знаходзяцца ў блоку з буржуазіяй і не пойдуць за рабочым класам.

Пярэчачы Бухарыну, тав. Сталін даказваў, што сяляне бываюць розныя: ёсць заможныя сяляне, якія падтрымліваюць імперыялістычную буржуазію, і ёсць сялянская беднота, якая шукае саюза з рабочым класам і падтрымае яго ў барацьбе за перамогу рэвалюцыі.

З'езд адверг папраўкі Прэабражэнскага і Бухарына і зацвердзіў праект рэзалюцыі тав. Сталіна.

З'езд абмеркаваў эканамічную платформу большэвікоў і зацвердзіў яе. Яе асноўныя пункты: канфіскацыя памешчыцкай зямлі і нацыяналізацыя ўсёй зямлі ў краіне, нацыяналізацыя банкаў, нацыяналізацыя буйнай прамысловасці, рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем.

З'езд падкрэсліў значэнне барацьбы за рабочы кантроль над вытворчасцю, які адыграў вялікую ролю пры пераходзе да нацыяналізацыі буйнай прамысловасці.

VI з'езд ва ўсіх сваіх рашэннях з асаблівай сілай падкрэсліў ленінскае палажэнне аб саюзе пролетарыята і беднейшага сялянства, як умове перамогі соцыялістычнай рэвалюцыі.

З'езд асудзіў меншавіцкую тэорыю нейтральнасці профсаюзаў. З'езд указаў, што сур'ёзныя задачы, якія стаяць перад рабочым класам Расіі, могуць быць выкананы толькі ў тым выпадку, калі профсаюзы будуць аставацца баявымі класавымі арганізацыямі, прызнаючымі палітычнае кіраўніцтва партыі большэвікоў.

З'езд прыняў рэзалюцыю «Аб саюзах моладзі», якія ў той час нярэдка ўзнікалі самачынна. Партыі ўдалося ў рэзультаце далейшай работы замацаваць гэтыя маладыя арганізацыі за партыяй, як партыйны рэзерв.

На з'ездзе абмяркоўвалася пытанне аб яўцы Леніна на суд. Каменеў, Рыкаў, Троцкі і іншыя яшчэ да з'езда лічылі, што Леніну трэба з'явіцца на суд контррэволюцыянераў. Тав. Сталін рашуча выказваўся супроць яўкі Леніна на суд. VI з'езд таксама выказаўся супроць яўкі Леніна на суд, лічачы, што гэта будзе не суд, а расправа. З'езд не сумняваўся ў тым, што буржуазія дабіваецца толькі аднаго—фізічнай расправы з Леніным, як са сваім небяспечнейшым ворагам. З'езд выразіў пратэст супроць буржуазна-паліцэйскай траўлі правадыроў рэвалюцыйнага пролетарыята і паслаў прывітанне Леніну.

VI з'езд прыняў новы статут партыі. У статуце партыі было ўказана, што ўсе арганізацыі партыі павінны будавацца на пачатках **дэмакратычнага цэнтралізма.**

Гэта азначала:

1) выбарнасць усіх кіруючых органаў партыі зверху данізу;

2) перыядычную справаздачнасць партыйных органаў перад сваімі партыйнымі арганізацыямі;

3) строгую партыйную дысцыпліну і падпарадкаванне з боку меншасці большасці;

4) безумоўную абавязковасць рашэнняў вышэйшых органаў для ніжэйшых і для ўсіх членаў партыі.

У статуце партыі было сказана, што ў партыю прымаюцца людзі мясцовымі арганізацыямі па рэкамендацыі двух членаў партыі і пасля зацвярджэння агульным сходам членаў партыйнай арганізацыі.

VI з'езд прыняў у партыю «міжраёнцаў» разам з іх лідэрам Троцкім. Гэта была невялікая група, якая існавала ў Петраградзе з 1913 года і складалася з трацкістаў-меншавікоў і часткі былых большэвікоў, якія адкалоліся ад партыі. «Міжраёнцы» ў часе вайны былі цэнтрысцкай арганізацыяй. Яны змагаліся супроць большэвікоў, але яны не былі таксама ва многім згодны з меншавікамі, займаючы, такім чынам, прамежкавае, цэнтрысцкае, хістаючаеся становішча. У часе VI з'езда партыі «міжраёнцы» заявілі, што яны ва ўсім згодны з большэвікамі і просяць прыняць іх у партыю. З'езд задаволіў іх просьбу, разлічваючы на тое, што яны з цягам часу могуць стаць сапраўднымі большэвікамі. Некаторыя з «міжраёнцаў», напрыклад, Валадарскі, Урыцкі і іншыя сапраўды сталі потым большэвікамі. Што датычыць Троцкага і яго некаторых блізкіх прыяцеляў, то яны, як аказалася потым, увайшлі ў партыю не для работы на карысць партыі, а для таго, каб расхістваць яе і ўзарваць знутры.

Усе рашэнні VI з'езда былі накіраваны на падрыхтоўку пралетарыята і бяднейшага сялянства да ўзброенага паўстання. VI з'езд нацэліў партыю на ўзброенае паўстанне, на соцыялістычную рэволюцыю.

Выпушчаны з'ездам маніфест партыі заклікаў рабочых, салдат, сялян рыхтаваць сілы для рашучых схватак з буржуазіяй. Ён заканчваўся такімі словамі:

> «Рыхтуйцеся-ж да новых бітваў, нашы баявыя таварышы! Стойка, мужна і спакойна, не паддаючыся на правакацыю, капіце сілы, стройцеся ў баявыя калоны! Пад сцяг партыі, пролетарыі і салдаты! Пад наш сцяг, прыгнечаныя вёскі!».

## 5. Змова генерала Карнілава супроць рэволюцыі. Разгром змовы. Пераход Советаў у Петраградзе і Маскве на старану большэвікоў.

Захваціўшы ўсю ўладу, буржуазія пачала рыхтавацца да разгрому абяссіленых Советаў і стварэння непрыкрытай контррэволюцыйнай дыктатуры. Мільянер Рабушынскі нагла заявіў, што выхад са становішча ён бачыць у тым, што «кастлявая рука голаду, народная нішчата схопіць за горла ілжэпрыяцеляў народа—дэмакратычныя Советы і Камітэты». На фронце лютавалі палявыя суды і кара смерцю для салдат. 3-га жніўня 1917 года галоўнакамандуючы генерал Карнілаў патрэбаваў увядзення кары смерцю і ў тылу.

12-га жніўня ў Маскве ў Вялікім тэатры адкрылася скліканая Часовым урадам для мабілізацыі сіл буржуазіі і памешчыкаў Дзяржаўная нарада. На нарадзе прысутнічалі, галоўным чынам, прадстаўнікі памешчыкаў, буржуазіі, генералітэта, афіцэрства, казацтва. Советы былі прадстаўлены на нарадзе меншавікамі і эсэрамі.

У дзень адкрыцця Дзяржаўнай нарады большэвікі арганізавалі ў Маскве ў выглядзе пратэсту ўсеагульную забастоўку, якая ахапіла большасць рабочых. Адначасова адбываліся забастоўкі і ў радзе іншых гарадоў.

Эсэр Керэнскі, расхвастаўшыся, пагражаў у сваёй прамове на нарадзе «жалезам і крывёю» падавіць усякія спробы рэволюцыйнага руху, у тым ліку спробы самавольнага захвату сялянамі памешчыцкіх зямель.

Контррэволюцыйны генерал Карнілаў прама патрабаваў «скасаваць Камітэты і Советы».

У Стаўку, як называўся тады штаб галоўнакамандуючага,—да генерала Карнілава пацягнуліся банкіры, купцы, фабрыканты, абяцаючы грошы і падтрыманне.

Да генерала Карнілава з'явіліся і прадстаўнікі «саюзнікаў», гэта значыць Англіі і Францыі, патрабуючы не марудзіць з выступленнем супроць рэволюцыі.

Справа ішла да змовы генерала Карнілава супроць рэволюцыі.

Змова Карнілава падрыхтоўвалася адкрыта. Каб адцягнуць ад яе ўвагу, змоўшчыкі пусцілі чутку, што большэвікі ў Петраградзе падрыхтоўваюць паўстанне ка дню поўгадавіны рэволюцыі—27 жніўня. Часовы ўрад на чале з Керэнскім абрушыўся на большэвікоў, узмацніў тэрор супроць пролетарскай партыі. Разам з тым генерал Карнілаў збіраў войскі для таго, каб рушыць іх на Петраград, ліквідаваць Советы і стварыць урад ваеннай дыктатуры.

Аб сваім контррэволюцыйным выступленні Карнілаў папярэдне згаварваўся з Керэнскім. Але ў самы момант карнілаўскага выступлення Керэнскі крута змяніў фронт, адмежаваўся ад свайго саюзніка. Керэнскі апасаўся, што народныя масы, падняўшыся супроць карнілаўшчыны і разграміўшы яе, заадно змятуць і буржуазны ўрад Керэнскага, калі ён не адмяжуецца цяпер-жа ад карнілаўшчыны.

25 жніўня Карнілаў рушыў на Петраград 3-ці конны корпус пад камандаваннем генерала Крымава, аб'явіўшы, што ён мае намер «выратаваць радзіму». У адказ на карнілаўскае паўстанне ЦК большэвіцкай партыі заклікаў рабочых і салдат да актыўнага ўзброенага адпору контррэволюцыі. Рабочыя быстра пачалі ўзбройвацца і рыхтавацца да адпору. Чырвонагвардзейскія атрады ў гэтыя дні выраслі ў некалькі разоў. Профсаюзы мабілізавалі сваіх членаў. Рэволюцыйныя воінскія часці Петраграда таксама прыведзены былі ў баявую гатоўнасць. Вакол Петраграда капалі акопы, ставілі дротавыя загараджэнні, разбіралі пад'язныя пуці. Некалькі тысяч узброеных кранштацкіх матросаў прыбыло на абарону Петраграда. У «дзікую дывізію», наступаўшую на Петраград, былі пасланы дэлегаты, якія раз'яснілі горцам-салдатам сэнс карнілаўскага выступлення, і «дзікая дывізія» адмовілася наступаць на Петраград. Агітатары былі пасланы і ў іншыя карнілаўскія часці. Усюды, дзе была небяспека, ствараліся рэўкомы і штабы па барацьбе з карнілаўшчынай.

Насмерць перапалоханыя эсэра-меншавіцкія лідэры, у тым ліку Керэнскі, шукалі ў гэтыя дні абароны ў большэвікоў, бо яны пераканаліся, што адзіная рэальная сіла ў сталіцы, здольная разбіць Карнілава,—гэта большэвікі.

Але, мабілізуючы масы на разгром карнілаўшчыны, большэвікі не спынялі барацьбы і з урадам Керэнскага. Большэвікі выкрывалі перад масамі ўрад Керэнскага, меншавікоў і эсэраў, якія ўсёй сваёй палітыкай аб'ектыўна дапамагалі контррэволюцыйнай змове Карнілава.

У рэзультаце ўсіх гэтых мер карнілаўшчына была разгромлена. Генерал Крымаў застрэліўся. Карнілаў і яго спадвіжнікі—Дзенікін і

Лукомскі былі арыштаваны (у хуткім часе, між іншым, Керэнскі іх вызваліў).

Разгром карнілаўшчыны адным ударам ускрыў і асвятліў суадносіны сіл паміж рэвалюцыяй і контррэвалюцыяй. Ён паказаў асуджанасць усяго контррэвалюцыйнага лагера ад генералаў і кадэцкай партыі да меншавікоў і эсэраў, якія заблыталіся ў палоне ў буржуазіі. Стала відавочным, што палітыка зацягвання непасільнай вайны і выкліканая зацяжнай вайной гаспадарчая разруха канчаткова падарвалі іх уплыў сярод народных мас.

Разгром карнілаўшчыны паказаў, далей, што большэвіцкая партыя вырасла ў рашаючую сілу рэвалюцыі, здольную разбіць любыя пра-іскі контррэвалюцыі. Наша партыя не была яшчэ правячай партыяй, але яна дзейнічала ў дні карнілаўшчыны, як сапраўдная правячая сіла, бо яе ўказанні выконваліся рабочымі і салдатамі без хістанняў.

Нарэшце, разгром карнілаўшчыны паказаў, што здаваўшыяся памёршымі Советы на самай справе тояць у сабе найвялікшую сілу рэвалюцыйнага адпору. Не падлягала сумненню, што іменна Советы і іх рэўкомы перагарадзілі дарогу карнілаўскім войскам і надламалі іх сілы.

Барацьба з карнілаўшчынай ажывіла захірэўшыя было Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, вызваліла іх з палону згодніцкай палітыкі, вывела іх на шырокую дарогу рэвалюцыйнай барацьбы і павярнула іх у бок большэвіцкай партыі.

Уплыў большэвікоў у Советах вырас, як ніколі.

Уплыў большэвікоў стаў быстра расці таксама і ў вёсцы.

Карнілаўскае паўстанне паказала шырокім масам сялянства, што памешчыкі і генералы, разграміўшы большэвікоў і Советы, насядуць потым на сялянства. Таму шырокія масы сялянскай беднаты пачалі ўсё цясней згуртоўвацца вакол большэвікоў. Што датычыць серадднякоў, хістанні якіх тармазілі развіццё рэвалюцыі за перыяд ад красавіка да жніўня 1917 года, то яны, пасля разгрому Карнілава, пачалі яўна паварачваць у бок большэвіцкай партыі, далучаючыся да бядняцкай масы сялянства. Шырокія масы сялянства сталі разумець, што толькі партыя большэвікоў можа вызваліць іх ад вайны, здольна сакрушыць памешчыкаў і гатова аддаць зямлю сялянам. Верасень і Кастрычнік 1917 года даюць велізарнае павышэнне колькасці захватаў сялянамі памешчыцкіх зямель. Самавольнае заворванне памешчыцкіх зямель набывае паўсямесны характар. Ні ўгаворы, ні карныя атрады ўжо не спыняюць сялян, якія падняліся на рэвалюцыю.

Уздым рэвалюцыі нарастаў.

Разгарнулася паласа ажыўлення і абнаўлення Советаў, паласа большэвізацыі Советаў. Фабрыкі, заводы, воінскія часці, перавыбіраючы сваіх дэпутатаў, пасылаюць у Советы, замест меншавікоў і эсэраў, прадстаўнікоў большэвіцкай партыі. На другі дзень пасля перамогі над карнілаўшчынай, 31 жніўня, Петраградскі Совет выказваецца за палітыку большэвікоў. Стары меншавіцка-эсэраўскі прэзідыум Петраградскага Совета на чале з Чхеідзе ідзе ў адстаўку, ачышчаючы месца для большэвікоў. 5 верасня Маскоўскі Совет рабочых дэпутатаў пераходзіць на бок большэвікоў. Эсэра-меншавіцкі прэзідыум Маскоўскага Совета таксама ідзе ў адстаўку, ачышчаючы дарогу для большэвікоў.

Гэта азначала, што асноўныя прадпасылкі, неабходныя для паспяховага паўстання, ужо наспелі.

Зноў на чаргу стаў лозунг: «Уся ўлада Советам!».

Але гэта ўжо не быў стары лозунг пераходу ўлады ў рукі меншавіцка-эсэраўскіх Советаў. Не,—гэта быў лозунг паўстання Советаў супроць Часовага ўрада з мэтай перадачы ўсёй улады ў краіне Советам, кіруемым большэвікамі.

Сярод згодніцкіх партый пачаўся разброд.

У эсэраў выдзелілася пад даўленнем рэволюцыйна настроеных сялян левае крыло—«левыя» эсэры, якія пачалі выражаць нездаволенасць палітыкай згодніцтва з буржуазіяй.

У меншавікоў у сваю чаргу паявілася група «левых», так званых «інтэрнацыяналістаў», якія сталі цягацець да большэвікоў.

Што датычыць анархістаў, то яны, будучы і так нязначнай па свойму ўплыву групай, цяпер канчаткова распаліся на дробныя групкі, з якіх адны змяшаліся з крымінальна-зладзейскімі і правакатарскімі элементамі падонкаў грамадства, другія пайшлі ў «ідэйныя» экспрапрыятары, якія грабілі сялян і дробны гарадскі люд і адбіралі ў рабочых клубаў іх памяшканні, іх зберажэнні, а трэція перакачвалі адкрыта ў лагер контррэволюцыянераў, наладжваючы сваё асабістае жыццё на задворках у буржуазіі. Усе яны былі супроць усякай улады, у тым ліку і асабліва—супроць рэволюцыйнай улады рабочых і сялян, бо былі ўпэўнены, што рэволюцыйная ўлада не дасць ім грабіць народ і раскрадаць народную маёмасць.

Пасля разгрому карнілаўшчыны меншавікі і эсэры зрабілі яшчэ адну спробу аслабіць нарастаючы рэволюцыйны ўздым. З гэтай мэтай 12 верасня 1917 года яны склікалі Усерасійскую дэмакратычную нараду з прадстаўнікоў соцыялістычных партый, згодніцкіх Советаў, профсаюзаў, земстваў, гандлёва-прамысловых кругоў і воінскіх часцей. Нарадай быў выдзелен Прадпарламент (Часовы совет рэспублікі). Згоднікі думалі пры дапамозе Прадпарламента прыпыніць рэволюцыю і перавесці краіну з шляху совецкай рэволюцыі на шлях буржуазна-канстытуцыйнага развіцця, на шлях буржуазнага парламентарызма. Але гэта была безнадзейная спроба абанкроціўшыхся палітыкаў павярнуць назад кола рэволюцыі. Яна павінна была пацярпець крах і сапраўды пацярпела крах. Рабочыя здзекваліся над парламенцкімі практыкаваннямі згоднікаў. Яны для смеху ахрысцілі Прадпарламент «прадбаннікам».

ЦК партыі большэвікоў рашыў байкаціраваць Прадпарламент. Праўда, большэвіцкая фракцыя Прадпарламента, дзе сядзелі такія людзі, як Каменеў, Тэадаровіч, не хацела пакінуць сцены Прадпарламента. Але ЦК партыі прымусіў іх выйсці з Прадпарламента.

Удзел у Прадпарламенце ўпорна адстойвалі Каменеў і Зіноўеў, імкнучыся адцягнуць гэтым партыю ад падрыхтоўкі паўстання. Супроць удзелу ў Прадпарламенце рашуча выступаў на большэвіцкай фракцыі Усерасійскай дэмакратычнай нарады тав. Сталін. Ён называў Прадпарламент «выкідышам карнілаўшчыны».

Ленін і Сталін лічылі сур'ёзнай памылкай нават кароткачасовы ўдзел у Прадпарламенце, бо ён мог пасеяць абманчывыя надзеі сярод мас, быццам Прадпарламент сапраўды можа нешта зрабіць для працоўных.

У той-жа час большэвікі настойліва рыхтавалі скліканне II з'езда Советаў, дзе разлічвалі атрымаць большасць. Не гледзячы на ўсе выкруты меншавікоў і эсэраў, якія сядзелі ў ВЦВК, пад напорам большэвіцкіх Советаў II Усерасійскі з'езд Советаў быў назначан на другую палавіну кастрычніка 1917 года.

**6. Кастрычніцкае паўстанне ў Петраградзе і арышт Часовага ўрада. II з'езд Советаў і ўтварэнне Совецкага ўрада. Дэкрэты II з'езда Советаў аб міры, аб зямлі. Перамога соцыялістычнай рэволюцыі. Прычыны перамогі соцыялістычнай рэволюцыі.**

Большэвікі пачалі ўзмоцнена рыхтавацца да паўстання. Ленін указваў, што, атрымаўшы большасць у абодвух сталічных Советах рабочых і салдацкіх дэпутатаў—Маскоўскім і Петраградскім, большэвікі могуць і павінны ўзяць дзяржаўную ўладу ў свае рукі. Падводзячы вынікі пройдзенага шляху, Ленін падкрэсліваў: «Большасць народа **за** нас». У сваіх артыкулах і пісьмах у Цэнтральны Камітэт і да большэвіцкіх арганізацый Ленін даваў канкрэтны план паўстання: аб тым, як скарыстаць воінскія часці, флот і чырвонагвардзейцаў, аб тым, якія рашаючыя пункты ў Петраградзе неабходна захваціць, каб забяспечыць поспех паўстання і т. д.

7 кастрычніка Ленін нелегальна прыехаў з Фінляндыі ў Петраград. 10 кастрычніка 1917 года адбылося гістарычнае пасяджэнне ЦК партыі, на якім было вырашана ў бліжэйшыя дні пачаць узброенае паўстанне. Гістарычная рэзалюцыя ЦК партыі, напісаная Леніным, гаварыла:

> «ЦК прызнае, што як міжнароднае становішча рускай рэволюцыі (паўстанне ва флоце ў Германіі, як крайняе праяўленне нарастання ва ўсёй Еўропе сусветнай соцыялістычнай рэволюцыі, затым пагроза міра імперыялістаў з мэтай удушэння рэволюцыі ў Расіі), так і ваеннае становішча (несумненнае рашэнне рускай буржуазіі і Керэнскага з К° здаць Піцер немцам), так і набыццё большасці пролетарскай партыяй у Советах,—усё гэта ў сувязі з сялянскім паўстаннем і з паваротам народнага давер'я да нашай партыі (выбары ў Маскве), нарэшце, яўнае падрыхтаванне другой карнілаўшчыны (вывад войск з Піцера, падвоз к Піцеру казакаў, акружэнне Менска казакамі і інш.),—усё гэта ставіць у парадак дня ўзброенае паўстанне.
>
> Прызнаючы такім чынам, што ўзброенае паўстанне немінуча і ў поўнай меры наспела, ЦК прапануе ўсім арганізацыям партыі кіравацца гэтым і з гэтага пункту гледжання абмяркоўваць і вырашаць усе практычныя пытанні (з'езда Советаў Паўночнай вобласці, вываду войск з Піцера, выступлення масквічоў і менчан і т. д.)» (**Ленін,** т. XXI, стар. 330).

Супроць гэтага гістарычнага рашэння выступалі і галасавалі два члены ЦК—Каменеў і Зіноўеў. Яны, таксама, як і меншавікі, марылі аб буржуазнай парламентарнай рэспубліцы і ўзводзілі паклёпы на рабочы клас, сцвярджаючы, што ў яго няма сіл для ажыццяўлення соцыялістычнай рэволюцыі, што ён яшчэ не дарос да ўзяцця ўлады.

Хоць Троцкі на гэтым пасяджэнні прама не галасаваў супроць рэзалюцыі, але ён прапанаваў такую папраўку да рэзалюцыі, якая павінна была звесці на нішто і праваліць паўстанне. Ён прапанаваў не пачынаць паўстання да адкрыцця II з'езда Советаў, што азначала— зацягнуць справу паўстання, загадзя расшыфраваць дзень паўстання, папярэдзіць аб гэтым Часовы ўрад.

ЦК большэвіцкай партыі разаслаў упаўнаважаных у Данбас, на Урал, у Гельсінгфорс, Кранштат, на паўднёва-заходні фронт і т. д. для арганізацыі паўстання на месцах. Таварышы Варашылаў, Молатаў,

Дзержынскі, Орджанікідзе, Кіраў, Кагановіч, Куйбышэў, Фрунзе, Яраслаўскі і іншыя атрымалі спецыяльныя заданні партыі па кіраўніцтву паўстаннем на месцах. На Урале, у Шадрынску, сярод ваенных вёў работу т. Жданаў. На заходнім фронце, у Беларусі, падрыхтоўваў да паўстання салдацкую масу т. Ежоў. Упаўнаважаныя ЦК знаёмілі кіраўнікоў мясцовых большэвіцкіх арганізацый з планам паўстання і прыводзілі іх у мабілізацыйную гатоўнасць для аказання дапамогі паўстанню ў Петраградзе.

Па ўказанню Цэнтральнага Камітэта партыі быў створан **Ваенна-рэволюцыйны камітэт** пры Петраградскім Совеце, які стаў легальным штабам паўстання.

Тым часам і контррэволюцыя спешна збірала свае сілы. Афіцэрства арганізавалася ў контррэволюцыйны «саюз афіцэраў». Усюды контррэволюцыянеры стваралі штабы па фарміраванню ўдарных батальёнаў. К канцу кастрычніка контррэволюцыя мела 43 ударныя батальёны. Спецыяльна былі арганізаваны батальёны з георгіеўскіх кавалераў.

Урад Керэнскага паставіў пытанне аб пераездзе ўрада з Петраграда ў Маскву. З гэтага было відаць, што ён падрыхтоўваў здачу Петраграда немцам, каб прадухіліць паўстанне ў Петраградзе. Пратэст петраградскіх рабочых і салдат прымусіў Часовы ўрад астацца ў Петраградзе.

16 кастрычніка адбылося пашыранае пасяджэнне ЦК партыі. На ім быў выбран **Партыйны цэнтр** па кіраўніцтву паўстаннем на чале з тав. Сталіным. Гэты Партыйны цэнтр з'яўляўся кіруючым ядром Ваенна-рэволюцыйнага камітэта пры Петраградскім Совеце і кіраваў практычна ўсім паўстаннем.

На пасяджэнні ЦК капітулянты Зіноўеў і Каменеў зноў выступілі супроць паўстання. Атрымаўшы адпор, яны пайшлі на адкрытае выступленне ў друку супроць паўстання, супроць партыі. 18 кастрычніка ў меншавіцкай газеце «Новая жизнь» была надрукавана заява Каменева і Зіноўева аб падрыхтоўцы большэвікамі паўстання і аб тым, што яны лічаць паўстанне авантурай. Такім чынам, Каменеў і Зіноўеў раскрылі перад ворагамі рашэнне ЦК аб паўстанні, аб арганізацыі паўстання ў бліжэйшы час. Гэта была здрада. Ленін у сувязі з гэтым пісаў: «Каменеў і Зіноўеў **выдалі** Радзянку і Керэнскаму рашэнне ЦК сваёй партыі аб узброеным паўстанні». Ленін паставіў перад ЦК пытанне аб выключэнні з партыі Зіноўева і Каменева.

Папярэджаныя прэдацелямі ворагі рэволюцыі адразу-ж пачалі прымаць меры да таго, каб папярэдзіць паўстанне і разграміць кіруючы штаб рэволюцыі—партыю большэвікоў. Часовы ўрад устроіў сакрэтнае пасяджэнне, на якім было вырашана пытанне аб мерах барацьбы з большэвікамі. 19 кастрычніка Часовы ўрад спешна выклікаў у Петраград войскі з фронта. Па вуліцах сталі раз'язджаць узмоцненыя патрулі. Асабліва вялікія сілы контррэволюцыя паспела сабраць у Маскве. У Часовага ўрада быў распрацован план: за дзень да адкрыцця II з'езда Советаў атакаваць і заняць Смольны, месцапрабыванне ЦК большэвікоў, і разграміць кіруючы цэнтр большэвікоў. Для гэтага к Петраграду былі сцягнуты войскі, на вернасць якіх разлічваў урад.

Аднак, дні і гадзіны існавання Часовага ўрада былі ўжо злічаны. Ніякія сілы не маглі ўжо спыніць пераможнага шэствія социялістычнай рэволюцыі.

21 кастрычніка ва ўсе рэволюцыйныя часці войск былі пасланы большэвікамі камісары Ваенна-рэволюцыйнага камітэта. Усе дні да паўстання ў вайсковых часцях, на фабрыках і заводах ішла энергічная баявая падрыхтоўка. Пэўныя заданні атрымалі таксама баявыя судны—крэйсер «Аврора» і «Заря свободы».

На пасяджэнні Петраградскага Совета Троцкі, расхвастаўшыся, выбалбатаў ворагу тэрмін паўстання, дзень, да якога прыўрочылі большэвікі пачатак паўстання. Для таго, каб не даць магчымасці ўраду Керэнскага сарваць узброенае паўстанне, ЦК партыі рашыў пачаць і правесці паўстанне раней намечанага тэрміну і за дзень да адкрыцця II з'езда Советаў.

Керэнскі пачаў сваё выступленне досвіткам 24 кастрычніка (6 лістапада) выданнем загаду аб закрыцці цэнтральнага органа партыі большэвікоў «Рабочий путь» і пасылкай браневікоў да памяшкання рэдакцыі «Рабочего пути» і друкарні большэвікоў. Але к 10 гадзінам раніцы па ўказанню тав. Сталіна чырвонагвардзейцы і рэволюцыйныя салдаты адцяснілі браневікі і ўстанавілі ўзмоцненую ахову ля друкарні і рэдакцыі «Рабочего пути». К 11 гадзінам раніцы вышаў «Рабочий путь» з заклікам—**звергнуць** Часовы ўрад. Адначасова па ўказанню Партыйнага цэнтра паўстання былі тэрмінова падцягнуты к Смольнаму атрады рэволюцыйных салдат і чырвонагвардзейцаў.

Паўстанне пачалося.

24 кастрычніка ноччу ў Смольны прыбыў Ленін, які непасрэдна ўзяў у свае рукі кіраўніцтва паўстаннем. Усю ноч к Смольнаму падыходзілі рэволюцыйныя вайсковыя часці і атрады Чырвонай гвардыі. Іх накіроўвалі большэвікі ў цэнтр сталіцы—акружыць Зімні палац, дзе акапаўся Часовы ўрад.

25 кастрычніка (7 лістапада) Чырвонай гвардыяй і рэволюцыйнымі войскамі былі заняты вакзалы, пошта, тэлеграф, міністэрствы, дзяржаўны банк.

Быў распушчан Прадпарламент.

Смольны, дзе знаходзіліся Петраградскі Совет і ЦК большэвікоў, стаў баявым штабам рэволюцыі, адкуль ішлі баявыя загады.

Петраградскія рабочыя паказалі ў гэтыя дні, што яны прайшлі пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі добрую школу. Рэволюцыйныя часці войск, падрыхтаваныя да паўстання работай большэвікоў, дакладна выконвалі баявыя загады і змагаліся поплеч з Чырвонай гвардыяй. Марскі флот не адстаў ад арміі. Кранштат быў крэпасцю большэвіцкай партыі, дзе даўно ўжо не прызнавалася ўлада Часовага Урада. Крэйсер «Аврора» громам сваіх гармат, накіраваных на Зімні палац, абвясціў 25 кастрычніка пачатак новай эры—эры Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі.

25 кастрычніка (7 лістапада) быў апублікован зварот большэвікоў «Да грамадзян Расіі». У гэтым звароце гаварылася, што буржуазны Часовы ўрад нізложан, што дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі Советаў.

Часовы ўрад укрыўся ў Зімнім палацы пад аховай юнкераў і ўдарных батальёнаў. У ноч з 25 на 26 кастрычніка рэволюцыйныя рабочыя, салдаты і матросы штурмам узялі Зімні палац і арыштавалі Часовы ўрад.

Узброенае паўстанне ў Петраградзе перамагло.

II Усерасійскі з'езд Советаў адкрыўся ў Смольным у 10 гадзін 45 мінут вечара 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 года, калі перамож-

нае паўстанне ў Петраградзе было ўжо ў поўным разгары і ўлада ў сталіцы фактычна знаходзілася ў руках Петраградскага Совета.

Большэвікі атрымалі на з'ездзе пераважную большасць. Меншавікі, бундаўцы і правыя эсэры, бачачы, што іх песенька спета, пакінулі з'езд, заявіўшы аб адмове прымаць удзел у яго рабоце. Кастрычніцкую рэволюцыю яны ў абвешчанай на з'ездзе Советаў заяве называлі «ваеннай змовай». З'езд закляйміў меншавікоў і эсэраў, адзначыўшы, што не толькі не шкадуе аб іх уходзе, а вітае яго, бо дзякуючы ўходу прэдацеляў з'езд стаў сапраўды рэволюцыйным з'ездам рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Ад імя з'езда было аб'яўлена аб пераходзе ўсёй улады ў рукі Советаў.

> «Апіраючыся на волю велізарнай большасці рабочых, салдат і сялян, апіраючыся на адбыўшаеся ў Петраградзе пераможнае паўстанне рабочых і гарнізона, З'езд бярэ ўладу ў свае рукі»,—гаварылася ў адозве II з'езда Советаў.

Ноччу 26 кастрычніка (8 лістапада) 1917 года II з'езд Советаў прыняў **дэкрэт аб міры.** З'езд прапаноўваў ваюючым краінам заключыць неадкладна перамір'е па меншай меры на тры месяцы для вядзення перагавораў аб міры. Звяртаючыся да ўрадаў і народаў усіх ваюючых краін, з'езд у той-жа самы час звяртаўся да «свядомых рабочых трох самых перадавых нацый чалавецтва і самых буйных дзяржаў, прымаючых удзел у цяперашняй вайне: Англіі, Францыі і Германіі». Ён заклікаў гэтых рабочых дапамагчы «паспяхова давесці да канца справу міру і разам з тым справу вызвалення працоўных і эксплуатуемых мас насельніцтва ад усякага рабства і ўсякай эксплуатацыі».

У тую-ж ноч II з'езд Советаў прыняў **дэкрэт аб зямлі,** па якому «памешчыцкая ўласнасць на зямлю адмяняецца неадкладна без усякага выкупу». За аснову гэтага зямельнага закона быў прынят агульнасялянскі наказ, складзены на падставе 242 мясцовых сялянскіх наказаў. Па гэтаму наказу права прыватнай уласнасці на зямлю адмянялася назаўсёды і замянялася ўсенароднай, дзяржаўнай уласнасцю на зямлю. Памешчыцкія, удзельныя і манастырскія землі перадаваліся ў безаплатнае карыстанне ўсіх працоўных.

Усяго сялянства па гэтаму дэкрэту атрымала ад Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі больш 150 мільёнаў дзесяцін новых земель, якія раней знаходзіліся ў руках памешчыкаў, буржуазіі, царскай сям'і, манастыроў, цэркваў.

Сяляне аслабаняліся ад штогодніх арэндных плацяжоў памешчыкам у суме каля 500 мільёнаў рублёў золатам.

Усе нетры зямлі (нафта, вугаль, руда і т. д.), лясы, воды пераходзілі ва ўласнасць народа.

Нарэшце, на II Усерасійскім з'ездзе Советаў быў сфарміраван першы Совецкі ўрад,—Совет народных камісараў. Совет народных камісараў быў складзен цалкам з большэвікоў. Старшынёй першага Соўнаркома быў выбран Ленін.

Так закончыўся гістарычны II з'езд Советаў.

Дэлегаты з'езда раз'ехаліся на месцы, каб разнесці вестку аб перамозе Советаў у Петраградзе і забяспечыць распаўсюджанне Совецкай улады па ўсёй краіне.

Не адразу ва ўсіх месцах перайшла ўлада да Советаў. У той час

як у Петраградзе ўжо існавала Совецкая ўлада, у Маскве яшчэ на працягу некалькіх дзён ішлі ўпорныя і лютыя баі на вуліцах. Каб не дапусціць пераход улады ў рукі Маскоўскага Совета, контррэволюцыйныя партыі меншавікоў і эсэраў разам з белагвардзейцамі і юнкерамі адкрылі ўзброеную барацьбу супроць рабочых і салдат. Толькі праз некалькі дзён мяцежнікі былі разбіты, і была ўцверджана ў Маскве ўлада Советаў.

У самым Петраградзе і яго некаторых раёнах у першыя-ж дні перамогі рэволюцыі былі зроблены контррэволюцыянерамі спробы звергнуць Совецкую ўладу. 10 лістапада 1917 года Керэнскі, які ўцёк у часе паўстання з Петраграда ў раён паўночнага фронта, сабраў некаторыя казацкія часці і рушыў іх на Петраград на чале з генералам Красновым. 11 лістапада 1917 года контррэволюцыйная арганізацыя— «Камітэт выратавання радзімы і рэволюцыі»—на чале з эсэрамі паднялa ў Петраградзе мяцеж юнкераў. Але мяцежнікі былі разбіты без асаблівай цяжкасці. На працягу аднаго дня, к вечару 11 лістапада, быў ліквідаван матросамі і чырвонагвардзейцамі юнкерскі мяцеж, а 13 лістапада ля Пулкаўскіх вышынь быў разгромлен генерал Красноў. Як і ў часе Кастрычніцкага паўстання, Ленін асабіста кіраваў разгромам антысовецкага мецяжа. Яго непахісная цвёрдасць і спакойная ўпэўненасць у перамозе натхнялі і згуртоўвалі масы. Вораг быў разбіт. Красноў быў узят у палон і даў «чэснае слова», што спыніць барацьбу супроць Совецкай улады. Пад гэтае «чэснае слова» ён быў адпушчан, але, як выяснілася потым, Красноў нарушыў сваё генеральскае слова. Што датычыць Керэнскага, то ён, пераадзеты ў жаночае адзенне, паспеў скрыцца «ў невядомым напрамку».

У Магілеве, у Стаўцы галоўнакамандуючага войскамі, генерал Духонін таксама папрабаваў арганізаваць мяцеж. Калі Совецкі ўрад прапанаваў Духоніну неадкладна прыступіць да перагавораў аб перамір'і з германскім камандаваннем, ён адмовіўся выканаць прадпісанне ўрада. Тады загадам Совецкай улады Духонін быў знят з пасады. Контррэволюцыйная Стаўка была разгромлена, пры гэтым Духонін быў забіт паўстаўшымі супроць яго салдатамі.

Папрабавалі зрабіць вылазку супроць Совецкай улады таксама вядомыя апартуністы ўнутры партыі: Каменеў, Зіноўеў, Рыкаў, Шляпнікаў і іншыя. Яны сталі патрабаваць стварэння «аднародна-соцыялістычнага ўрада» з удзелам меншавікоў і эсэраў, толькі што звергнутых Кастрычніцкай рэволюцыяй. 15 лістапада 1917 года ЦК партыі большэвікоў прыняў рэзалюцыю, якая адвяргала пагадненне з гэтымі контррэволюцыйнымі партыямі, а Каменева і Зіноўева аб'яўляла штрэйкбрэхерамі рэволюцыі. 17 лістапада Каменеў, Зіноўеў, Рыкаў, Мілюцін, нязгодныя з палітыкай партыі, заявілі аб сваім выхадзе з састава ЦК. У той-жа дзень, 17 лістапада, Ногін ад свайго імя і ад імя ўваходзіўшых у Совет народных камісараў Рыкава, В. Мілюціна, Тэадаровіча, А. Шляпнікава, Д. Разанава, Юрэнева, Ларына зрабіў заяву аб нязгодзе з палітыкай ЦК партыі і аб выхадзе пайменаваных асоб з састава Совета народных камісараў. Бегства кучкі трусоў выклікала лікаванне ворагаў Кастрычніцкай рэволюцыі. Уся буржуазія і яе пасобнікі зларадня́чалі, крычалі аб развале большэвізма, прарочылі гібель большэвіцкай партыі. Але кучка дэзертыраў ні на мінуту не пахіснула партыі. ЦК партыі з прэзрэннем закляйміў іх, як дэзертыраў рэволюцыі і пасобнікаў буржуазіі, і перайшоў да чарговых спраў.

Што датычыць «левых» эсэраў, то, жадаючы захаваць уплыў у сялянскіх масах, якія яўна спачувалі большэвікам, яны рашылі не сварыцца з большэвікамі і захаваць пакуль што адзіны фронт з імі. З'езд сялянскіх Советаў, які адбыўся ў лістападзе 1917 года, прызнаў усе заваяванні Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі і дэкрэты Совецкай улады. Было заключана пагадненне з «левымі» эсэрамі, і некалькі «левых» эсэраў было ўключана ў састаў Совета народных камісараў (Калегаеў, Спірыдонава, Праш'ян і Штэйнберг). Аднак, гэта пагадненне праіснавала толькі да падпісання брэсцкага міру і ўтварэння камітэтаў беднаты, калі ў сялянстве адбылося глыбокае расслаенне і калі «левыя» эсэры, усё больш адлюстроўваючы інтарэсы кулацтва, паднялі мяцеж супроць большэвікоў і былі разгромлены Совецкай уладай.

З кастрычніка 1917 года па студзень—люты 1918 года совецкая рэволюцыя паспела распаўсюдзіцца па ўсёй краіне. Распаўсюджанне ўлады Советаў па тэрыторыі велізарнай краіны ішло такім быстрым тэмпам, што Ленін назваў яго «трыумфальным маршам» Совецкай улады.

Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя перамагла.

З раду прычын, якія вызначылі такую, параўнальна лёгкую, перамогу социялістычнай рэволюцыі ў Расіі, трэба адзначыць наступныя галоўныя прычыны.

1. Кастрычніцкая рэволюцыя мела перад сабой такога, параўнальна слабога, дрэнна арганізаванага, палітычна малавопытнага ворага, як руская буржуазія. Неўзмацнеўшая яшчэ эканамічна і цалкам залежаўшая ад урадавых заказаў, руская буржуазія не мела ні палітычнай самастойнасці, ні дастатковай ініцыятывы, неабходных для таго, каб знайсці выхад са становішча. У яе не было ні вопыту палітычных камбінацый і палітычнага ашуканства ў вялікім маштабе, які мае, напрыклад, французская буржуазія, ні школы машэнніцкіх кампрамісаў вялікага размаху, якую мае, напрыклад, англійская буржуазія. Учора яшчэ шукаўшая пагаднення з царом, звергнутым лютаўскай рэволюцыяй, яна, прышоўшы пасля гэтага да ўлады, не здолела прыдумаць нічога лепшага, як прадаўжаць ва ўсім асноўным палітыку ненавіснага цара. Яна, як і цар, стаяла за «вайну да пераможнага канца», не гледзячы на тое, што вайна стала непасільнай для краіны і стаміла да апошняй ступені народ, армію. Яна, як і цар, стаяла за захаванне ў асноўным памешчыцкай уласнасці на зямлю, не гледзячы на тое, што сялянства памірала ад беззямелля і памешчыцкага гнёту. Што датычыць палітыкі ў адносінах рабочага класа, то руская буржуазія пайшла ў сваёй нянавісці да рабочага класа далей цара, бо яна старалася не толькі захаваць і ўмацаваць гнёт заводчыкаў і фабрыкантаў, але і зрабіць яго нязносным дзякуючы прымяненню масавых лакаутаў.

Не дзіўна, што народ не бачыў істотнай розніцы паміж палітыкай цара і палітыкай буржуазіі і нянавісць да цара перанёс на Часовы ўрад буржуазіі.

Пакуль згодніцкія партыі эсэраў і меншавікоў мелі некаторы ўплыў у народзе, буржуазія магла прыкрывацца імі і захаваць за сабой уладу. Але пасля таго, як меншавікі і эсэры выкрылі сябе, як агентаў імперыялістычнай буржуазіі, і пазбавілі сябе тым самым уплыву ў народзе, буржуазія і яе Часовы ўрад аказаліся павісшымі ў паветры.

2. На чале Кастрычніцкай рэволюцыі стаяў такі рэволюцыйны клас, як рабочы клас Расіі, клас, які загартаваўся ў баях, прайшоў за кароткі тэрмін дзве рэволюцыі і заваяваў к пярэдадню трэцяй рэволюцыі аўтарытэт правадыра народа ў барацьбе за мір, за зямлю, за свабоду, за соцыялізм. Не будзь такога, заслужыўшага давер'е народа, правадыра рэволюцыі, як рабочы клас Расіі, не было-б і саюза рабочых і сялян, а без такога саюза не магла-б перамагчы Кастрычніцкая рэволюцыя.

3. Рабочы клас Расіі меў такога сур'ёзнага саюзніка ў рэволюцыі, як сялянская бедната, якая складала велізарную большасць сялянскага насельніцтва. Вопыт васьмі месяцаў рэволюцыі, які смела можа быць прыроўнен вопыту некалькіх дзесяткаў год «нармальнага» развіцця, не прайшоў дарэмна для працоўных мас сялянства. За гэты час яны мелі магчымасць выпрабаваць на справе ўсе партыі ў Расіі і пераканацца, што ні кадэты, ні эсэры і меншавікі не стануць сур'ёзна сварыцца з памешчыкамі і праліваць кроў з-за сялян, што ў Расіі ёсць толькі адна партыя, якая не звязана з памешчыкамі і гатова раздаваць памешчыкаў, каб задаволіць сялянскія патрэбы,—гэта партыя большэвікоў. Гэтая акалічнасць паслужыла рэальнай асновай саюза пролетарыята і сялянскай беднаты. Наяўнасць саюза рабочага класа і сялянскай беднаты вызначыла і паводзіны серадпякоў, якія доўга хісталіся і толькі перад Кастрычніцкім паўстаннем павярнуліся, як след, у бок рэволюцыі, далучыўшыся да сялянскай беднаты.

Няма чаго і даказваць, што без такога саюза Кастрычніцкая рэволюцыя не магла-б перамагчы.

4. На чале рабочага класа стаяла такая, выпрабаваная ў палітычных баях, партыя, як партыя большэвікоў. Толькі такая партыя, як партыя большэвікоў, дастаткова смелая для таго, каб павесці народ на рашучы штурм і дастаткова асцярожная для таго, каб абыйсці ўсе і ўсякія падводныя камені на шляху да мэты,—толькі такая партыя магла так умела злучыць у адзін агульны рэволюцыйны паток такія розныя рэволюцыйныя рухі, як агульна-дэмакратычны рух за мір, сялянска-дэмакратычны рух за захват памешчыцкіх зямель, нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных народаў за нацыянальнае роўнапраўе і соцыялістычны рух пролетарыята за звяржэнне буржуазіі, за ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята.

Несумненна, што злучэнне гэтых розных рэволюцыйных патокаў у адзін агульны магутны рэволюцыйны паток рашыла лёс капіталізма ў Расіі.

5. Кастрычніцкая рэволюцыя пачалася ў такі момант, калі імперыялістычная вайна была яшчэ ў разгары, калі галоўныя буржуазныя дзяржавы былі расколаты на два варожыя лагеры, калі яны, будучы заняты вайной адзін з другім і аслабляючы адзін другога, не мелі магчымасці сур'ёзна ўмяшацца ў «рускія справы» і актыўна выступіць супроць Кастрычніцкай рэволюцыі.

Несумненна, што гэтая акалічнасць значна аблягчыла перамогу Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

## 7. Барацьба большэвіцкай партыі за ўмацаванне Совецкай улады. Брэсцкі мір. VII з'езд партыі.

Каб умацаваць Совецкую ўладу, трэба было разбурыць, зламаць стары, буржуазны дзяржаўны апарат і на яго месцы стварыць новы апарат Совецкай дзяржавы. Трэба было, далей, разбурыць астаткі

саслоўнага ладу і рэжым нацыянальнага гнёту, адмяніць прывілеі царквы, ліквідаваць контррэволюцыйны друк і контррэволюцыйныя арганізацыі ўсякага роду, легальныя і нелегальныя, распусціць буржуазны Устаноўчы сход. Нарэшце, трэба было ўслед за нацыяналізацыяй зямлі нацыяналізаваць таксама ўсю буйную прамысловасць і затым—выйсці са становішча вайны, пакончыць з вайной, якая больш за ўсё перашкаджала справе ўмацавання Совецкай улады.

Усе гэтыя мерапрыемствы былі праведзены на працягу некалькіх месяцаў з канца 1917 года да сярэдзіны 1918 года.

Сабатаж чыноўнікаў старых міністэрстваў, арганізаваны эсэрамі і меншавікамі, быў зломлен і ліквідаван. Міністэрствы былі скасаваны і замест іх былі створаны совецкія апараты кіравання і адпаведныя народныя камісарыяты. Быў створан Вышэйшы совет народнай гаспадаркі для кіравання прамысловасцю краіны. Была арганізавана Усерасійская надзвычайная камісія (ВЧК) па барацьбе з контррэволюцыяй і сабатажам на чале з Ф. Дзержынскім. Быў выдан дэкрэт аб стварэнні Чырвонай арміі і флота. Устаноўчы сход, выбары ў які ў асноўным праходзілі яшчэ да Кастрычніцкай рэволюцыі і які адмовіўся пацвердзіць дэкрэты II з'езда Советаў аб міры, аб зямлі, аб пераходзе ўлады да Советаў,—быў распушчан.

У мэтах канчатковай ліквідацыі астаткаў феадалізма, саслоўнасці і няроўнапраўя ва ўсіх галінах грамадскага жыцця былі выданы дэкрэты аб адмене саслоўяў, аб знішчэнні нацыянальных і вераіспаведных абмежаванняў, аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, аб роўнапраўі жанчын, аб роўнапраўі нацыянальнасцей Расіі.

У спецыяльнай пастанове Совецкага ўрада, вядомай, як «Дэкларацыя правоў народаў Расіі», устанаўлівалася, што свабоднае развіццё народаў Расіі і поўнае іх роўнапраўе з'яўляюцца законам.

Для падрыву эканамічнай сілы буржуазіі і арганізацыі новай совецкай народнай гаспадаркі, перш за ўсё—для арганізацыі новай, совецкай прамысловасці—былі нацыяналізаваны банкі, чыгункі, замежны гандаль, гандлёвы флот і ўся буйная прамысловасць ва ўсіх яе галінах: вугальная, металургічная, нафтавая, хімічная, машынабудаўнічая, тэкстыльная, цукровая і т. д.

У мэтах вызвалення нашай краіны ад фінансавай залежнасці і эксплуатацыі іншакраінных капіталістаў, быліануляваны (адменены) замежныя пазыкі Расіі, заключаныя царом і Часовым урадам. Народы нашай краіны не жадалі плаціць за даўгі, узятыя для прадаўжэння грабежніцкай вайны і ставіўшыя нашу краіну ў кабальную залежнасць ад замежнага капітала.

Усе гэтыя і падобныя ім мерапрыемствы падарвалі ў корані сілы буржуазіі, памешчыкаў, рэакцыйнага чыноўніцтва, контррэволюцыйных партый і—значна ўмацавалі Совецкую ўладу ўнутры краіны.

Але нельга было лічыць становішча Совецкай улады ўпаўне ўмацаваным, пакуль Расія знаходзілася ў стане вайны з Германіяй і Аўстрыяй. Каб канчаткова ўмацаваць Совецкую ўладу, трэба было пакончыць з вайной. Таму партыя разгарнула барацьбу за мір з першых-жа дзён перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі.

Совецкі ўрад прапанаваў «усім ваюючым народам і іх урадам пачаць неадкладна перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры». Аднак, «саюзнікі»—Англія і Францыя—адмовіліся прыняць прапанову Совецкага ўрада. З прычыны адмовы Францыі і Англіі ад

перагавораў аб міры, Совецкі ўрад, выконваючы волю Советаў, рашыў прыступіць да перагавораў з Германіяй і Аўстрыяй.

Перагаворы пачаліся 3 снежня ў Брэст-Літоўску. 5 снежня была падпісана згода аб перамір'і, аб часовым спыненні ваенных дзеянняў.

Перагаворы адбываліся ў абстаноўцы разрухі народнай гаспадаркі, у абстаноўцы агульнай стомленасці ад вайны і ўходу з фронта нашых вайсковых часцей, у абстаноўцы развалу фронта. У часе перагавораў выяснілася, што германскія імперыялісты імкнуцца захваціць велізарныя кавалкі тэрыторыі былой царскай імперыі, а Польшчу, Украіну і Прыбалтыйскія краіны хочуць ператварыць у залежныя ад Германіі дзяржавы.

Прадаўжаць вайну ў гэтых умовах—значыла ставіць на карту існаванне Совецкай рэспублікі, якая толькі што нарадзілася. Перад рабочым класам і сялянствам паўстала неабходнасць пайсці на цяжкія ўмовы міру, адступіць перад самым небяспечным тады драпежнікам—германскім імперыялізмам, каб атрымаць перадышку, умацаваць Совецкую ўладу і стварыць новую, Чырвоную армію, здольную абараняць краіну ад нападу ворагаў.

Усе контррэволюцыянеры, пачынаючы ад меншавікоў і эсэраў і канчаючы самымі ад'яўленымі белагвардзейцамі, вялі шалёную агітацыю супроць падпісання міру. Іх лінія была ясна: яны хацелі сарваць мірныя перагаворы, справацыраваць наступленне немцаў і паставіць пад удар неўзмацнеўшую яшчэ Совецкую ўладу, паставіць пад пагрозу заваяванні рабочых і сялян.

Іх саюзнікамі ў гэтай чорнай справе аказаліся Троцкі і яго спадручны Бухарын, які разам з Радэкам і Пятаковым узначальваў варожую партыі групу, якая іменавала сябе для маскіроўкі групай «левых комуністаў». Троцкі і група «левых комуністаў» павялі ўнутры партыі жорсткую барацьбу супроць Леніна, патрабуючы прадаўжэння вайны. Гэтыя людзі яўна ігралі на-руку германскім імперыялістам і контррэволюцыянерам унутры краіны, бо вялі справу да таго, каб паставіць маладую, не меўшую яшчэ арміі, Совецкую рэспубліку пад удар германскага імперыялізма.

Гэта была нейкая правакатарская палітыка, па-майстэрску маскіруемая левымі фразамі.

10 лютага 1918 года мірныя перагаворы ў Брэст-Літоўску былі перарваны. Не гледзячы на тое, што Ленін і Сталін ад імя ЦК партыі настойвалі на падпісанні міру, Троцкі, будучы старшынёй совецкай дэлегацыі ў Брэсце, па-прэдацельску нарушыў прамыя дырэктывы большэвіцкай партыі. Ён заявіў аб адмове Совецкай рэспублікі падпісаць мір на прапанаваных Германіяй умовах і ў той-жа самы час паведаміў немцаў, што Совецкая рэспубліка весці вайну не будзе і прадаўжае дэмабілізацыю арміі.

Гэта было страшэнна. Большага і не маглі патрабаваць нямецкія імперыялісты ад прэдацеля інтарэсаў Совецкай краіны.

Германскі ўрад перарваў перамір'е і перайшоў у наступленне. Астаткі нашай старой арміі не ўстаялі супроць напору нямецкіх войск і сталі разбягацца. Немцы прасоўваліся быстра, захватваючы велізарную тэрыторыю і пагражаючы Петраграду. Германскі імперыялізм, уторгнуўшыся ў Совецкую краіну, задаўся мэтай звергнуць Совецкую ўладу і ператварыць нашу радзіму ў сваю калонію. Старая, разваліўшаяся царская армія не магла ўстаяць супроць узброеных полчышчаў германскага імперыялізма. Яна адкатвалася пад ударамі германскай арміі.

Але ўзброеная інтэрвенцыя нямецкіх імперыялістаў выклікала магутны рэвалюцыйны ўздым у краіне. У адказ на кінуты партыяй і Совецкім урадам кліч «Соцыялістычная бацькаўшчына ў небяспецы» рабочы клас адказаў узмоцненым фарміраваннем часцей Чырвонай арміі. Маладыя атрады новай арміі—арміі рэволюцыйнага народа—гераічна адбівалі націск узброенага да зубоў германскага драпежніка. Пад Нарвай і Псковам нямецкім акупантам быў дан рашучы адпор. Іх прасоўванне на Петраград было прыпынена. Дзень адпору войскам германскага імперыялізма—23 лютага—стаў днём нараджэння маладой Чырвонай арміі.

Яшчэ 18 лютага 1918 года ЦК партыі прынята была прапанова Леніна паслаць тэлеграму германскаму ўраду аб неадкладным заключэнні міру. Каб забяспечыць сабе больш выгадныя ўмовы міру, немцы прадаўжалі наступленне, і толькі 22 лютага германскі ўрад выразіў згоду падпісаць мір, прычым умовы міру былі значна цяжэй першапачатковых.

Леніну, Сталіну і Свердлову прышлося вытрымаць упорнейшую барацьбу ў ЦК супроць Троцкага, Бухарына і іншых трацкістаў, каб дабіцца рашэння аб міры. Ленін указваў, што Бухарын і Троцкі «на справе **дапамаглі** германскім імперыялістам і **перашкодзілі** росту і развіццю рэволюцыі ў Германіі» (**Ленін,** т. XXII, стар. 307).

23 лютага ЦК пастанавіў прыняць умовы нямецкага камандавання і падпісаць мірны дагавор. Прэдацельства Троцкага і Бухарына дорага абышлося Совецкай рэспубліцы. Латвія, Эстонія, не гаворачы ўжо аб Польшчы, адыходзілі да Германіі, Украіна аддзялялася ад Совецкай рэспублікі і ператваралася ў васальную (залежную) нямецкую дзяржаву. Совецкая рэспубліка абавязалася плаціць немцам кантрыбуцыю.

Між тым «левыя комуністы», прадаўжаючы барацьбу супроць Леніна, скатваліся ўсё ніжэй і ніжэй у балота прэдацельства.

Маскоўскае абласное бюро партыі, часова захвачанае «левымі комуністамі» (Бухарын, Осінскі, Якаўлева, Стукаў, Манцэў), прыняло раскольніцкую рэзалюцыю недавер'я ЦК і заявіла, што яно лічыць «наўрад ці ўстаранімым раскол партыі ў бліжэйшы час». Яны дайшлі ў гэтай рэзалюцыі да прыняцця антысовецкага рашэння: «У інтарэсах міжнароднай рэволюцыі,—пісалі «левыя комуністы» ў гэтым рашэнні,—мы лічым мэтазгодным ісці на магчымасць страты Совецкай улады, якая становіцца цяпер чыста фармальнай».

Ленін назваў гэта рашэнне «дзіўным і страшэнным».

У той час для партыі не была яшчэ ясна сапраўдная прычына такіх антыпартыйных паводзін Троцкага і «левых комуністаў». Але як гэта ўстанавіў нядаўна працэс антысовецкага «права-трацкісцкага блока» (пачатак 1938 года), Бухарын і ўзначальваемая ім група «левых комуністаў» сумесна з Троцкім і «левымі» эсэрамі, аказваецца, былі тады ў тайнай змове супроць Совецкага ўрада. Бухарын, Троцкі і іх саўдзельнікі па змове, аказваецца, ставілі сабе мэту—сарваць брэсцкі мірны дагавор, арыштаваць В. І. Леніна, І. В. Сталіна, Я. М. Свердлова, забіць іх і сфарміраваць новы ўрад з бухарынцаў, трацкістаў і «левых» эсэраў.

Арганізуючы тайную контррэволюцыйную змову, адначасова група «левых комуністаў» пры падтрыманні Троцкага вяла адкрытую атаку супроць большэвіцкай партыі, імкнучыся расказоць партыю і разлажыць партыйныя рады. Але партыя згуртавалася ў гэты цяжкі мо-

мант вакол Леніна, Сталіна, Свердлова і падтрымала Цэнтральны Камітэт у пытанні аб міры таксама, як і ва ўсіх іншых пытаннях.

Група «левых комуністаў» аказалася ізаляванай і разбітай.

Для канчатковага вырашэння пытання аб міры быў склікан VII з'езд партыі.

VII з'езд партыі адкрыўся 6 сакавіка 1918 года. Гэта быў першы з'езд, скліканы пасля ўзяцця ўлады нашай партыяй. На з'ездзе было 46 дэлегатаў з рашаючым голасам і 58 з дарадчым. На з'ездзе было прадстаўлена 145 тысяч членаў партыі. На самай справе ў партыі было ў гэты час не менш 270 тысяч членаў. Гэтае разыходжанне аб'ясняецца тым, што, з прычыны экстранага характару з'езда, значная частка арганізацый не паспела прыслаць дэлегатаў, а арганізацыі, тэрыторыя якіх была часова акупіравана немцамі, не мелі магчымасці прыслаць дэлегатаў.

Дакладваючы аб брэсцкім міры, Ленін гаварыў на гэтым з'ездзе, што «... той цяжкі крызіс, які перажывае наша партыя, у сувязі з утварэннем у ёй левай апазіцыі, з'яўляецца адным з найвялікшых крызісаў, перажываемых рускай рэволюцыяй» (там-жа, стар. 321).

30 галасамі супроць 12 пры 4 устрымаўшыхся была прынята рэзалюцыя Леніна па пытанню аб брэсцкім міры.

Ленін пісаў на другі дзень пасля прыняцця рэзалюцыі ў артыкуле «Няшчасны мір»:

> «Нязносна цяжкія ўмовы міру. А ўсё-ж гісторыя возьме сваё... За работу арганізацыі, арганізацыі і арганізацыі. Будучае, не гледзячы ні на якія іспытанні—за намі» (там-жа, стар. 288).

У рэзалюцыі з'езда адзначалася, што немінучы і надалей ваенныя выступленні імперыялістычных дзяржаў супроць Совецкай рэспублікі, што таму з'езд лічыць асноўнай задачай партыі прыняцце самых энергічных і рашучых мер для павышэння самадысцыпліны і дысцыпліны рабочых і сялян, для падрыхтоўкі мас да самаадданай абароны социялістычнай бацькаўшчыны, для арганізацыі Чырвонай арміі, для ўсеагульнага ваеннага абучэння насельніцтва.

З'езд, пацвердзіўшы правільнасць ленінскай лініі ў пытанні аб брэсцкім міры, асудзіў пазіцыю Троцкага і Бухарына, заклаймiўшы спробу пацярпеўшых паражэнне «левых комуністаў» прадаўжаць на самым з'ездзе раскольніцкую работу.

Заключэнне брэсцкага міру дало партыі магчымасць выйграць час для ўмацавання Совецкай улады, для прывядзення ў парадак гаспадаркі краіны.

Заключэнне міру дало магчымасць скарыстаць сутычкі ў лагеры імперыялізма (прадаўжаўшаяся вайна Аўстра-Германіі з Антантай), разлажыць сілы праціўніка, арганізаваць совецкую гаспадарку, стварыць Чырвоную армію.

Заключэнне міру дало магчымасць пролетарыяту захаваць за сабой сялянства і накапіць сілы для разгрому белагвардзейскіх генералаў у перыяд грамадзянскай вайны.

У перыяд Кастрычніцкай рэволюцыі Ленін вучыў большэвіцкую партыю, як трэба бясстрашна і рашуча наступаць, калі для гэтага ёсць неабходныя ўмовы. У перыяд брэсцкага міру Ленін вучыў партыю, як трэба ў парадку адступаць у момант, калі сілы праціўніка заведама перавышаюць нашы сілы, з тым, каб з найвялікшай энергіяй рыхтаваць новае наступленне супроць ворагаў.

Гісторыя паказала ўсю правільнасць ленінскай лініі.

На VII з'ездзе было прынята рашэнне аб перамене назвы партыі, а таксама аб змяненні праграмы партыі. Партыя стала называцца Расійскай Комуністычнай партыяй (большэвікоў)—РКП(б). Ленін прапанаваў назваць нашу партыю комуністычнай, бо гэтая назва дакладна адпавядала той мэце, якую партыя ставіць перад сабой,—ажыццяўленне комунізма.

Для складання новай праграмы партыі была выбрана асобая камісія, у якую ўвайшлі Ленін, Сталін і іншыя, прычым за аснову праграмы быў прынят праект, распрацаваны Леніным.

Такім чынам, VII з'езд выканаў велізарную гістарычную справу: ён разбіў затаіўшыхся ворагаў унутры партыі, «левых комуністаў» і трацкістаў, ён дабіўся выхаду з імперыялістычнай вайны, ён дабіўся міру, перадышкі, ён даў партыі выйграць час для арганізацыі Чырвонай арміі, і абавязаў партыю навесці соцыялістычны парадак у народнай гаспадарцы.

## 8. Ленінскі план прыступу да соцыялістычнага будаўніцтва. Камбеды і абузданне кулацтва. Мяцеж «левых» эсэраў і яго падаўленне. V з'езд Советаў і прыняцце Канстытуцыі РСФСР.

Заключыўшы мір і атрымаўшы перадышку, Совецкая ўлада прыступіла да разгортвання соцыялістычнага будаўніцтва. Перыяд з лістапада 1917 года па люты 1918 года Ленін назваў перыядам «чырвонагвардзейскай атакі на капітал». Совецкай уладзе ўдалося на працягу першай палавіны 1918 года зламаць гаспадарчую магутнасць буржуазіі, сканцэнтраваць у сваіх руках камандныя вышыні народнай гаспадаркі (фабрыкі, заводы, банкі, чыгункі, замежны гандаль, гандлёвы флот і т. п.), зламаць буржуазны апарат дзяржаўнай улады і пераможна ліквідаваць першыя спробы контррэволюцыі звергнуць Совецкую ўладу.

Але ўсяго гэтага было далёка яшчэ недастаткова. Каб рушыць уперад, трэба было ад разбурэння старога перайсці да будаўніцтва новага. Таму вясной 1918 года пачаўся пераход да новага этапу соцыялістычнага будаўніцтва—«ад экспрапрыяцыі экспрапрыятараў» да арганізацыйнага замацавання атрыманых перамог, да будаўніцтва совецкай народнай гаспадаркі. Ленін лічыў неабходным максімальна скарыстаць перадышку для таго, каб прыступіць да пабудовы фундамента соцыялістычнай эканомікі. Большэвікі павінны былі навучыцца па-новаму арганізаваць вытворчасць і кіраваць ёю. Ленін пісаў, што партыя большэвікоў Расію пераканала, партыя большэвікоў Расію адваявала ў багатых для народа, цяпер, гаварыў Ленін, партыя большэвікоў павінна навучыцца кіраваць Расіяй.

Галоўнымі задачамі на гэтым этапе Ленін лічыў задачы ўліку таго, што вырабляецца ў народнай гаспадарцы, і кантролю над расходаваннем усёй вытвараемай прадукцыі. У краіне пераважалі дробнабуржуазныя элементы ў гаспадарцы. Мільёны дробных гаспадарыкаў у горадзе і вёсцы былі глебай для росту капіталізма. Гэтыя дробныя гаспадарыкі не прызнавалі ні працоўнай, ні агульнадзяржаўнай дысцыпліны, яны не падпарадкоўваліся ні ўліку, ні кантролю. У гэты цяжкі момант асаблівую небяспеку прадстаўлялі дробнабуржуазная стыхія спекуляцыі і гандлярства і спробы дробных гаспадарыкаў і гандляроў нажыцца на народнай нуждзе.

Партыя павяла энергічную барацьбу з расхлябанасцю ў вытворчасці, з адсутнасцю працоўнай дысцыпліны ў прамысловасці. Новыя

працоўныя навыкі павольна ўсвайваліся масамі. З прычыны гэтага, барацьба за працоўную дысцыпліну стала ў гэты перыяд цэнтральнай задачай.

Ленін указваў на неабходнасць разгортвання ў прамысловасці соцыялістычнага спаборніцтва, увядзення здзельнай аплаты, барацьбы з ураўнілаўкай, прымянення побач з выхаваўчымі мерамі перакапання таксама і метадаў прымусу да тых, хто хоча як мага больш урваць ад дзяржавы, лодырнічае і займаецца спекуляцыяй. Ён лічыў, што новая дысцыпліна—дысцыпліна працоўная, дысцыпліна таварыскай сувязі, дысцыпліна совецкая—выпрацоўваецца мільёнамі працоўных на штодзённай практычнай рабоце. Ён указваў, што «гэтая справа зойме цэлую гістарычную эпоху» (**Ленін,** т. XXIII, стар. 44).

Усе гэтыя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва, пытанні стварэння новых, соцыялістычных вытворчых адносін былі асветлены Леніным у яго выдатнай рабоце «Чарговыя задачы Совецкай улады».

«Левыя комуністы», выступаючы заадно з эсэрамі і меншавікамі, павялі барацьбу супроць Леніна і па гэтых пытаннях. Бухарын, Осінскі і іншыя выступалі супроць насаджэння дысцыпліны, супроць адзінаначалля на прадпрыемствах, супроць скарыстання спецыялістаў у прамысловасці, супроць правядзення гаспадарчага разліку. Яны ўзводзілі паклёпы на Леніна, сцвярджаючы, што такая палітыка азначае зварот да буржуазных парадкаў. Адначасова «левыя комуністы» прапаведвалі троцкісцкія погляды, што соцыялістычнае будаўніцтва і перамога соцыялізма ў Расіі немагчымы.

За «левымі» фразамі ў «левых комуністаў» скрывалася абарона кулака, лодыра, спекулянта, якія былі супроць дысцыпліны і варожа адносіліся да дзяржаўнага рэгулявання гаспадарчага жыцця, да ўліку і кантролю.

Вырашыўшы пытанні арганізацыі новай, совецкай прамысловасці, партыя перайшла да пытанняў вёскі. У вёсцы кіпела ў гэты час барацьба беднаты з кулацтвам. Кулакі забіралі сілу і захватвалі адабраныя ў памешчыкаў землі. Бедната нуждалася ў дапамозе. Кулакі, змагаючыся з пролетарскай дзяржавай, адмаўляліся прадаваць дзяржаве хлеб па цвёрдых цэнах. Яны хацелі пры дапамозе голаду прымусіць Совецкую дзяржаву адмовіцца ад правядзення соцыялістычных мерапрыемстваў. Партыя паставіла задачу—разграміць контррэволюцыйнае кулацтва. Для арганізацыі беднаты і паспяховай барацьбы з кулацтвам, якое мела лішкі хлеба, быў арганізован паход рабочых у вёску.

> «Таварышы-рабочыя!—пісаў Ленін.—Памятайце, што становішча рэволюцыі крытычнае. Памятайце, што выратаваць рэволюцыю можаце **толькі вы,**—больш няма каму. Дзесяткі тысяч адборных, перадавых, адданых соцыялізму рабочых, няздольных паддацца на хабар і на раскраданне, здольных стварыць жалезную сілу супроць кулакоў, спекулянтаў, марадзёраў, хабарнікаў, дэзарганізатараў,—вось што неабходна» (там-жа, стар. 25).

«Барацьба за хлеб—гэта барацьба за соцыялізм»,—гаварыў Ленін, і пад гэтым лозунгам ішла арганізацыя рабочых для паходу ў вёску. Быў выдан рад дэкрэтаў, якія ўстанаўлівалі прадавольственную дыктатуру і прадастаўлялі органам наркампродаў надзвычайныя паўнамоцтвы для закупкі хлеба па цвёрдых цэнах.

Дэкрэтам 11 чэрвеня 1918 года былі створаны **камітэты беднаты** (камбеды). Камбеды адыгралі вялікую ролю ў барацьбе з кулацтвам,

у справе пераразмеркавання канфіскаваных зямель і размеркавання гаспадарчага інвентара, у загатоўцы прадавольственных лішкаў у кулакоў, у справе снабжэння прадавольствіем рабочых цэнтраў і Чырвонай арміі. 50 мільёнаў гектараў кулацкай зямлі перайшло ў рукі беднаты і серадвякоў. Была канфіскавана ў кулацтва значная частка сродкаў вытворчасці на карысць беднаты.

Арганізацыя камітэтаў беднаты з'яўлялася далейшым этапам у разгортванні соцыялістычнай рэволюцыі ў вёсцы. Камбеды з'яўляліся апорнымі пунктамі дыктатуры пролетарыята ў вёсцы. Праз камбеды ў значнай ступені ішло фарміраванне кадраў Чырвонай арміі з сялянскага насельніцтва.

Паход пролетарыяў у вёску і арганізацыя камітэтаў беднаты ўмацавалі Совецкую ўладу ў вёсцы і мелі велізарнае палітычнае значэнне для заваявання селяніна-серадняка на старану Совецкай улады.

К канцу 1918 года, калі камбеды выканалі свае задачы, яны спынілі сваё існаванне, зліўшыся з Советамі ў вёсцы.

4 ліпеня 1918 года адкрыўся V з'езд Советаў. На з'ездзе «левыя» эсэры разгарнулі жорсткую барацьбу супроць Леніна, у абарону кулакоў. Яны патрабавалі спынення барацьбы з кулацтвам і адмовы ад пасылкі рабочых прадавольственных атрадаў у вёску. Калі «левыя» эсэры пераканаліся, што іх лінія сустракае цвёрды адпор з боку большасці з'езда, яны арганізавалі мяцеж у Маскве, захвацілі Трохсвяцproperцельскі завулак і адтуль пачалі было артылерыйскі абстрэл Крэмля. Аднак, на працягу некалькіх гадзін гэтая «лева»-эсэраўская авантура была падаўлена большэвікамі. У радзе пунктаў краіны мясцовыя арганізацыі «левых» эсэраў таксама прабавалі паўстаць, але ўсюды гэтая авантура была быстра ліквідавана.

Як устаноўлена цяпер працэсам антысовецкага «права-трацкісцкага блока», мяцеж «левых» эсэраў быў паднят з ведама і згоды Бухарына і Троцкага і з'яўляўся часткай агульнага плана контррэволюцыйнай змовы бухарынцаў, трацкістаў і «левых» эсэраў супроць Совецкай улады.

У той-жа самы час «левы» эсэр Блюмкін, у далейшым агент Троцкага, забраўся ў германскае пасольства і, з мэтай справацыраваць вайну з Германіяй, забіў Мірбаха—германскага пасла ў Маскве. Але Совецкаму ўраду ўдалося прадухіліць вайну і сарваць правакацыю контррэволюцыянераў.

На V з'ездзе Советаў была прынята Канстытуцыя РСФСР—першая совецкая Канстытуцыя.

## КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.

На працягу васьмі месяцаў ад лютага да кастрычніка 1917 года партыя большэвікоў выконвае труднейшую задачу: яна заваёўвае большасць у рабочым класе, у Советах, яна прыцягвае на старану соцыялістычнай рэволюцыі мільёны сялян. Яна вырывае гэтыя масы з-пад уплыву дробнабуржуазных партый (эсэраў, меншавікоў, анархістаў), яна крок за крокам выкрывае палітыку гэтых партый, накіраваную супроць інтарэсаў працоўных. Партыя большэвікоў разгортвае велізарную палітычную работу на фронце і ў тылу, падрыхтоўваючы масы да Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Рашаючыя моманты ў гісторыі партыі гэтага перыяду: прыезд Леніна з эміграцыі, Красавіцкія тэзісы Леніна, Красавіцкая канферэнцыя партыі і VI з'езд партыі. У рашэннях партыі рабочы клас чэр-

пае сілу і ўпэўненасць у перамозе, знаходзіць адказ на важнейшыя пытанні рэволюцыі. Красавіцкая канферэнцыя накіроўвае партыю на барацьбу за пераход ад рэволюцыі буржуазна-дэмакратычнай да рэволюцыі соцыялістычнай. VI з'езд нацэльвае партыю на ўзброенае паўстанне супроць буржуазіі і яе Часовага ўрада.

Згодніцкія партыі эсэраў і меншавікоў, анархісты і іншыя некомуністычныя партыі завяршаюць сваё развіццё: усе яны становяцца буржуазнымі партыямі ўжо перад Кастрычніцкай рэволюцыяй, якія адстойваюць цэласць і захаванасць капіталістычнага ладу. Партыя большэвікоў адна кіруе барацьбой мас за звяржэнне буржуазіі і ўстанаўленне ўлады Советаў.

Адначасова большэвікі разбіваюць спробы капітулянтаў унутры партыі—Зіноўева, Каменева, Рыкава, Бухарына, Троцкага, Пятакова звярнуць партыю са шляху соцыялістычнай рэволюцыі.

Узначальваемы партыяй большэвікоў, рабочы клас, у саюзе з сялянскай беднатой, пры падтрыманні салдат і матросаў, звяргае ўладу буржуазіі, устанаўлівае ўладу Советаў, устанаўлівае новы тып дзяржавы—соцыялістычную совецкую дзяржаву,—адмяняе памешчыцкую ўласнасць на зямлю, перадае зямлю ў карыстанне сялянству, нацыяналізуе ўсе землі ў краіне, экспрапрыіруе капіталістаў, заваёўвае выхад з вайны,—мір, атрымлівае неабходную перадышку і стварае, такім чынам, умовы для разгортвання соцыялістычнага будаўніцтва.

Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя разбіла капіталізм, адняла ў буржуазіі сродкі вытворчасці і ператварыла фабрыкі, заводы, зямлю, чыгункі, банкі—ва ўласнасць усяго народа, у грамадскую ўласнасць.

Яна ўстанавіла дыктатуру пролетарыята і перадала кіраўніцтва велізарнай дзяржавай рабочаму класу, зрабіўшы яго, такім чынам, пануючым класам.

Тым самым Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва—эру пролетарскіх рэволюцый.

Раздзел VIII

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД ЗАМЕЖНАЙ ВАЕННАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ І ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ.

## (1918—1920 годы).

### 1. Пачатак замежнай ваеннай інтэрвенцыі. Першы перыяд грамадзянскай вайны.

Заключэнне брэсцкага міру і ўмацаванне Совецкай улады ў рэзультаце раду яе рэволюцыйна-эканамічных мерапрыемстваў у момант, калі вайна на Захадзе была яшчэ ў поўным разгары,—выклікалі найвялікшую трывогу сярод імперыялістаў Захада, асабліва-ж сярод імперыялістаў Антанты.

Імперыялісты Антанты апасаліся, што заключэнне міру паміж Германіяй і Расіяй можа аблягчыць ваеннае становішча Германіі і адпаведна затрудніць становішча войск Антанты на фронце. Яны апасаліся, далей, што ўстанаўленне міру паміж Расіяй і Германіяй можа ўзмацніць цягу да міру ва ўсіх краінах, на ўсіх фронтах і тым падарваць справу вайны, справу імперыялістаў. Яны апасаліся, нарэшце, што існаванне Совецкай улады на тэрыторыі велізарнай краіны і яе поспехі ў краіне, якія паследавалі пасля зварження там улады буржуазіі, могуць паслужыць заразлівым прыкладам для рабочых і салдат Захада, якія ахоплены глыбокім нездавальненнем зацягнуўшайся вайной і могуць—па прыкладу рускіх—павярнуць штыкі супроць сваіх паноў і прыгнятальнікаў. З гэтай прычыны ўрады Антанты рашылі пачаць ваенную інтэрвенцыю (умяшанне) ў Расіі з тым, каб звергнуць Совецкую ўладу і паставіць буржуазную ўладу, якая аднавіла-б у краіне буржуазныя парадкі, адмяніла-б мірны дагавор з немцамі і аднавіла-б ваенны фронт супроць Германіі і Аўстрыі.

Імперыялісты Антанты тым ахвотней ішлі на гэту чорную справу, што яны былі перакана246 ў нетрываласці Совецкай улады і не сумняваліся ў немінучасці яе хуткага падзення пры пэўных намаганнях з боку яе ворагаў.

Яшчэ больш трывогі ўнеслі поспехі Совецкай улады і яе ўмацаванне ў рады звергнутых класаў—памешчыкаў і капіталістаў, у рады разбітых партый—кадэтаў, меншавікоў, эсэраў, анархістаў, усякага роду буржуазных нацыяналістаў, ў рады белагвардзейскіх генералаў, казацкага афіцэрства і т. п.

Усе гэтыя варожыя элементы з першых-жа дзён перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі з усіх дахаў крычалі, што Совецкая ўлада не мае

глебы ў Расіі, што яна асуджана, што яна абавязкова загіне праз адзін або два тыдні, праз месяц або, самае большае—праз два-тры месяцы. Але паколькі Совецкая ўлада прадаўжала існаваць і ўмацоўвацца, не гледзячы на заклінанні яе ворагаў, то ворагі Совецкай улады ўнутры Расіі аказаліся вымушанымі прызнаць, што Совецкая ўлада многа сільней, чым яны думалі раней, што для звяржэння Совецкай улады неабходны сур'ёзныя намаганні і жорсткая барацьба ўсіх сіл контррэволюцыі. Таму яны рашылі павесці шырокую контррэволюцыйна-мяцежную работу па збіранню сіл контррэволюцыі, па скалачванню ваенных кадраў, па арганізацыі мецяжоў, перш за ўсё, у казацкіх і кулацкіх раёнах.

Такім чынам, ужо ў першай палавіне 1918 года склаліся дзве пэўныя сілы, гатовыя пайсці на звяржэнне Совецкай улады: іншакраінныя імперыялісты Антанты і контррэволюцыя ўнутры Расіі.

Ні адна з гэтых сіл не мела дастатковых даных для таго, каб самастойна пайсці на звяржэнне Совецкай улады. У контррэволюцыі ў Расіі былі некаторыя ваенныя кадры, а таксама некаторая колькасць людскіх сіл, галоўным чынам, у асобе казацкіх вярхоў і кулацтва, неабходныя для таго, каб падняць паўстанне супроць Совецкай улады. Але ў яе не было грошай і ўзбраення. У іншакраінных імперыялістаў, наадварот, былі грошы і ўзбраенне, але яны не маглі «адпусціць» на інтэрвенцыю дастатковай колькасці воінскіх сіл не толькі таму, што гэтыя сілы патрэбны былі для вайны з Германіяй і Аўстрыяй, але і таму, што яны маглі аказацца не зусім надзейнымі для барацьбы з Совецкай уладай.

Умовы барацьбы з Совецкай уладай дыктавалі аб'яднанне абодвух антысовецкіх сіл, замежнай і ўнутранай. І гэта аб'яднанне склалася ў першай палавіне 1918 года.

Так склалася замежная ваенная інтэрвенцыя супроць Совецкай улады, падтрыманая контррэволюцыйнымі мецяжамі ворагаў Совецкай улады ўнутры Расіі.

Так скончылася перадышка і пачалася грамадзянская вайна ў Расіі, гэта значыць вайна рабочых і сялян народаў Расіі супроць знешніх і ўнутраных ворагаў Совецкай улады.

Імперыялісты Англіі, Францыі, Японіі, Амерыкі пачалі ваенную інтэрвенцыю без аб'яўлення вайны, хоць інтэрвенцыя была вайной супроць Расіі, прычым вайной горшага тыпу. Тайна, па-зладзейску, падкраліся гэтыя «цывілізаваныя» разбойнікі і высадзілі свае войскі на тэрыторыю Расіі.

Англа-французы высадзілі войскі на поўначы Расіі, занялі Архангельск і Мурманск, падтрымалі там белагвардзейскі мяцеж, скінулі ўладу Советаў і стварылі белагвардзейскі «ўрад поўначы Расіі».

Японцы высадзілі войскі ва Владзівастоку, захвацілі Прымор'е, разагналі Советы і падтрымалі белагвардзейскіх мяцежнікаў, якія аднавілі потым буржуазныя парадкі.

На Паўночным Каўказе генералы Карнілаў, Алексееў, Дзенікін пры падтрыманні англа-французаў арганізавалі белагвардзейскую «добраахвотніцкую армію», паднялі мяцеж казацкіх вярхоў і адкрылі паход супроць Советаў.

На Дану генералы Красноў і Мамантаў пры тайным падтрыманні нямецкіх імперыялістаў (адкрыта падтрымаць іх не рашаліся немцы, з прычыны існавання мірнага дагавора з Расіяй) паднялі мяцеж данскіх казакаў, занялі Данскую вобласць і адкрылі паход супроць Советаў.

На Сярэдняй Волзе і ў Сібіры проіскамі англа-французаў быў арганізован мяцеж чэхаславацкага корпуса. Гэтаму корпусу, які складаўся з ваеннапалонных, было дазволена Совецкім урадам выехаць да сябе на радзіму праз Сібір і Далёкі Усход. Але ён быў скарыстан па дарозе эсэрамі і англа-французамі для мецяжу супроць Совецкай улады. Мяцеж корпуса паслужыў сігналам да мецяжу кулацтва на Волзе і ў Сібіры і эсэраўскі настроеных рабочых на Воткінскім і Іжэўскім заводах. На Волзе быў створан Самарскі белагвардзейска-эсэраўскі ўрад. У Омску—Сібірскі белагвардзейскі ўрад.

Германія не ўдзельнічала і не магла ўдзельнічаць у гэтай інтэрвенцыі блока англа-франка-япона-амерыканцаў хоць-бы таму, што яна знаходзілася ў стане вайны з гэтым блокам. Але, не гледзячы на гэту акалічнасць, і на існаванне мірнага дагавора паміж Расіяй і Германіяй, ніхто з большэвікоў не сумняваўся ў тым, што германскі ўрад кайзера Вільгельма з'ўляецца такім-жа лютым ворагам Совецкай краіны, як і англа-франка-япона-амерыканскія інтэрвенты. І сапраўды, германскія імперыялісты рабілі ўсё магчымае і немагчымае для таго, каб ізаляваць, аслабіць і загубіць Совецкую краіну. Яны адарвалі ад Совецкай Расіі, праўда, па «дагавору» з Украінскай Радай,—Украіну, увялі на Украіну па просьбе белагвардзейскай Украінскай Рады свае войскі і пачалі бесчалавечна грабіць і прыгнятаць украінскі народ, забараняючы яму падтрымліваць якую-б то ні было сувязь з Совецкай Расіяй. Яны адарвалі ад Совецкай Расіі Закаўказзе, увялі туды па просьбе грузінскіх і азербайджанскіх нацыяналістаў нямецкія і турэцкія войскі і сталі гаспадарыць у Тыфлісе і Баку. Яны ўсяляк падтрымлівалі, праўда, спадцішка—узбраеннем і правіянтам мяцежнага генерала на Дану—Краснова супроць Совецкай улады.

Такім чынам, Совецкая Расія аказалася адрэзанай ад сваіх асноўных прадавольственных, сыравінных і апалавых раёнаў.

Цяжка было ў гэты перыяд у Совецкай Расіі. Нехапала хлеба. Нехапала мяса. Голад мучыў рабочых. Рабочым Масквы і Петраграда выдавалася па васьмушцы хлеба на два дні. Бывалі дні, калі зусім не выдавалі хлеба. Заводы не працавалі, або амаль не працавалі: нехапала сыравіны, паліва. Але рабочы клас не падаў духам. Не падала духам партыя большэвікоў. Неймаверныя труднасці гэтага перыяду і адчаянная барацьба з імі паказалі, якая невычарпальная энергія тоіцца ў рабочым класе і да чаго вяліка, нязмерна сіла аўтарытэта большэвіцкай партыі.

Партыя аб'явіла краіну ваенным лагерам і перабудавала яе гаспадарчае і культурна-палітычнае жыццё на ваенны лад. Совецкі ўрад аб'явіў, што «соцыялістычная бацькаўшчына—у небяспецы» і заклікаў народ да адпору. Ленін даў лозунг—«усё для фронта», і сотні тысяч рабочых і сялян пайшлі добраахвотнікамі ў Чырвоную армію, на фронт. Каля палавіны ўсяго састава партыі і комсамола пайшло на фронт. Партыя падняла народ на **ацечэственную вайну** супроць нашэствія войск замежнай інтэрвенцыі, супроць мецяжоў звергнутых рэволюцыяй эксплуататарскіх класаў. Арганізаваны Леніным Совет рабочай і сялянскай абароны кіраваў справай снабжэння фронта людзьмі, прадавольствіем, абмундзіраваннем, узбраеннем. Пераход ад добраахвотніцкага прынцыпу да абавязковай воінскай павіннасці прыцягнуў у Чырвоную армію сотні тысяч новых папаўненняў, і ў кароткі тэрмін Чырвоная армія стала мільённай.

Не гледзячы на цяжкае становішча краіны і маладосць Чырвонай

арміі, якая не паспела яшчэ ўзмацнець, у рэзультаце прынятых мер абароны першыя поспехі былі ўжо ў наяўнасці. Генерал Красноў быў адцяснён ад Царыцына, захват якога ён лічыў забяспечаным, і адкінут за Дон. Дзеянні генерала Дзенікіна былі лакалізаваны ў невялікім раёне Паўночнага Каўказа, а генерал Карнілаў быў забіт у баях з Чырвонай арміяй. Чэхаславакі і эсэра-белагвардзейскія банды былі выгнаны з Казані, Сімбірска, Самары і адцяснёны к Уралу. Мяцеж белагвардзейца Савінкава ў Яраслаўлі, арганізаваны главою англійскай місіі ў Маскве Лакартам, быў разгромлен, а Лакарт арыштован. Эсэры, якія забілі т.т. Урыцкага і Валадарскага і зрабілі зладзейскі замах на жыццё Леніна, за белы тэрор супроць большэвікоў былі падвергнуты чырвонаму тэрору і разгромлены ва ўсіх колькі-небудзь значных пунктах цэнтральнай Расіі.

У баях з ворагамі загартоўвалася і мужнела маладая Чырвоная армія.

Комуністы-камісары, якія працавалі тады ў Чырвонай арміі, адыгралі рашаючую ролю ў справе ўмацавання арміі, у справе яе палітычнай асветы, у справе ўзмацнення яе боездольнасці, яе дысцыпліны.

Большэвіцкая партыя разумела, што гэтыя поспехі Чырвонай арміі не вырашаюць справы і з'яўляюцца толькі першымі яе поспехамі. Яна разумела, што надыходзяць новыя баі, яшчэ больш сур'ёзныя, што краіна можа вярнуць сабе страчаныя прадавольственныя, сыравінныя і апалавыя раёны толькі ў рэзультаце працяглых і сур'ёзных баёў з ворагамі. Таму большэвікі сталі ўзмоцнена рыхтавацца да працяглай вайны, рашыўшы паставіць увесь тыл на службу фронту. Совецкі ўрад ўвёў **ваенны комунізм.** Совецкая ўлада паставіла пад свой кантроль апрача буйнай прамысловасці—сярэднюю і дробную прамысловасць, каб накапіць тавары масавага спажывання і снабжаць імі армію і вёску. Яна ўвяла манаполію хлебнага гандлю, забараніла прыватны гандаль хлебам і ўстанавіла продразвёрстку, каб узяць на ўлік усе лішкі прадавольствія ў сялян, накапіць запасы хлеба і снабжаць прадавольствіем армію, рабочых. Нарэшце, яна ўвяла ўсеагульную працоўную павіннасць для ўсіх класаў. Прыцягваючы буржуазію да абавязковай фізічнай працы і аслабаняючы, такім чынам, рабочых для іншай, больш важнай для фронта, работы, партыя ажыццяўляла прынцып: «хто не працуе, той не есць».

Уся гэтая сістэма мерапрыемстваў, якія былі выкліка괮 выключна цяжкімі ўмовамі абароны краіны і мелі часовы характар, называлася ваенным комунізмам.

Краіна рыхтавалася да працяглай і сур'ёзнай грамадзянскай вайны са знешнімі і ўнутранымі ворагамі Совецкай улады. Яна павінна была патроіць колькаснасць арміі к канцу 1918 года. Яна павінна была накапіць сродкі снабжэння гэтай арміі.

Ленін указваў у гэтыя дні:

> «Мы рашылі мець армію ў 1.000.000 чалавек к вясне, нам патрэбна цяпер армія ў тры мільёны чалавек. Мы можам яе мець. І мы будзем яе мець».

## 2. Ваеннае паражэнне Германіі. Рэволюцыя ў Германіі. Утварэнне III Інтэрнацыянала. VIII з'езд партыі.

У той час як Совецкая краіна рыхтавалася да новых баёў супроць замежнай інтэрвенцыі, на Захадзе, у тылу і на фронтах ваюючых краін адбываліся рашаючыя падзеі. Германія і Аўстрыя задыхаліся ў

цісках вайны і прадавольственнага крызісу. У той час як Англія, Францыя і Паўночная Амерыка разварачвалі ўсё новыя і новыя рэзервы, у Германіі і Аўстрыі вычэрпваліся апошнія мізэрныя рэзервы. Справа ішла да таго, што знясіленыя да апошняй ступені Германія і Аўстрыя павінны былі ў бліжэйшы час пацярпець паражэнне.

Разам з тым унутры Германіі і Аўстрыі кіпела абурэнне народа супроць нескапчаемай і згубнай вайны, супроць імперыялістычных урадаў гэтых краін, якія давялі народ да знясілення, да голаду. Сказаўся тут таксама велізарны рэволюцыйны ўплыў Кастрычніцкай рэволюцыі, братанне совецкіх салдат з аўстра-германскімі салдатамі на фронце яшчэ да брэсцкага міру і, затым, уплыў самога спынення вайны з Совецкай Расіяй і заключэння міру з ёю. Прыклад Расіі, дзе народ дабіўся спынення ненавіснай вайны шляхам звяржэння свайго імперыялістычнага ўрада, не мог не паслужыць урокам для аўстра-германскіх рабочых. А германскія салдаты, якія стаялі на ўсходнім фронце і былі пераведзены потым, пасля брэсцкага міру, на заходні фронт, не маглі не разлажыць там германскую армію сваімі расказамі аб братанні з совецкімі салдатамі і аб тым, як совецкія салдаты пазбавіліся ад вайны. Што датычыць аўстрыйскай арміі, то яна стала разлагацца яшчэ раней у сілу тых-жа прычын.

У рэзультаце ўсіх гэтых акалічнасцей у германскіх войсках узмацнілася цяга да міру, не стала ў іх ранейшай боездольнасці, і яны сталі адступаць пад націскам войск Антанты, а ў самой Германіі выбухнула ў лістападзе 1918 года рэволюцыя, якая звергла Вільгельма і яго ўрад.

Германія аказалася вымушанай прызнаць сябе пераможанай і запрасіла міру ў Антанты.

Так Германія, дзяржава першаразрадная, адным ударам была нізвергнута ў становішча дзяржавы другаразраднай.

З пункту гледжання становішча Совецкай улады гэтая акалічнасць мела некаторае адмоўнае значэнне, бо яна ператварала дзяржавы Антанты, якія арганізавалі інтэрвенцыю супроць Совецкай улады, у пануючую сілу Еўропы і Азіі, давала ім магчымасць узмацніць інтэрвенцыю і арганізаваць блакаду Совецкай краіны, тужэй зацягнуўшы пятлю вакол Совецкай улады. Гэта так іменна і здарылася, як убачым далей. Але, з другога боку, яна мела яшчэ больш сур'ёзнае станоўчае значэнне, якое ў корані аблягчала становішча Совецкай краіны. Па-першае, Совецкая ўлада атрымлівала магчымасць ануляваць грабежніцкі брэсцкі мір, спыніць плацяжы па кантрыбуцыі і павесці адкрытую барацьбу, ваенную і палітычную, за вызваленне Эстоніі, Латвіі, Беларусі, Літвы, Украіны, Закаўказзя ад гнёту германскага імперыялізма. Па-другое,—і гэта галоўнае—існаванне ў цэнтры Еўропы, у Германіі, рэспубліканскага рэжыму і Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў павінна было рэволюцыянізаваць і сапраўды рэволюцыянізавала краіны Еўропы, што не магло не ўмацаваць становішча Совецкай улады ў Расіі. Праўда, рэволюцыя ў Германіі была буржуазная, а не соцыялістычная, а Советы з'яўляліся паслухмянай зброяй буржуазнага парламента, бо ў Советах панавалі соцыял-дэмакраты, згоднікі накшталт рускіх меншавікоў, чым, уласна, і аб'ясняецца яе слабасць. Да чаго слаба была там рэволюцыя, відаць, хоць-бы з таго, што яна дапусціла беспакаранае забойства нямецкімі белагвардзейцамі такіх відных рэволюцыянераў, як Р. Люксембург і К. Лібкнехт. Але ўсё-ж гэта была рэволюцыя, Вільгельм быў звергнут, рабочыя вырваліся з лан-

цугоў, і ўжо гэта адно не магло не развязаць рэвалюцыю на Захадзе, не магло не выклікаць уздыму рэвалюцыі ў еўрапейскіх краінах.

У Еўропе пачаўся рэвалюцыйны ўздым. У Аўстрыі разгортваўся рэвалюцыйны рух. У Венгрыі ўзнікла Савецкая рэспубліка. На базе рэвалюцыйнай хвалі вышлі на паверхню комуністычныя партыі Еўропы.

Стварылася рэальная глеба для аб'яднання компартый у III, Комуністычны Інтэрнацыянал.

У сакавіку 1919 года ў Маскве на I кангрэсе комуністычных партый розных краін па ініцыятыве Леніна і большэвікоў быў аснован Комуністычны Інтэрнацыянал. Хоць блакада і праследаванні імперыялістаў перашкодзілі многім дэлегатам прыбыць у Маскву, тым не менш на I кангрэсе прысутнічалі дэлегаты ад важнейшых краін Еўропы і Амерыкі. Кіраваў кангрэсам Ленін.

У дакладзе аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пролетарыята Ленін паказаў значэнне Савецкай улады, як сапраўднай дэмакратыі для працоўных. Кангрэс прыняў Маніфест да міжнароднага пролетарыята, у якім заклікаў да рашучай барацьбы за пролетарскую дыктатуру, за перамогу Саветаў ва ўсіх краінах.

Кангрэс утварыў Выканком Комінтэрна (ВККІ), выканаўчы орган III-га, Комуністычнага Інтэрнацыянала.

Так была створана міжнародная рэвалюцыйная пролетарская арганізацыя новага тыпу—Комуністычны Інтэрнацыянал, марксісцка-ленінскі Інтэрнацыянал.

У абстаноўцы супярэчлівых акалічнасцей,—ва ўмовах узмацнення рэакцыйнага блоку дзяржаў Антанты супроць Савецкай улады, з аднаго боку, і ва ўмовах рэвалюцыйнага ўздыму ў Еўропе,—галоўным чынам, у краінах, пацярпеўшых ваеннае паражэнне, якое вельмі аблягчыла становішча Савецкай краіны, з другога боку,—сабраўся ў сакавіку 1919 года VIII з'езд нашай партыі.

На з'ездзе прысутнічала 301 дэлегат з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 313.766 членаў партыі. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 102 чалавекі.

Адкрыўшы з'езд, Ленін першае сваё слова прысвяціў памяці Я. М. Свердлова, аднаго з лепшых арганізатараў партыі большэвікоў, які памёр напярэдадні адкрыцця з'езда.

На з'ездзе была прынята новая праграма партыі. У праграме даецца характарыстыка капіталізма і яго вышэйшай стадыі—імперыялізма. У праграме параўноўваюцца дзве сістэмы дзяржаў—буржуазна-дэмакратычная і савецкая сістэма. У праграме падрабязна ўказаны канкрэтныя задачы партыі ў барацьбе за соцыялізм: давядзенне да канца экспрапрыяцыі буржуазіі, вядзенне гаспадаркі краіны па адзінаму соцыялістычнаму плану, удзел профсаюзаў у арганізацыі народнай гаспадаркі, соцыялістычная дысцыпліна працы, скарыстанне спецыялістаў у народнай гаспадарцы пад кантролем савецкіх органаў, паступовае і планамернае ўцягненне серэдняга сялянства ў работу соцыялістычнага будаўніцтва.

З'езд прыняў прапанову Леніна аб тым, каб побач з вызначэннем імперыялізма, як вышэйшай стадыі капіталізма, уключыць у праграму апісанне прамысловага капіталізма і простай таварнай гаспадаркі, якое было ў старой праграме, прынятай яшчэ II з'ездам партыі. Ленін знаходзіў неабходным улічыць у праграме складанасць нашай эканомікі і ўказаць на наяўнасць у краіне розных гаспадарчых укладаў, у тым ліку і дробнатаварнай гаспадаркі, носьбітам якой з'яўляўся селянін-

серадняк. Таму пры абмеркаванні праграмы Ленін рашуча выступіў супроць антыбольшэвіцкіх поглядаў Бухарына, які прапанаваў выключыць з праграмы пункты аб капіталізме, аб дробнай таварнай вытворчасці, аб гаспадарцы серадняка. Погляды Бухарына азначалі меншавіцка-трацкісцкае адмаўленне ролі серадняка ў совецкім будаўніцтве. Разам з тым Бухарын замазваў факт узнікнення і росту кулацкіх элементаў з дробнай, таварнай сялянскай гаспадаркі.

Ленін даў таксама адпор антыбольшэвіцкім поглядам Бухарына і Пятакова па нацыянальнаму пытанню. Яны выказваліся супроць уключэння ў праграму пункта аб праве нацый на самавызначэнне, супроць роўнапраўя нацый—пад тым прадлогам, што гэты лозунг быццам-бы перашкаджае перамозе пролетарскай рэволюцыі, перашкаджае аб'яднанню пролетарыяў розных нацыянальнасцей. Ленін разбіў гэтыя найшкаднейшыя вялікадзяржаўныя, шавіністычныя погляды Бухарына і Пятакова.

Сур'ёзнае месца ў работах VIII з'езда партыі заняло пытанне аб адносінах да серадняка. У рэзультаце вядомага дэкрэта аб зямлі вёска ўсё больш станавілася серадняцкай. Серадняк складаў цяпер большасць сялянскага насельніцтва. Настроі і паводзіны сярэдняга сялянства, якое хісталася паміж буржуазіяй і пролетарыятам, мелі велізарнае значэнне для лёсу грамадзянскай вайны і социялістычнага будаўніцтва. Зыход грамадзянскай вайны залежаў ва многім ад таго, куды пахіснецца серадняк, які клас здолее прыцягнуць да сябе сярэдняе сялянства—пролетарыят або буржуазія. Чэхаславакам, белагвардзейцам, кулакам, эсэрам, меншавікам удалося звергнуць Совецкую ўладу ў Паваложжы летам 1918 года, таму што іх падтрымала значная частка сярэдняга сялянства. Тое-ж самае было ў часе мецяжоў, арганізаваных кулакамі ў цэнтральнай Расіі. Але з восені 1918 года ў настроі масы сярэдняга сялянства наступіў паварот у бок Совецкай улады. Сялянства ўбачыла, што перамога белых вядзе за сабой аднаўленне ўлады памешчыкаў, адабранне зямлі ў сялян, грабяжы, порку і катаванне сялян. Перамене ў настроі сялянства садзейнічала таксама дзейнасць камітэтаў беднаты, якія разграмілі кулакоў. У сувязі з гэтым у лістападзе 1918 г. Ленін даў лозунг:

> «Умець дасягаць пагаднення з сярэднім селянінам—ні на мінуту не адмаўляючыся ад барацьбы з кулаком і моцна апіраючыся толькі на беднату» (**Ленін**, т. XXIII, стар. 294).

Вядома, хістанні сярэдняга сялянства не спыніліся поўнасцю, але сярэдняе сялянства стала бліжэй да Совецкай улады, стала мацней падтрымліваць яе. Гэтаму ва многім садзейнічала палітыка ў адносінах да сярэдняга сялянства, намечаная VIII з'ездам партыі.

VIII з'езд з'явіўся паваротным момантам у палітыцы партыі ў адносінах да сярэдняга сялянства. Даклад Леніна і рашэнні з'езда вызначылі новую лінію партыі ў гэтым пытанні. З'езд патрабаваў, каб партыйныя арганізацыі і ўсе комуністы строга адрознівалі і аддзялялі сярэдняе сялянства ад кулакоў, прыцягвалі-б яго на старану рабочага класа ўважлівымі адносінамі да яго патрэб. Трэба было змагацца з адсталасцю серадняка перакананнем, а ні ў якім разе не мерамі прымусу, насілля. Таму з'езд даў указанне праводзіць социялістычныя мерапрыемствы ў вёсцы (стварэнне комун, сельскагаспадарчых арцелей), не дапускаючы прымусу. Ва ўсіх выпадках, дзе закраналіся жыццёвыя інтарэсы серадняка, трэба было ісці на практычныя пагадненні з ім, на ўступкі серадняку ў вызначэнні **спосабаў** правядзення соция-

лістычных пераўтварэнняў. З'езд прапанаваў праводзіць палітыку **моцнага саюза** з серадняком пры захаванні ў гэтым саюзе **кіруючай ролі** пролетарыята.

Новая палітыка ў адносінах да сярэдняга сялянства, абвешчаная Леніным на VIII з'ездзе, патрабавала ад пролетарыята, каб ён апіраўся на беднату, трымаў моцны саюз з серадняком і вёў барацьбу з кулаком. Да VIII з'езда партыя праводзіла ўвогуле палітыку **нейтралізацыі** серадняка. Гэта значыць, што яна дабівалася ад серадняка, каб ён не станавіўся на старану кулака, на старану буржуазіі наогул. Але цяпер гэтага было ўжо недастаткова. VIII з'езд перайшоў ад палітыкі нейтралізацыі серадняка да **моцнага саюза** з ім для барацьбы з белагвардзейшчынай і замежнай інтэрвенцыяй, а таксама для паспяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

Узятая з'ездам лінія ў адносінах да асноўных мас сялянства, у адносінах да серадняка, адыграла рашаючую ролю ў паспяховым зыходзе грамадзянскай вайны супроць замежнай інтэрвенцыі і яе белагвардзейскіх прыслужнікаў. Увосень 1919 года, калі трэба было выбіраць паміж Совецкай уладай і Дзенікіным, сялянства падтрымала Советы, і пролетарская дыктатура перамагла свайго самага небяспечнага ворага.

Асоба стаяла на з'ездзе пытанне аб будаўніцтве Чырвонай арміі. На з'ездзе выступала так званая «ваенная апазіцыя». Яна аб'ядноўвала нямалую колькасць былых «левых комуністаў». Але разам з прадстаўнікамі разгромленага «левага комунізма» «ваенная апазіцыя» ўключала і работнікаў, якія ніколі не прымалі ўдзелу ні ў якой апазіцыі, але былі незадаволены кіраўніцтвам Троцкага ў арміі. Большасць ваенных дэлегатаў была рэзка настроена супроць Троцкага, супроць яго праклanення перад ваеннымі спецыялістамі са старой царскай арміі, частка якіх прама здраджвала нам у часе грамадзянскай вайны, супроць высокамерных і варожых адносін Троцкага да старых большэвіцкіх кадраў у арміі. Прыводзіліся на з'ездзе прыклады «з практыкі», калі Троцкі прабаваў расстраляць цэлы рад няўгодных яму адказных ваенных комуністаў-франтавікоў, дзейнічаючы гэтым на-руку ворагу, і толькі ўмяшанне ЦК і пратэсты ваенных работнікаў прадухілілі гібель гэтых таварышоў.

Змагаючыся супроць скрыўлення Троцкім ваеннай палітыкі партыі, «ваенная апазіцыя» абараняла, аднак, няправільныя погляды па раду пытанняў ваеннага будаўніцтва. Ленін і Сталін рашуча выступілі супроць «ваеннай апазіцыі», якая абараняла перажыткі партызаншчыны ў арміі і змагалася супроць стварэння рэгулярнай Чырвонай арміі, супроць скарыстання ваенспецаў, супроць той жалезнай дысцыпліны, без якой армія не можа быць сапраўднай арміяй. Пярэчачы «ваеннай апазіцыі», тав. Сталін патрабаваў стварэння рэгулярнай арміі, прасякнутай духам найстражэйшай дысцыпліны.

> «Або,—гаварыў тав. Сталін,—створым сапраўдную рабоча-сялянскую, пераважна сялянскую, строга дысцыплінаваную армію і абаронім рэспубліку, або прападзем».

Адхіліўшы рад прапаноў «ваеннай апазіцыі», з'езд у той-жа час ударыў па Троцкаму, патрабаваўшы паляпшэння работы цэнтральных ваенных устаноў і ўзмацнення ролі комуністаў у арміі.

У рэзультаце работы ваеннай камісіі, выдзеленай на з'ездзе, было дасягнута аднадушнае рашэнне з'езда па ваеннаму пытанню.

Рашэнні з'езда па ваеннаму пытанню павялі да ўмацавання Чырвонай арміі і да далейшага яе збліжэння з партыяй.

На з'ездзе было абмеркавана, далей, пытанне аб партыйным і савецкім будаўніцтве, аб кіруючай ролі партыі ў рабоце Советаў. Пры абмеркаванні ґэтага пытання з'езд даў адпор апартуністычнай групе Сапронава—Осінскага, якая адмаўляла кіруючую ролю партыі ў рабоце Советаў.

Нарэшце, у сувязі з велізарным наплывам новых членаў партыі з'езд прыняў рашэнне аб паляпшэнні соцыяльнага састава партыі і правядзенні перарэгістрацыі.

Гэта быў пачатак першай чысткі радоў партыі.

### 3. Узмацненне інтэрвенцыі. Блакада Совецкай краіны. Паход Калчака і яго разгром. Паход Дзенікіна і яго разгром. Трохмесячная перадышка. IX з'езд партыі.

Перамогшы Германію і Аўстрыю, дзяржавы Антанты рашылі кінуць буйныя ваенныя сілы супроць Совецкай краіны. Пасля паражэння Германіі і ўходу яе войск з Украіны і Закаўказзя, англафранцузы занялі месца Германіі, прыгнаўшы свой флот у Чорнае мора і высадзіўшы свае войскі ў Одэсе, у Закаўказзі. Гаспадаранне антантаўскіх інтэрвентаў у акупіраваных абласцях дайшло да такога зверства, што яны не спыняліся перад узброенай расправай з цэлымі групамі рабочых і сялян. Пад канец, пасля акупацыі Туркестана, нагласць інтэрвентаў дайшла да таго, што яны адвезлі ў Закасп'е 26 бакінскіх кіруючых большэвікоў, т.т. Шаумяна, Фіолетава, Джапарыдзе, Малыгіна, Азізбекава, Карганава і іншых, і з дапамогай эсэраў па-зверску расстралялі іх.

Праз некаторы час была аб'яўлена інтэрвентамі **блакада** Расіі. Былі перахвачаны ўсе марскія і іншыя шляхі зносін са знешнім светам.

Такім чынам, Совецкая краіна была акружана амаль з усіх бакоў.

Галоўную надзею ўскладала тады Антанта на адмірала Калчака, стаўленіка Антанты ў Сібіры, у Омску. Ён быў аб'яўлен «вярхоўным правіцелем Расіі». Яму падпарадкоўвалася ўся контррэволюцыя ў Расіі.

Такім чынам, усходні фронт стаў галоўным фронтам.

Вясной 1919 года Калчак, які сабраў велізарную армію, дайшоў амаль да Волгі. Супроць Калчака былі кінуты лепшыя сілы большэвікоў, мабілізаваны комсамольцы, рабочыя. У красавіку 1919 года Чырвоная армія нанесла Калчаку сур'ёзнае паражэнне. У хуткім часе пачалося адступленне калчакаўскай арміі па ўсяму фронту.

У момант разгару наступальных дзеянняў Чырвонай арміі на ўсходнім фронце Троцкі прапанаваў падазроны план: спыніцца перад Уралам, спыніць праследаванне калчакаўцаў і перакінуць войскі з усходняга фронта на паўднёвы фронт. ЦК партыі, добра разумеючы, што нельга пакідаць Урал і Сібір у руках Калчака, дзе ён можа з дапамогай японцаў і англічан аправіцца і зноў стаць на ногі,—адхіліў гэты план і даў дырэктыву прадаўжаць наступленне. З прычыны нязгоды Троцкага з такой дырэктывай, ён падаў у адстаўку. ЦК адхіліў адстаўку Троцкага, абавязаўшы яго разам з тым адразу-ж устараніцца ад удзелу ў кіраўніцтве аперацыямі на ўсходнім фронце. Наступленне Чырвонай арміі супроць Калчака стала разгортвацца з новай сілай. Чырвоная армія нанесла Калчаку рад новых паражэнняў

і вызваліла ад белых Урал і Сібір, дзе Чырвоную армію падтрымаў магутны партызанскі рух, які ўзнік у тылу белых.

Летам 1919 года на генерала Юдзеніча, які стаяў на чале контррэвалюцыі на паўночным захадзе (у Прыбалтыцы, пад Петраградам), імперыялісты ўсклалі задачу адцягнуць увагу Чырвонай арміі ад усходняга фронта нападам на Петраград. Гарнізон двух фортаў пад Петраградам, паддаўшыся контррэвалюцыйнай агітацыі былых афіцэраў, падняў мяцеж супроць Савецкай улады, а ў штабе фронта была адкрыта контррэвалюцыйная змова. Вораг пагражаў Петраграду. Але прынятымі Савецкай уладай мерамі пры падтрыманні рабочых і матросаў узбунтаваўшыяся форты былі вызвалены ад белых, войскам Юдзеніча было нанесена паражэнне і Юдзеніч быў адкінут у Эстонію.

Паражэнне Юдзеніча пад Петраградам аблягчыла барацьбу супроць Калчака. К канцу 1919 года армія Калчака была канчаткова разгромлена. Сам Калчак быў арыштован і расстрэлян у Іркуцку па прыгавору рэўкома.

Такім чынам, з Калчаком было пакончана.

Пра Калчака народ у Сібіры распяваў песеньку:

«Мундир английский,
Погон французский,
Табак японский,
Правитель Омский.
Мундир сносился,
Погон свалился,
Табак скурился,
Правитель смылся».

Бачачы, што Калчак не апраўдаў ускладзеных на яго надзей, інтэрвенты змянілі свой план нападу на Савецкую рэспубліку. Дэсант у Одэсе прышлося вывесці назад, бо войскі інтэрвентаў ад сапрыкаснавення з войскамі Савецкай рэспублікі заражаліся рэвалюцыйным духам і пачалі паўставаць супроць сваіх імперыялістычных паноў. Так, у Одэсе паўсталі французскія маракі пад кіраўніцтвам Андрэ Марці. З гэтай прычыны, цяпер, пасля разгрому Калчака, галоўная ўвага Антанты была звернута на генерала Дзенікіна, спадвіжніка Карнілава і арганізатара «добраахвотніцкай арміі». Дзенікін арудаваў у гэты час супроць Савецкай улады на поўдні, у раёне Кубані. Антанта забяспечыла яго армію вялікай колькасцю ўзбраення і снаражэння і рушыла на поўнач супроць Савецкай улады.

Такім чынам, паўднёвы фронт стаў на гэты раз галоўным фронтам.

Дзенікін пачаў свой асноўны паход супроць Савецкай улады летам 1919 года. Троцкі разваліў работу на паўднёвым фронце, і нашы войскі цярпелі паражэнне за паражэннем. К палавіне кастрычніка белыя авалодалі ўсёй Украінай, узялі Орол і падыходзілі да Тулы, якая снабжала нашу армію патронамі, вінтоўкамі, кулямётамі. Белыя набліжаліся да Масквы. Становішча Савецкай рэспублікі станавілася больш, чым сур'ёзным. Партыя забіла трывогу і заклікала народ да адпору. Ленін даў лозунг: «Усе на барацьбу з Дзенікіным». Натхняемыя большэвікамі рабочыя і сяляне напружылі ўсе сілы, каб разграміць ворага.

Для арганізацыі разгрому Дзенікіна ЦК накіраваў на паўднёвы фронт таварышоў Сталіна, Варашылава, Орджанікідзе, Будзённага. Троцкі быў адстаронен ад кіраўніцтва аперацыямі Чырвонай арміі

на поўдні. Да прыезду тав. Сталіна камандаванне паўднёвага фронта сумесна з Троцкім распрацавала план, па якому галоўны ўдар наносіўся Дзенікіну ад Царыцына на Новарасійск, праз данскія стэпы, дзе Чырвоная армія сустрэла-б на сваім шляху поўнае бездарожжа і павінна была праходзіць па раёнах з казацкім насельніцтвам, значная частка якога знаходзілася тады пад уплывам белагвардзейцаў. Тав. Сталін падверг рэзкай крытыцы гэты план і прапанаваў ЦК свой план разгрому Дзенікіна: накіраваць галоўны ўдар праз Харкаў—Данбас—Растоў. Гэты план забяспечваў быстрае прасоўванне нашых войск супроць Дзенікіна, з прычыны яўнага спачування насельніцтва на шляху прасоўвання нашай арміі праз рабочыя і сялянскія раёны. Апрача таго, наяўнасць багатай сеткі чыгунак у гэтым раёне давала магчымасць забяспечыць нашым войскам рэгулярнае снабжэнне ўсім неабходным. Нарэшце, гэты план даваў магчымасць вызваліць Данбас і забяспечыць нашу краіну палівам.

Цэнтральны Камітэт партыі прыняў план тав. Сталіна. У другой палавіне кастрычніка 1919 года, пасля жорсткага супраціўлення, Дзенікін быў разбіт Чырвонай арміяй у рашаючых баях пад Орлом і ля Варонежа. Дзенікін пачаў быстра адступаць, а затым пакаціўся к поўдню, праследуемы нашымі войскамі. У пачатку 1920 года ўся Украіна і Паўночны Каўказ былі вызвалены ад белых.

У часе рашаючых баёў на паўднёвым фронце імперыялісты зноў кінулі корпус Юдзеніча на Петраград, каб адцягнуць нашы сілы з поўдня і аблегчыць становішча войск Дзенікіна. Белыя падышлі да самага горада,—да Петраграда. Гераічны пролетарыят Петраграда грудзьмі стаў на абарону першага горада рэволюцыі. Комуністы, як заўсёды, былі ў першых радах. У рэзультаце жорсткіх баёў белыя былі разбіты і выкінуты зноў за межы нашай краіны—у Эстонію.

Такім чынам, з Дзенікіным было таксама пакончана.

Пасля разгрому Калчака і Дзенікіна наступіла нядоўгая перадышка.

Калі імперыялісты ўбачылі, што белагвардзейскія войскі разбіты, інтэрвенцыя не ўдаецца і Совецкая ўлада ўмацоўваецца па ўсёй краіне, а ў Заходняй Еўропе расце абурэнне рабочых вайной інтэрвентаў супроць Совецкай рэспублікі,—яны пачалі мяняць свае адносіны да Совецкай дзяржавы. У студзені 1920 года Англія, Францыя і Італія прынялі рашэнне спыніць блакаду Совецкай Расіі.

Гэта была сур'ёзнейшая прабоіна, прабітая ў сцяне інтэрвенцыі.

Гэта не азначала, вядома, што Совецкая дзяржава пакончыла ўжо з інтэрвенцыяй і грамадзянскай вайной. Яшчэ аставалася небяспека нападу з боку імперыялістычнай Польшчы. Не былі яшчэ канчаткова выгнаны інтэрвенты на Далёкім Усходзе, у Закаўказзі і ў Крыму. Але краіна Советаў атрымала часовую перадышку і яна магла накіраваць больш сіл на гаспадарчае будаўніцтва. Партыя атрымлівала магчымасць заняцца гаспадарчымі пытаннямі.

У часе грамадзянскай вайны многія кваліфікаваныя рабочыя пайшлі з вытворчасці, з прычыны закрыцця фабрык і заводаў. Кваліфікаваных рабочых партыя варочала цяпер на вытворчасць для работы па спецыяльнасці. Некалькі тысяч комуністаў было накіравана на аднаўленне транспарта, становішча якога было цяжкім. Не аднавіўшы транспарта, нельга было ўсур'ёз узяцца за аднаўленне асноўных галін прамысловасці. Узмацнілася і палепшылася прадавольственная работа. Пачата была распрацоўка плана электрыфікацыі Расіі. Пад ружжом знаходзілася да 5 мільёнаў чырвонаармейцаў, якіх нельга

было пакуль распусціць з-за ваеннай небяспекі. Таму некаторыя часці Чырвонай арміі былі пераведзены на становішча **трудавых армій** для скарыстання ў галіне гаспадарчага будаўніцтва. Совет рабочай і сялянскай абароны быў пераўтворан у **Совет працы і абароны** (СПА). У дапамогу яму створана была **Дзяржаўная планавая камісія** (Дзяржплан).

У гэтай абстаноўцы адкрыўся ў канцы сакавіка 1920 года IX з'езд партыі.

На з'ездзе прысутнічала 554 дэлегаты з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 611.978 членаў партыі. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 162 чалавекі.

З'езд вызначыў бліжэйшыя гаспадарчыя задачы краіны ў галіне транспарта, прамысловасці і асоба ўказаў на неабходнасць удзелу прафесіянальных саюзаў у гаспадарчым будаўніцтве.

Асаблівая ўвага была звернута на з'ездзе на пытанне аб адзіным гаспадарчым плане, які прадугледжваў падняцце, у першую чаргу, транспарта, апалавай справы, металургіі. Галоўнае месца займала ў гэтым плане пытанне аб электрыфікацыі ўсёй народнай гаспадаркі, якую (электрыфікацыю.—**Рэд. перакладу**) Ленін выстаўляў як «вялікую праграму на 10—20 год». На гэтай аснове быў распрацован потым вядомы план ГОЭЛРО, зараз ужо далёка перавыкананы.

З'езд даў адпор антыпартыйнай групе «дэмакратычнага цэнтралізма», якая выступала супроць адзінаначалля і асабістай адказнасці дырэктароў у прамысловасці і якая адстойвала бязбрэжную «калегіяльнасць» і безадказнасць у кіраўніцтве прамысловасцю. Галоўную ролю ў гэтай антыпартыйнай групе адыгрывалі Сапронаў, Осінскі, В. Смірноў. Іх падтрымлівалі на з'ездзе Рыкаў, Томскі.

### 4. Напад польскіх паноў на Совецкую краіну. Вылазка генерала Врангеля. Правал польскага плана. Разгром Врангеля. Канец інтэрвенцыі.

Не гледзячы на разгром Калчака і Дзенікіна, не гледзячы на тое, што Совецкая краіна ўсё больш расшырала сваю тэрыторыю, вызваляючы ад белых і інтэрвентаў Паўночны край, Туркестан, Сібір, Дон, Украіну і т. д., не гледзячы на тое, што Антанта была вымушана адмяніць блакаду Расіі, дзяржавы Антанты ўсё-ж не хацелі памірыцца з думкай аб тым, што Совецкая ўлада аказалася несакрушымай, што яна аказалася пераможніцай. Таму яны рашылі прадпрыняць яшчэ адну спробу інтэрвенцыі супроць Совецкай краіны. На гэты раз інтэрвенты рашылі скарыстаць, з аднаго боку, Пілсудскага, буржуазнага контррэвалюцыйнага нацыяналіста, фактычнага главу польскай дзяржавы, і, з другога боку, генерала Врангеля, які сабраў у Крыму астаткі дзенікінскай арміі і пагражаў адтуль Данбасу, Украіне.

Па выражэнню Леніна, панская Польшча і Врангель—гэта былі дзве рукі міжнароднага імперыялізма, які прабаваў задушыць Совецкую краіну.

У палякаў быў план: захваціць правабярэжную частку Совецкай Украіны, захваціць Совецкую Беларусь, аднавіць у гэтых раёнах уладу польскіх паноў, расшырыць межы польскай дзяржавы «ад мора да мора», ад Данцыга да Одэсы, і за дапамогу, аказваемую ім Врангелем,—дапамагчы Врангелю разбіць Чырвоную армію і аднавіць у Совецкай Расіі ўладу памешчыкаў і капіталістаў.

Гэты план быў адобран дзяржавамі Антанты.

Спробы Совецкага ўрада адкрыць перагаворы з Польшчай для захавання міру і прадухілення вайны не далі ніякіх рэзультатаў. Пілсудскі не хацеў разгаварываць аб міры. Пілсудскі хацеў ваяваць. Ён разлічваў, што стомленыя ў баях з Калчаком і Дзенікіным чырвоныя войскі не вытрымаюць нападу польскіх войск.

Кароткатэрміновай перадышцы прышоў канец.

У красавіку 1920 года польскія войскі ўторгліся ў межы Совецкай Украіны і захвацілі Кіеў. У той-жа час Врангель перайшоў у наступленне і стаў пагражаць Данбасу.

У адказ на напад польскіх войск чырвоныя войскі разгарнулі контрнаступленне па ўсяму фронту. Вызваліўшы Кіеў і выгнаўшы польскіх паноў з Украіны і Беларусі, чырвоныя войскі паўднёвага фронта ў сваім наступальным парыве дайшлі да варот Львова ў Галіцыі, а войскі заходняга фронта набліжаліся да Варшавы. Справа ішла да поўнага паражэння войск польскіх паноў.

Але падазроныя дзеянні Троцкага і яго староннікаў у галоўным штабе Чырвонай арміі сарвалі поспехі Чырвонай арміі. Наступленне чырвоных войск на заходнім фронце, у бок Варшавы, праходзіла— па віне Троцкага і Тухачэўскага—зусім неарганізавана: войскам не давалі замацоўваць заваяваных пазіцый, перадавыя часці былі заведзены надта далёка ўперад, рэзервы і боепрыпасы былі пакінуты надта далёка ў тылу, перадавыя часці былі пакінуты, такім чынам, без боепрыпасаў, без рэзерваў, лінія фронта была падоўжана да бясконцасці і, значыць, быў аблегчан прарыў фронта. З прычыны ўсяго гэтага, калі невялікая група польскіх войск прарвала наш заходні фронт у адным з яго пунктаў, нашы войскі, якія асталіся без боепрыпасаў, вымушаны былі адступіць. Што датычыць войск паўднёвага фронта, якія стаялі ля варот Львова і цяснілі там палякаў, то гэтым войскам «старшыня рэўваенсовета» Троцкі забараніў узяць Львоў і загадаў ім перакінуць конную армію, гэта значыць галоўную сілу паўднёвага фронта, далёка на паўночны ўсход, быццам-бы на дапамогу заходняму фронту, хоць не цяжка было зразумець, што ўзяцце Львова было-б адзіна-магчымай і лепшай дапамогай заходняму фронту. Але вывад коннай арміі з састава паўднёвага фронта і адыход яе ад Львова азначалі на справе адступленне нашых войск таксама і на паўднёвым фронце. Такім чынам, шкодніцкім загадам Троцкага было навязана войскам нашага паўднёвага фронта не зразумелае і ні на чым не асbuilt адступленне,—на радасць польскім панам.

Гэта была прамая дапамога, але не нашаму заходняму фронту, а польскім панам і Антанце.

Праз некалькі дзён наступленне польскіх войск было спынена, і нашы войскі пачалі рыхтавацца да новага контрудару супроць палякаў. Але Польшча, не маючы сіл прадаўжаць вайну і з трывогай чакаючы контрудару чырвоных, аказалася вымушанай адмовіцца ад сваіх прэтэнзій наконт захвату правабярэжнай Украіны і Беларусі і палічыла за лепшае заключыць мір з Расіяй. 20 кастрычніка 1920 года быў заключан з Польшчай у Рыге мірны дагавор, па якому Польшча захавала за сабой Галіцыю і частку Беларусі.

Заключыўшы мір з Польшчай, Совецкая рэспубліка рашыла пакончыць з Врангелем. Врангель атрымаў ад англічан і французаў навейшую зброю, браневікі, танкі, самалёты, амуніцыю. У яго былі ўдарныя белагвардзейскія часці, галоўным чынам, афіцэрскія. Але Врангелю не ўдалося сабраць колькі-небудзь значных сіл сялян і ка-

закаў вакол дэсанта, высаджанага ім на Кубані і на Дану. Врангель падышоў, аднак, ушчыльную да Данбаса і паставіў пад пагрозу наш каменнавугальны раён. Становішча Совецкай улады ўскладнялася яшчэ і тым, што к гэтаму часу Чырвоная армія значна стамілася. Чырвонаармейцам прыходзілася прасоўвацца ў небывала цяжкіх умовах, ведучы наступленне супроць войск Врангеля і громячы аднача- сова банды анархістаў-махноўцаў, якія дапамагалі Врангелю. Але не гледзячы на тое, што на старане Врангеля была перавага тэхнікі, не гледзячы на тое, што ў Чырвонай арміі не было танкаў, Чырвоная армія загнала Врангеля на Крымскі поўвостраў. У лістападзе 1920 года чырвоныя войскі авалодалі ўмацаванымі пазіцыямі Перакопа, уварваліся ў Крым, разграмілі войскі Врангеля і вызвалілі Крым ад белагвардзейцаў і інтэрвентаў. Крым стаў совецкім.

Правалам польскіх вялікадзяржаўных планаў і разгромам Врангеля заканчваецца перыяд інтэрвенцыі.

У канцы 1920 года пачалося вызваленне Закаўказзя ад ярма буржуазных нацыяналістаў-мусаватыстаў у Азербайджане, нацыянал-меншавікоў у Грузіі, дашнакоў у Арменіі. Совецкая ўлада перамагла ў Азербайджане, Арменіі і Грузіі.

Гэта яшчэ не азначала поўнага спынення інтэрвенцыі. Японская інтэрвенцыя на Далёкім Усходзе прадаўжалася аж да 1922 года. Апрача таго, мелі месца новыя спробы арганізаваць інтэрвенцыю (атаман Семёнаў і барон Унгерн на ўсходзе, белафінская інтэрвенцыя ў Карэліі ў 1921 годзе). Але галоўныя ворагі Совецкай краіны, асноўныя сілы інтэрвенцыі к канцу 1920 года былі разгромлены.

Вайна замежных інтэрвентаў і расійскіх белагвардзейцаў супроць Советаў скончылася перамогай Советаў.

Совецкая рэспубліка адстаяла сваю дзяржаўную незалежнасць, сваё свабоднае існаванне.

Гэта быў канец замежнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны.

Гэта была гістарычная перамога Совецкай улады.

### 5. Як і чаму перамагла Совецкая краіна злучаныя сілы англа-франкаяпона-польскай інтэрвенцыі і буржуазна-памешчыцка-белагвардзейскай контррэволюцыі ў Расіі?

Калі ўзяць вялікую еўрапейскую і амерыканскую прэсу часоў інтэрвенцыі, можна без цяжкасці ўстанавіць, што ні адзін відны пісьменнік, ваенны або грамадзянскі, ні адзін знаток ваеннай справы не верыў у перамогу Совецкай улады. Наадварот, усе відныя пісьменнікі, знатакі ваеннай справы, гісторыкі рэволюцый усіх краін і народаў, так званыя людзі навукі—усе яны ў адзін голас крычалі, што дні Совецкай улады злічаны, што паражэнне Совецкай улады немінуча.

У сваёй упэўненасці ў перамозе інтэрвенцыі яны зыходзілі з таго, што Совецкая краіна не мае яшчэ склаўшайся Чырвонай арміі, што яе прыдзецца ствараць, так сказаць, на-хаду, тады як інтэрвенты і белагвардзейцы маюць больш ці менш гатовую армію.

Яны зыходзілі, далей, з таго, што Чырвоная армія не мае вопытных ваенных кадраў, бо большасць такіх кадраў пайшла ў контррэволюцыю, тады як інтэрвенты і белагвардзейцы маюць такія кадры.

Яны зыходзілі, далей, з таго, што Чырвоная армія церпіць ад недахвату і дрэннай якасці ўзбраення, боепрыпасаў, з прычыны ад-

сталасці ваеннай прамысловасці Расіі, а атрымліваць з іншых краін прадметы ўзбраення не можа, бо Расія закупорана з усіх бакоў, дзякуючы блакадзе, тады як армія інтэрвентаў і белагвардзейцаў багата снабжаецца і будзе снабжацца першакласным узбраеннем, боепрыпасамі, абмундзіраваннем.

Яны зыходзілі, нарэшце, з таго, што армія інтэрвентаў і белагвардзейцаў займала тады найбольш багатыя прадавольствіем раёны Расіі, тады як Чырвоная армія была пазбаўлена такіх раёнаў і цярпела ад недахвату прадавольствія.

І сапраўды, усе гэтыя недахопы і няхваткі на самай справе мелі месца ў часцях Чырвонай арміі.

У гэтых адносінах,—але толькі ў гэтых адносінах,—паны інтэрвенты былі зусім правы.

Чым-жа аб'ясніць у такім выпадку, што Чырвоная армія, якая мела столькі сур'ёзных недахопаў, перамагла армію інтэрвентаў і белагвардзейцаў, свабодную ад такіх недахопаў?

1. Чырвоная армія перамагла таму, што палітыка Совецкай улады, у імя якой ваявала Чырвоная армія, была правільнай палітыкай, адпавядаючай інтарэсам народа, што народ усведамляў і разумеў гэту палітыку, як правільную, як сваю ўласную палітыку, і падтрымліваў яе да канца.

Большэвікі ведалі, што армія, якая змагаецца ў імя няправільнай палітыкі, не падтрымліваемай народам, не можа перамагчы. Такой іменна арміяй была армія інтэрвентаў і белагвардзейцаў. Армія інтэрвентаў і белагвардзейцаў мела ўсё: і старых вопытных камандзіраў, і першакласнае ўзбраенне, і боепрыпасы, і абмундзіраванне, і прадавольствіе. Нехапала аднаго—падтрымання і спачування народаў Расіі, бо народы Расіі не хацелі і не маглі падтрымліваць процінародную палітыку інтэрвентаў і белагвардзейскіх «правіцеляў». І армія інтэрвентаў і белагвардзейцаў пацярпела паражэнне.

2. Чырвоная армія перамагла таму, што яна была верна і аддана да канца свайму народу, за што і любіў яе і падтрымліваў народ, як сваю родную армію. Чырвоная армія ёсць дзецішча народа, і калі яна верна свайму народу, як верны сын сваёй мацеры, яна будзе мець падтрыманне народа, яна павінна перамагчы. Армія-ж, якая ідзе супроць свайго народа, павінна пацярпець паражэнне.

3. Чырвоная армія перамагла таму, што Совецкай уладзе ўдалося падняць увесь тыл, усю краіну на службу інтарэсам фронта. Армія без моцнага тылу, які ўсямерна падтрымлівае фронт, асуджана на паражэнне. Большэвікі ведалі гэта і іменна тамуператварылі яны краіну ў ваенны лагер, які снабжаў фронт узбраеннем, боепрыпасамі, абмундзіраваннем, прадавольствіем, папаўненнямі.

4. Чырвоная армія перамагла таму, што: а) чырвонаармейцы разумелі мэты і задачы вайны і ўсведамлялі іх правільнасць; б) усведамленне правільнасці мэтаў і задач вайны ўмацоўвала ў іх дух дысцыпліны і боездольнасць; в) з гэтай прычыны чырвонаармейскія масы скрозь і ўсюды праяўлялі ў барацьбе з ворагамі бяспрыкладную самаадданасць і нябачаны масавы гераізм.

5. Чырвоная армія перамагла таму, што кіруючым ядром тылу і фронта Чырвонай арміі была партыя большэвікоў, адзіная сваёй згуртаванасцю і дысцыплінай, сільная сваім рэволюцыйным духам і

гатоўнасцю пайсці на любыя афяры дзеля поспеху агульнай справы непераўзыйдзеная сваім уменнем арганізаваць мільённыя масы і правільна кіраваць імі ў складанай абстаноўцы.

> «Толькі дзякуючы таму,—гаварыў Ленін,—што партыя была на варце, што партыя была найстражэйшым чынам дысцыплінавана, і таму, што аўтарытэт партыі аб'ядноўваў усе ведамствы і ўстановы, і па лозунгу, які быў дан ЦК, як адзін чалавек, ішлі дзесяткі, сотні, тысячы, і ў канчатковым выніку мільёны, і толькі таму, што нечуваныя афяры былі прынесены,—толькі таму цуда, якое адбылося, магло адбыцца. Толькі таму, не гледзячы на двухразовы, трохразовы і чатырохразовы паход імперыялістаў Антанты і імперыялістаў усяго свету, мы аказаліся здольнымі перамагчы» (**Ленін,** т. XXV, стар. 96).

6. Чырвоная армія перамагла таму, што: а) яна здолела выкаваць у сваіх радах такіх ваенных кіраўнікоў новага тыпу, як Фрунзе, Варашылаў, Будзённы і іншыя; б) у яе радах змагаліся такія героі-самародкі, як Катоўскі, Чапаеў, Лазо, Шчорс, Пархоменка і многія іншыя; в) палітычнай асветай Чырвонай арміі займаліся такія дзеячы, як Ленін, Сталін, Молатаў, Калінін, Свердлоў, Кагановіч, Орджанікідзе, Кіраў, Куйбышэў, Мікаян, Жданаў, Андрэеў, Петроўскі, Яраслаўскі, Ежоў, Дзержынскі, Шчадэнка, Мехліс, Хрушчоў, Швернік, Шкіратаў і іншыя; г) Чырвоная армія мела ў сваім саставе такіх надзвычай добрых арганізатараў і агітатараў, як ваенныя камісары, якія цэментавалі сваёй работай рады чырвонаармейцаў, насаджалі сярод іх дух дысцыпліны і баявой адвагі, энергічна выкаранялі—быстра і бязлітасна—здрадніцкія дзеянні асобных людзей каманднага састава і, наадварот, смела і рашуча падтрымлівалі аўтарытэт і славу камандзіраў, партыйных і непартыйных, якія паказалі сваю адданасць Савецкай уладзе і былі здольны цвёрдай рукой праводзіць кіраўніцтва часцямі Чырвонай арміі.

«Без ваенкома мы не мелі-б Чырвонай арміі»—гаварыў Ленін.

7. Чырвоная армія перамагла таму, што ў тылу белагвардзейскіх армій, у тылу Калчака, Дзенікіна, Краснова, Врангеля арудавалі ў падполлі выдатныя большэвікі, партыйныя і непартыйныя, якія падымалі на паўстанне рабочых і сялян супроць інтэрвентаў, супроць белагвардзейцаў, падрывалі тылы ворагаў Савецкай улады і, тым самым, аблягчалі прасоўванне Чырвонай арміі. Усім вядома, што партызаны Украіны, Сібіры, Далёкага Усхода, Урала, Беларусі, Паволжжа, падрываўшыя тылы белагвардзейцаў і інтэрвентаў, аказалі Чырвонай арміі неацанімую паслугу.

8. Чырвоная армія перамагла таму, што Савецкая краіна не была адзінока ў яе барацьбе з белагвардзейскай контррэволюцыяй і замежнай інтэрвенцыяй, што барацьба Савецкай улады і яе поспехі выклікалі спачуванне і дапамогу пролетарыяў усяго свету. У той час, як імперыялісты прабавалі задушыць Савецкую рэспубліку інтэрвенцыяй і блакадай, рабочыя гэтых імперыялістычных краін былі на старане Саветаў і дапамагалі ім. Іх барацьба супроць капіталістаў варожых Савецкай рэспубліцы краін садзейнічала таму, што імперыялісты былі вымушаны адмовіцца ад інтэрвенцыі. Рабочыя Англіі, Францыі і іншых краін, якія прымалі ўдзел у інтэрвенцыі, арганізоўвалі стачкі, адмаўляліся грузіць ваеннае снаражэнне ў дапамогу інтэрвентам і

белагвардзейскім генералам, стваралі «камітэты дзеяння» пад лозунгам—«Рукі прэч ад Расіі!».

> «Як толькі,—гаварыў Ленін,—міжнародная буржуазія замахваецца на нас, яе руку схватваюць яе ўласныя рабочыя» (**Ленін**, т. XXV, стар. 405).

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.*

Разбітыя Кастрычніцкай рэволюцыяй, памешчыкі і капіталісты сумесна з белагвардзейскімі генераламі згаварваюцца за кошт інтарэсаў сваёй радзімы з урадамі краін Антанты для сумеснага ваеннага нападу на Совецкую краіну і звяржэння Совецкай улады. На гэтай аснове арганізоўваюцца ваенная інтэрвенцыя Антанты і белагвардзейскія мецяжы на акраінах Расіі, у рэзультаце чаго Расія аказваецца адрэзанай ад прадавольственных і сыравінных раёнаў.

Ваеннае паражэнне Германіі і ліквідацыя вайны двух імперыялістычных кааліцый у Еўропе прыводзяць да ўзмацнення Антанты, да ўзмацнення інтэрвенцыі, ствараюць новыя труднасці для Совецкай краіны.

Рэволюцыя ў Германіі і рэволюцыйны рух, які пачаўся ў краінах Еўропы,—наадварот,—ствараюць спрыяючую для Совецкай улады міжнародную абстаноўку і аблягчаюць становішча Совецкай краіны.

Большэвіцкая партыя падымае рабочых і сялян на **ацечэственную** вайну супроць іншакраінных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны. Совецкая рэспубліка і яе Чырвоная армія разбіваюць аднаго за другім стаўленікаў Антанты—Калчака, Юдзеніча, Дзенікіна, Краснова, Врангеля, вышыбаюць з Украіны і Беларусі яшчэ аднаго стаўленіка Антанты—Пілсудскага і, такім чынам, адбіваюць замежную ваенную інтэрвенцыю, выганяюць вон яе войскі з межаў Совецкай краіны.

Такім чынам, першы ваенны напад міжнароднага капітала на краіну соцыялізма скончыўся поўным яго крахам.

Разбітыя рэволюцыяй партыі эсэраў, меншавікоў, анархістаў, нацыяналістаў падтрымліваюць у перыяд інтэрвенцыі белагвардзейскіх генералаў і інтэрвентаў, наладжваюць контррэволюцыйныя змовы супроць Совецкай рэспублікі, арганізоўваюць тэрор супроць совецкіх дзеячоў. Гэтыя партыі, якія мелі да Кастрычніцкай рэволюцыі некаторы ўплыў у рабочым класе, у перыяд грамадзянскай вайны поўнасцю выкрываюць сябе ў вачах народных мас, як контррэволюцыйныя партыі.

Перыяд грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі з'явіўся перыядам палітычнай гібелі гэтых партый і канчатковага таржаства комуністычнай партыі ў Совецкай краіне.

***(Канец у наступным нумары)***

# XXI гадавіна Вялікага Кастрычніка

7 лістапада (25 кастрычніка) 1917 года рабочы клас Расіі ў саюзе з бяднейшым сялянствам, пад мудрым кіраўніцтвам партыі большэвікоў, атрымаў сусветна-гістарычную перамогу над памешчыкамі і буржуазіяй. Соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі паклала канец панаванню эксплуататараў на адной шостай частцы зямнога шара і ўстанавіла дыктатуру пролетарыята.

> «Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя разбіла капіталізм, адняла ў буржуазіі сродкі вытворчасці і ператварыла фабрыкі, заводы, зямлю, чыгункі, банкі—ва ўласнасць усяго народа, у грамадскую ўласнасць.
>
> Яна ўстанавіла дыктатуру пролетарыята і перадала кіраўніцтва велізарнай дзяржавай рабочаму класу, зрабіўшы яго, такім чынам, пануючым класам» [1].

Кастрычніцкая рэволюцыя асвятліла пролетарыяту ўсіх краін шлях барацьбы за вызваленне ад капіталістычнага рабства і эксплуатацыі. Свет раскалоўся на дзве сістэмы—на ўсеперамагаючую соцыялістычную і на драхлеючую капіталістычную. Вялікая соцыялістычная рэволюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва—эру пролетарскіх рэволюцый.

> «Сусветнае значэнне Кастрычніцкай рэволюцыі заключаецца не толькі ў тым, што яна з'яўляецца вялікім пачынам адной краіны ў справе прарыву сістэмы імперыялізма і першым ачагом соцыялізма ў акіяне імперыялістычных краін, але таксама і ў тым, што яна складае першы этап сусветнай рэволюцыі і магутную базу яе далейшага разгортвання» [2].

У першы дзень рэволюцыі Уладзімір Ільіч Ленін на пасяджэнні Петраградскага Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў гаварыў:

> «Ад гэтага часу наступае новая паласа ў гісторыі Расіі, і даная трэцяя руская рэволюцыя павінна ў сваім канчатковым выніку прывесці да перамогі соцыялізма».

Успамінаючы гэтыя прарочыя словы вялікага правадыра працоўных, мы гаворым: Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя прывяла нас да поўнай перамогі соцыялізма. Соцыялізм у нас увайшоў цяпер у штодзенны быт народа.

---

[1] Гісторыя Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў). Кароткі курс, стар. 214, Дзяржпалітвыдат, 1938 г.
[2] **І. Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 101, выд. 10-е.

За гэтыя дваццаць адзін год большэвіцкая партыя, узброеная рэвалюцыйным вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, прывяла многамільённы совецкі народ да шчаслівага, радаснага жыцця пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі. Былая ўбогая царская Расія ператворана совецкім народам пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў магутную соцыялістычную дзяржаву.

СССР—передавая індустрыяльная краіна. Сталінскія пяцігодкі пакрылі нашу краіну тысячамі новых прадпрыемстваў, узброеных навейшаю тэхнікай. Совецкая прамысловасць к канцу 1937 года дасягнула 428 проц. у параўнанні з 1929 годам і больш чым у 7 раз перавысіла даваенны ўзровень. Па валавой прадукцыі наша прамысловасць займае першае месца ў Еўропе і другое ў свеце. Таксама на першым месцы ў Еўропе стаіць наша машынабудаўніцтва, здабыча жалезнай руды, вытворчасць грузавых аўтамабіляў, трактароў, камбайнаў.

Поспехі соцыялістычнай індустрыялізацыі забяспечылі ўмовы для рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Совецкі Саюз стаў краінай самага буйнага ў свеце соцыялістычнага земляробства. У 1937 г. у калгасах знаходзілася 93% усіх сялянскіх двароў. Плошча пасеваў зернавых культур у калгасах складала 99% усіх сялянскіх пасеўных плошчаў па зярну. Перамога калгаснага ладу ў вёсцы і машынізацыя сельскай гаспадаркі забяспечылі хуткі ўздым ураджайнасці. Лозунг любімага правадыра працоўных таварыша Сталіна аб давядзенні вытворчасці зярна да 7—8 мільярдаў пудоў у год паспяхова выконваецца. Наша краіна ўжо ў мінулым годзе сабрала каля 6 мільярдаў 800 мільёнаў пудоў зярна. Папярэднія даныя гавораць аб тым, што сёлета валавы збор зярна будзе не меншым. Толькі ў соцыялістычнай дзяржаве рабочых і сялян магчыма вырашэнне такой складанай задачы ў кароткі тэрмін.

Калгасны лад назаўсёды знішчыў беднасць у вёсцы. Калгасы забяспечылі калгаснікам заможнае, шчаслівае і радаснае жыццё. З года ў год павышаецца вага калгаснага працадня, з года ў год калгаснікі ўсё больш і больш адчуваюць перавагу буйнай калгаснай гаспадаркі над дробнай гаспадаркай селяніна-аднаасобніка.

Соўгасы і калгасы з'яўляюцца самымі буйнымі ў свеце сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, насычанымі першакласнай тэхнікай. У параўнанні з 1913 годам механізацыя сельскай гаспадаркі павялічылася ў 8 раз. Краіна сахі стала краінай трактара і камбайна. На соўгасных і калгасных палях працуе зараз каля 500 тысяч трактароў і больш 120 тысяч камбайнаў.

СССР заняў першае месца ў свеце па вытворчасці пшаніцы, жыта, аўса, ячменю, ільну, бульбы, цукровых буракоў.

У галіне жывёлагадоўлі наша краіна таксама мае вялікія дасягненні. У калгасных жывёлагадоўчых фермах у мінулым годзе налічвалася 12 мільёнаў галоў буйнай рагатай жывёлы, 5,3 мільёна свіней, 18,7 мільёна авечак і коз.

Велізарны нашы поспехі і на культурным фронце. СССР—краіна суцэльнай пісьменнасці—пакрыта густою сеткаю сярэдніх школ, вышэйшых навучальных і навукова-даследчых устаноў. У СССР, як ні ў адной краіне свету, прабудзіліся і атрымалі шырокую магчымасць развіцця народныя таленты. Мастацтва ў нас не з'яўляецца здабыткам «абраннікаў», яно ўкараняецца ў гушчу працоўных мас. Народная

творчасць дасягнула нябачанага размаху. У ёй адлюстравана радаснае, шчаслівае і заможнае жыццё ў квітнеючай Краіне Советаў.

«У выніку ўвядзення ўсеагульнай абавязковай асветы і новага школьнага будаўніцтва разгарнуўся магутны ўздым культурнасці народных мас. Разгарнулася па ўсёй краіне грандыёзнае школьнае будаўніцтва. Колькасць навучаючыхся ў пачатковых і сярэдніх школах вырасла з 8 мільёнаў у 1914 годзе да 28 мільёнаў у 1936—37 годах. Колькасць навучаючыхся ў вышэйшых навучальных установах вырасла са 112 тысяч у 1914 годзе да 542 тысяч у 1936—37 годах.

Гэта была культурная рэволюцыя.

Ва ўздыме матэрыяльнага становішча і культурнага развіцця народных мас сказалася сіла, магутнасць, неперамажнасць нашай совецкай рэволюцыі. Рэволюцыі ў мінулым гінулі ад таго, што яны, даўшы народу свабоду, не мелі магчымасці даць яму разам з тым, сур'ёзнае паляпшэнне матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым была іх асноўная слабасць. Наша рэволюцыя адрозніваецца ад усіх іншых рэволюцый тым, што яна дала народу не толькі свабоду ад царызма, ад капіталізма, але і карэннае паляпшэнне яго матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым яе сіла і неперамажнасць» [1]).

Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка, створаная па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, за годы совецкай улады зрабіла гіганцкі крок па шляху социялістычнага развіцця. Беларускі народ, упершыню ў сваёй гісторыі атрымаўшы дзяржаўнасць, пры дапамозе вялікага рускага народа, у брацкай сталінскай дружбе ўсіх народаў СССР, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, ператварыў Беларусь—былую адсталую царскую калонію—у адну з перадавых рэспублік Совецкага саюза. БССР з'яўляецца зараз індустрыяльна-аграрнай краінай. Яна мае сваю буйную прамысловасць, узброеную навейшай тэхнікай. Прадукцыя прамысловасці Совецкай Беларусі ў параўнанні з дарэволюцыйным часам вырасла больш чым у 16 раз. Калі прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі выпускала прадукцыі ўсяго на 89 млн. рублёў, то социялістычная прамысловасць БССР дае прадукцыі больш як на 1 мільярд 400 мільёнаў рублёў. Адна толькі Магілеўская шоўкавая фабрыка дае ў год прадукцыі на такую-ж суму, як уся прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі.

Беларусь, якая ніколі не мела машынабудаўнічай прамысловасці, мае цяпер буйныя машынабудаўнічыя заводы. На заводах імя Варашылава, імя Кірава ў Менску вырабляюцца складанейшыя машыны і станкі. Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва ўзбройвае перадавою тэхнікай нашы соўгасы і калгасы.

Гіганцкі вырасла энергетычная база Совецкай Беларусі. Электрычныя станцыі БССР выпрацоўваюць электраэнергіі ў 97 раз больш чым у 1913 г. Дзецішчам сталінскіх пяцігодак з'яўляецца Белдрэс імя Сталіна, якая дае электраэнергію такім прамысловым цэнтрам, як Віцебск, Магілеў, Орша.

---

[1]) Гісторыя Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў). Кароткі курс, стар. 325—326 Дзяржпалітвыдат, 1938 г.

Сельская гаспадарка Совецкай Беларусі амаль поўнасцю калектывізавана. На калгасных і соўгасных палях працуюць каля 10 тысяч трактароў і больш тысячы камбайнаў. Беларускае калгаснае сялянства паспяхова ператварае былыя «неўрадлівыя» пяскі і балоты ў квітнеючыя хлебародныя калгасныя палі.

Азвярэлыя ворагі беларускага народа—буржуазныя нацыяналісты, польскія шпіёны і дыверсанты—усімі сродкамі імкнуліся падарваць калгасны лад у нашай рэспубліцы, выклікаць нездаволенасць калгаснікаў. Па ўказцы польскай разведкі яны падрыхтоўвалі глебу для адрыву БССР ад вялікага Совецкага Саюза.

Стаўка ворагаў была біта. Беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і асабіста таварыша Сталіна выкрыў і знішчыў контррэволюцыйную шайку фашысцкіх бандытаў. Атрымаўшы вялікую дапамогу ад Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і Саюзнага ўрада, калгаснае сялянства Совецкай Беларусі паспяхова ліквідуе вынікі шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы, усямерна ўмацоўваючы калгасны лад, паляпшаючы сваё шчаслівае і радаснае жыццё.

XXI гадавіну Кастрычніка рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя Совецкай Беларусі святкуюць асабліва радасна. У снежні гэтага года споўніцца дваццаць год з дня стварэння БССР. Да гэтага слаўнага юбілею беларускі народ рыхтуецца таксама як да вялікага ўсенароднага свята, якое з'явіцца магутнай дэманстрацыяй перамог соцыялізма ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі рэспублікі.

Беларускі народ добра ведае і разумее, што толькі Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя, што толькі вялікая партыя Леніна—Сталіна вызвалілі яго ад памешчыцка-капіталістычнага прыгнечання, далі яму свабоду і роўнапраўе, забяспечылі шчаслівае, радаснае, культурнае жыццё.

БССР займае пачэснае месца ў сузор'і 11 совецкіх соцыялістычных рэспублік. Совецкая Беларусь—магутны фарпост СССР на рубяжы з капіталістычным захадам. Беларускі народ добра разумее, якія адказнейшыя абаронныя задачы ўскладаюцца на яго і ён з гонарам іх выканае, калі вораг адважыцца пераступіць свяшчэнныя граніцы совецкай зямлі, бо ў беларускага народа, як і ва ўсіх народаў СССР, ёсць што абараняць, ёсць каму абараняць і ёсць чым абараняць.

Сагрэтыя сонцам сталінскай дружбы, працоўныя СССР з дня ў дзень умацоўваюць магутнасць сваёй соцыялістычнай радзімы, множаць сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма. А яны сапраўды велізарны. Залатымі літарамі запісаны яны на старонках выдатнага дакумента нашай эпохі—Сталінскай Канстытуцыі, якая назаўсёды ўзаконіла вялікія правы совецкага народа, умацавала сапраўды ўсенародны совецкі дэмакратызм. Выбары Вярхоўнага Совета СССР і Вярхоўных Советаў саюзных і аўтаномных рэспублік на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні з'явіліся яркай дэманстрацыяй гэтага дэмакратызма, дэманстрацыяй маральна-палітычнага адзінства совецкага народа. Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных атрымаў на выбарах бліскучую перамогу.

У любой галіне нашай народнай гаспадаркі можна бачыць людзей, якія не баяцца ніякіх цяжкасцей у рабоце, паказваюць прыклады сапраўды соцыялістычных адносін да працы. Стаханаўцы прамысловасці і сельскай гаспадаркі паказваюць большэвіцкія ўзоры прадукцыйнасці працы. Наша краіна ганарыцца сваімі гераічнымі лётчыкамі і лётчыцамі, якія па сталінскіх маршрутах пракладваюць новыя трасы

ў паветраным акіяне. Наш народ законна ганарыцца перадавымі людзьмі навукі і тэхнікі, выдатнейшымі майстрамі совецкага мастацтва, якія ўзнімаюць славу социялістычнай радзімы на небывалую вышыню.

За дваццаць адзін год у Совецкім Саюзе выраслі шматлікія кадры совецкай інтэлігенцыі: інжынеры і тэхнікі, урачы і настаўнікі, работнікі навукі і мастацтва. Кожны совецкі інтэлігент творыць на сваім участку вялікай важнасці справу, дапамагае партыі большэвікоў і совецкай уладзе рухаць нашу краіну ўперад, да поўнай перамогі комунізма.

Партыя і ўрад акружаюць совецкую інтэлігенцыю вялікай увагай і клопатамі, ствараючы ёй неабходныя ўмовы для творчай работы і росту. Вялікае месца ў гэтай важнейшай рабоце займае ідэйна-палітычнае выхаванне.

Кароткі курс гісторыі ВКП(б), распрацаваны пад непасрэдным кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле генія чалавецтва таварыша Сталіна, павінен з'явіцца настольнаю кнігай кожнага партыйнага, совецкага, гаспадарчага актывіста, кожнага совецкага інтэлігента. У гэтай кнізе абагулен гіганцкі гістарычны вопыт партыі Леніна—Сталіна, дана сапраўды навуковае, марксісцкае тлумачэнне складанейшых пытанняў гістарычна-рэволюцыйнай барацьбы рабочага класа і яго партыі. Глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б) узбагаціць кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка вопытам барацьбы рабочых і сялян за социялізм, дапаможа нашым кадрам авалодаць большэвізмам.

Вялікімі заваёвамі социялізма совецкі народ абавязан кіраўніцтву геніяльных правадыроў чалавецтва—Леніну і Сталіну, правільнай палітыцы партыі большэвікоў—правадыру і арганізатару социялістычнага будаўніцтва. У 1917 годзе партыя Леніна—Сталіна павяла рабочых і сялян на штурм капіталізма, звергнула ўладу буржуазіі і памешчыкаў і ўстанавіла дыктатуру пролетарыята. Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў совецкі народ разграміў банды інтэрвентаў у годы грамадзянскай вайны. Партыя Леніна—Сталіна арганізавала і забяспечыла сваім кіраўніцтвам пабудову социялістычнага грамадства.

Кіруемая сваімі геніяльнымі правадырамі Леніным і Сталіным, партыя большэвікоў заўсёды вяла і вядзе непрымірымую барацьбу з класавымі ворагамі, з контррэволюцыйнымі трацкісцка-бухарынскімі здраднікамі, буржуазнымі нацыяналістамі і іншымі вырадкамі чалавецтва, якія прабавалі аслабіць абаронную магутнасць Краіны Советаў і тым самым аблегчыць інтэрвенцыю супроць СССР. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна совецкая разведка на чале са сталінскім наркомам тав. Ежовым выкрыла і знішчыла варожыя гнёзды фашысцкіх наймітаў. Совецкі народ раздушыў контррэволюцыйную гадзіну і пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна прадаўжае сваё пераможнае шэствіе ўперад. Не забываючы ні адну мінуту пра капіталістычнае акружэнне, совецкі народ трымае сябе ў стане поўнай мабілізацыйнай гатоўнасці, каб у любы момант даць ворагу сакрушальны адпор.

Совецкі народ з дня ў дзень умацоўвае магутнасць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота—верных вартавых заваяванняў Вялікага Кастрычніка. Працоўныя СССР любоўю і клопатамі акружаюць байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, поўных гераізма, мужнасці, адвагі. Яркія прыклады самаадданасці і гераізма паказалі нашы далёкаўсходнікі ў баях з японскімі самураямі ў раёне возера

Хасан, прадэманстраваўшы перад усім светам сілу і магутнасць узброенага совецкага народа.

XXI гадавіну Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі совецкі народ святкуе ў вельмі напружанай міжнароднай абстаноўцы. Над светам навісла пагроза новай імперыялістычнай вайны. Па сутнасці, вайна вядзецца ўжо германскім, італьянскім і японскім фашызмам, якія ўсё ў большым маштабе ажыццяўляюць свае агрэсіўныя планы. Італьянскія і германскія інтэрвенты грабяць міралюбівы іспанскі народ. Японскі імперыялізм захватвае тэрыторыі кітайскага народа. Германскі фашызм захапіў Аўстрыю, знішчыў існаванне гэтай самастойнай дзяржавы. Глава фашысцкай Германіі Гітлер пры прамым падтрыманні сучасных палітычных дзеячоў Англіі і Францыі—Чэмберлена і Далад'е—здзейсніў свой план раздзелу Чэхаславакіі. Пры іх актыўнай дапамозе Гітлер працягвае сваю агрэсію за кошт тэрыторый так званых малых краін, імкнучыся ўсё далей і далей на Усход.

Совецкі Саюз адстойвае справу міру. Яму чужды ідэі захватніцкіх імперыялістычных войн. Ён хоча жыць у дружбе і супрацоўніцтве з народамі ўсіх краін. І таму СССР па праву называюць аплотам міру. Аднак Совецкі Саюз ніколі не забывае, што фашысты ўсіх краін шалёна рыхтуюцца да нападу на першую ў свеце краіну соцыялізма. Таму адною з асноўных задач СССР ставіць умацаванне сваёй абароназдольнасці. Краіна Советаў стала такой крэпасцю, аб якую разаб'юць сабе галовы інтэрвенты, усе ворагі соцыялізма.

У сваім дакладзе XVII з'езду партыі таварыш Сталін адзначыў:

«Наша знешняя палітыка ясна. Яна ёсць палітыка захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі. СССР не думае пагражаць каму-б то ні было і—тым больш—нападаць на каго-б то ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрыманне. А тыя, якія папрабуюць напасці на нашу краіну,—атрымаюць сакрушальны адпор, каб у далейшым не павадна было ім саваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод».

Няма большага шчасця, чым жыць і працаваць у Совецкай краіне, дзе назаўсёды знішчана эксплуатацыя чалавека чалавекам, дзе праца стала справай гонару, доблесці і геройства.

У дваццаць другі год свайго існавання Совецкі Саюз уступае як ніколі моцным, як грозная сіла для фашысцкіх краін. Умацоўваючы абаронную магутнасць Краіны Советаў, працоўныя масы Совецкага Саюза пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна будуць адначасова множыць перамогі соцыялізма, каб прывесці сваю радзіму да поўнага трыумфу комунізма.

А. Свам

# Міжнароднае становішча і знешняя палітыка СССР к XXI гадавіне Кастрычніка

Міжнароднае становішча к XXI гадавіне Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі характарызуецца рэзкім абвастрэннем усіх супярэчнасцяй, раздзіраючых капіталістычны свет, рэзкім абвастрэннем пагрозы новай вайны за перадзел свету, абвастрэннем пагрозы іншаземнай капіталістычнай інтэрвенцыі і вайны супроць першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы.

Новая імперыялістычная вайна ўжо фактычна пачалася. Яна ўжо ўцягнула ў свой млын сотні мільёнаў людзей. Яна залівае крывёй шырокія прасторы Кітая, квітнеючае ўзбярэжжа і суровыя горныя даліны Іспаніі; яна пагражае ўцягнуць у сваё кола ўвесь свет. Японскія, італьянскія, германскія агрэсары, ажыццяўляючы свае планы барацьбы за панаванне над светам, раздуваюць пажар новай вайны ўсюды, дзе толькі могуць. Пасля захвату Манчжурыі Японіяй (1932 г.), пасляператварэння незалежнай Абісініі ў калонію італьянскага фашызма (1935—1936 гг.) італьянскі і германскі агрэсары арганізавалі фашысцкі мяцеж і інтэрвенцыю ў Іспаніі (1936 г.), японскія драпежнікі зноў напалі на Кітай (1937 г.), германскі фашызм знішчыў многавекавую незалежнасць Аўстрыі (1938 г.) і ажыццявіў свой план расчлянення Чэхаславакіі, ператварэння гэтай незалежнай краіны ў калонію фашызма.

Імперыялістычная вайна яшчэ не аб'яўлена, але афярамі яе палі ўжо цэлыя незалежныя народы. Глыбокі мір афіцыяльна пануе над усімі пяццю часткамі свету, а ваенныя зводкі з палёў боек, сотні тысяч забітых і раненых, попел і руіны гарадоў, спаленых і разбураных бомбамі паветраных піратаў, тысячы бежанцаў, страціўшых не толькі прытулак, але і радзіму—усё гэта гаворыць чалавецтву аб тым, што новая сусветная вайна ўжо ўступае ў свае правы. Кожны народ капіталістычнага свету з трывогай пытае сябе, ці не за ім чарга, ці не ён першым трапіць у вір вайны.

Гэта трывога стала асабліва вострай у сувязі з чэхаславацкімі падзеямі. Можна сказаць, што іменна чэхаславацкія падзеі, ускрыўшыя з вычарпальнай яснасцю расстаноўку сіл міру і сіл вайны, з'яўляюцца зараз вызначаючым момантам міжнароднага становішча большасці краін капіталістычнага свету.

Захапленне рэакцыйнай буржуазіі Англіі і Францыі па адрасу мюнхенскага пагаднення ад 29 верасня і па адрасу Чэмберлена і

Далад'е, абвешчаных ёю ангеламі міру, не маглі скрыць таго зусім відавочнага факта, што «вырашэнне чэхаславацкага пытання» з'яўляецца для фашысцкай Германіі толькі чарговым этапам па шляху да новых, яшчэ больш шырокіх захватніцкіх імкненняў. Калі пасля захвату Аўстрыі ўсяму свету было ясна, што ў планах грабежніцкай палітыкі германскага фашызма настала чарга расправы з Чэхаславакіяй, то пасля мюнхенскай капітуляцыі Англіі і Францыі нават цяжка сказаць, каму небяспека фашысцкай агрэсіі пагражае з найбольшаю сілай.

Усе еўрапейскія краіны могуць з роўнай падставай меркаваць, што наступіла іх чарга «прынесці афяру міру», афяру, падобную той, якую прынесла Чэхаславакія, пакладзеная на «афярнікавы алтар» яе французскімі і англійскімі «апекунамі».

І сапраўды, вынікам англа-французскай здрады і капітуляцыі з'явілася агульнае ўзмацненне агрэсіўнага націску падпальшчыкаў вайны. Чэхаславакія з яе развітай прамысловасцю, з яе ваеннымі заводамі, крэпасцямі, моцнай арміяй была адным з асноўных бастыёнаў міру ў Еўропе. Звязаная дагаворамі аб узаемнай дапамозе з Францыяй і СССР і саюзнымі дагаворамі з Румыніяй і Югаславіяй Чэхаславакія з'яўлялася асноўнай перашкодай на шляху ажыццяўлення гітлераўскіх планаў у цэнтральнай Еўропе і на Балканах.

Найбольш моцная ў ваенных і прамысловых адносінах краіна Малой Антанты (у якую ўваходзяць, акрамя Чэхаславакіі, Румынія і Югаславія)—Чэхаславакія з яе 200-тысячнай арміяй мірнага часу, арміяй, якую ў часе вайны можна было давесці да паўтара—двух мільёнаў, з яе буйнейшымі ваеннымі заводамі, пастаўляўшымі зброю ва ўсе краіны цэнтральнай і балканскай Еўропы, з яе буйнай металургіяй, вугальнымі капальнямі, хімічнымі, машынабудаўнічымі, аўтамабільнымі заводамі, з развітай сельскай гаспадаркай,—была тым цэнтрам, вакол якога групаваліся ў гэтай частцы Еўропы краіны, што знаходзяцца пад фашысцкай пагрозай. Яна мела ўплыў на палітыку Румыніі і Югаславіі, яна ўзнімала ў гэтых краінах волю да супраціўлення фашысцкаму агрэсару тых колаў, якія не хацелі ператварэння іх краін у калоніі германскага фашызма.

Мюнхенскае пагадненне раззброіла гэты бастыён міру. Яго сцэны—натуральныя і штучныя ўмацаванні на 1400-кіламетравай граніцы з Германіяй, умацаванні, на якія былі затрачаны мільёны французскіх грошай,—знаходзяцца зараз у руках ворагаў міру. Прамысловасць Чэхаславакіі падарвана: дзве трэція часткі экспартных галін лёгкай прамысловасці (80 проц. тэкстыльнай, 85 проц. шклянай, амаль уся папяровая) адарваны ад яе ў выніку мюнхенскага пагаднення; трэцяя частка металургічнай прамысловасці, амаль поўнасцю буры вугаль і 70—80 проц. каменнавугальнай прамысловасці перайшлі ў рукі ворагаў міру. З пятнаццаці мільёнаў насельніцтва Чэхаславакія траціць да пяці мільёнаў чалавек. Тое, што засталося ад Чэхаславакіі, як гэта паказалі падзеі апошніх дзён (утварэнне «аўтаномнага ўрада» ў Славакіі, забарона, у Славакіі, дзейнасці комуністычнай партыі, перагаворы новага міністра замежных спраў з Гітлерам), стаіць пад пагрозай ператварэння ў фактычную калонію германскага фашызма. Не дзіўна, што і Румынія і Югаславія пасля чэхаславацкіх падзей з трывогай сочаць за развіццём міжнароднай сітуацыі. Абедзве гэтыя краіны ведаюць, што ў планах агрэсіўнага германскага фашызма ім падрыхтавана роля сельскагаспадарчай, лясной, нафтавай (Румынія),

прадавольственнай і сыравіннай баз і плацдармаў для новых планаў агрэсіі германскага фашызма.

Пад пагрозай адчуваюць сябе і іншыя краіны Еўропы. Германскі фашызм узмацніў агрэсіўную падрыўную работу ў Бельгіі, дзе ён апіраецца на фашысцкія групіроўкі рэксістаў і на фламандскіх сепаратыстаў. Адраджаецца план, створаны яшчэ генеральным штабам Вільгельма II, план утварэння вялікай фламандскай дзяржавы з Галандыі, заходніх, узбярэжных, правінцый Бельгіі і т. п., французскай Фландрыі, зразумела, пад германскім пратэктаратам. У адносінах Бельгіі ёсць, між іншым, і менш грандыёзная, але больш лёгкая задача: адабраць назад дзве акругі—Эйпен і Мальмедзі, якія мяжуюць з Германіяй і перайшлі да Бельгіі ў выніку сусветнай вайны.

Пад пагрозай адчувае сябе і Данія, паўднёвыя вобласці якой (Шлезвіг) да вайны таксама былі германскімі. Фашысцкія групіроўкі ў гэтых вобласцях ужо рыхтуюцца адыграць ролю аўстрыйскіх і чэхаславацкіх гітлераўцаў, патрабуюць «аўтаноміі», разлічваючы ў зручны момант выставіць патрабаванне пераходу да Германіі.

Швейцарыя з яе змешаным насельніцтвам, у складзе якога ёсць некалькі мільёнаў немцаў, таксама апасаецца за свой лёс. Гэта апасенне тым больш грунтоўна, што пасля ўтварэння ва Францыі так званай «лініі Мажыно»—сістэмы абарончых умацаванняў ад швейцарскай граніцы да мора—у германскіх ваенных сферах неаднаразова ўзнікала мысль аб нападзе на Францыю (у будучай вайне) праз Швейцарыю. Швейцарскія немцы ніколі не былі ў складзе даваеннай або пасляваеннай Германіі і праз многія стагоддзі вядуць самастойнае існаванне, але гэта акалічнасць не змяншае іх страху, бо і судэцкія немцы былі ў такім самым становішчы, аднак гэта не перашкодзіла германскаму фашызму «самавызначыць» іх з дапамогай Чэмберлена і Даладʼе.

Адной з пагражаемых краін зʼяўляецца і Літва. Бясспрэчна, што фашысцкая Германія ў бліжэйшай-жа будучыні паставіць пытанне аб так званым «польскім карыдоры» і патрабуе ў свайго лакея—панскай Польшчы—звароту карыдора. За гэта германскі фашызм дасць свайму вернаму слузе кампенсацыю, вядома, з чужой кішэні. Варта ўспомніць зараз, што пасля захвату Аўстрыі германскім фашызмам польскія паны кінуліся на Літву. Ім тады не дазволілі ўчыніць «паход» на Коўну». Пасля расчлянення і аслаблення Чэхаславакіі польскія паны атрымалі ў выглядзе авансу за будучую «добраахвотную» ўступку імі карыдора, а можа быць і яшчэ якіх-небудзь зямель, частку Чэхаславацкай зямлі. Далейшыя «кампенсацыі» яны павінны будуць узяць самі ў Літвы. Паведамленні аб новых польска-літоўскіх «пагранічных інцыдэнтах» наўрад ці не пачатак падрыхтоўкі новага «паходу на Коўну».

Малыя капіталістычныя краіны, якія маюць каланіяльныя уладанні (Бельгія, Галандыя, Партугалія), з трывогай чакаюць непрыемнасці і па гэтай лініі. Дарэчы прыпомніць, што на другі-ж дзень пасля мюнхенскай капітуляцыі Чэмберлен заявіў, што сяму-таму прыдзецца афяраваць і часткаю сваіх калоній зноў-жа ў інтарэсах міру і агульнага спакою. Бельгія, якая атрымала мандат Лігі нацый на адну з былых германскіх калоній у экватарыяльнай Афрыцы, чакае, калі разам з гэтай калоніяй у яе будуць адбіраць і яе багацейшую калонію Конго. Галандыя апасаецца, што яе «Нідэрландская Індыя», астравы Ява, Суматра і іншыя пойдуць на «алтар міру» не толькі

для ўціхамірання германскага бога вайны, але і японскага бажка, які, бясспрэчна, будзе прыцягнут «міратворцамі» да ўдзелу ў дзялёжцы «добраахвотных» афяр і які даўно ўжо квапіцца на гэтыя калоніі.

Пагроза фашысцкай агрэсіі непакоіць зараз і моцныя капіталістычныя краіны—Англію і Францыю. І гэтыя краіны жывуць з мыслю аб тым, што заўтра германскі фашызм асобна, а можа і разам з італьянскім і японскім пабрацімцамі, разам з польскім і венгерскім, а можа і яшчэ якім-небудзь падгалоскамі, прад'явіць сякія-такія новыя тэрытарыяльныя патрабаванні, якія датычаць непасрэдна ўжо ўласнай тэрыторыі Англіі або Францыі.

Абяцанням Гітлера не дабівацца больш ніякіх новых тэрыторый у Еўропе не верылі і не вераць і самі «міратворцы», якія па звароце з Мюнхена заявілі, што паколькі мір выратаван—трэба тэрмінова ўзбройвацца. Гітлер таксама ведае, што гэтым абяцанням ніхто не паверыў, пакуль англійскі і французскі паслы ў Берліне сумесна з італьянскім і германскім калегамі кромсалі Чэхаславакію па жывому целу, не заглядваючы нават у тэкст самой мюнхенскай капітуляцыі, а павінуючыся толькі ўказцы германскага фашызма. Гітлер выступіў у Саарбрукене з прамовай, у якой змяшчаліся прамыя пагрозы безапаснасці Францыі. Мусаліні падтрымаў істэрычныя выкрыкі Гітлера і, са свайго боку, апляваў англійскага і французскага ўдзельнікаў мюнхенскага «пакта чатырох». Гэта «абураючая няўдзячнасць» магла здзівіць толькі бяззубых палітычных младзенцаў. Для чалавека, які мала-мальскі разбіраецца ў гэтай справе, было ясна, што так яна і павінна была развівацца, што Гітлеру і Мусаліні няма чаго больш какетнічаць і заігрываць з Францыяй, няма чаго шанаваць самалюб'е французскіх кіруючых колаў.

Расчляненне і аграбленне Чэхаславакіі было рашаючым звяном у плане палітычнай ізаляцыі і акружэння Францыі, які даўно падрыхтоўваўся і настойліва праводзіўся фашысцкімі агрэсарамі. Пасляваенная безапаснасць Францыі будавалася на магутнасці яе арміі, на раззбраенні Германіі, на саюзах з Бельгіяй, Польшчай, Чэхаславакіяй, Румыніяй і Югаславіяй, на нейтралітэце дружаственнай Іспаніі і на «сардэчнай згодзе» з Англіяй.

Усе гэтыя элементы безапаснасці Францыі ўключаліся ў агульную сістэму безапаснасці, выражаную ў статуце Лігі нацый.

Гэта сістэма безапаснасці была падарвана пераходам у 1934 годзе Польшчы на бок германскага агрэсара; у 1935 і 1936 гг. Германія парвала ваенныя артыкулы Версальскага дагавора і прыступіла да ўзбраенняў; у 1936—1937 гг. Бельгія парвала ваенны саюз з Францыяй і аб'явіла сябе нейтральнай; у 1936—1937 гг. на пірэнейскай граніцы Францыі паявіліся італьянскія і германскія салдаты, аэрапланы і артылерыя. У 1938 годзе чарга дайшла да сістэмы ваенных саюзаў Францыі ў цэнтральнай Еўропе. Без ліквідацыі чэхаславацкага бастыёна Гітлер і думаць не мог кінуцца на Францыю. Чэхаславакія была апорным пунктам Францыі, пастаяннай пагрозай германскаму тылу. Яна патрабавала ад Германіі соцень тысяч, мільёнаў салдат для прыкрыцця тылу на выпадак вайны з Францыяй. Чэхаславакія ў пэўнай меры забяспечвала Францыі таксама вернасць яе румынскага і югаслаўскага саюзнікаў. Зразумела, што ўдар, які Далад'е нанёс Чэхаславакіі, быў ударам па сіле самой Францыі, па сістэме яе ўласнай безапаснасці, а разам з тым і па справе агульнага міру. Пасля гэтага ўдару Гітлеру лёгка рабіць свае прамовы, а Мусаліні—здзеквацца над паспешнымі

заігрываннямі французскіх правіцеляў з Італіяй, над прызнаннем Францыяй Абісініі і т. д.

Мюнхенскае пагадненне ператварыла Францыю ў другарадную дзяржаву капіталістычнага свету. Цяпер і да яе можа быць звернута патрабаванне «афяр», і яе калоніі могуць стаць аб'ектам гандлю, і зусім не выключана, што Гітлер можа патрабаваць «самавызначэння» і ў Эльзас-Латарынгіі.

Англія знешне вышла пакуль-што з падзей без страт, калі не лічыць стратай поўнага падрыву давер'я да яе ў малых краінах капіталістычнага свету. Яна не страціла ні аднаго саюзніка, нават як быццам набыла «друга» ў асобе Гітлера. Яна не аддала ні кавалка сваёй зямлі і не паступілася якімі-б там ні было сваімі інтарэсамі. Яна старалася паказаць сваю ролю ў выглядзе ролі арбітра ў Еўропе, пасярэдніка паміж Германіяй і Чэхаславакіяй. Але ніхто так моцна, як самі англічане, не адчувае, што гэта англійская актыўнасць была выклікана нічым іншым, як страхам перад тым, каб новы перадзел свету не адбыўся за кошт старэючага «брытанскага льва».

Англійскія кансерватары аддалі Чэхаславакію сёння; у іх яшчэ ёсць рэзерв: заўтра яны аддадуць бельгійскія калоніі, паслязаўтра афяруюць кавалкамі Францыі. Але затым блок агрэсараў патрэбуе «афяр» і ад Англіі. Праў быў Чэрчыль, калі сказаў, што Англія паміж вайной і ганьбай выбрала ганьбу з тым, каб потым мець вайну.

Як магло здарыцца, што восенню 1938 года капіталістычны свет аказаўся ў такім жалкім становішчы?

Віну за гэта становішча, як гэта бліскуча паказаў у сваіх выступленнях у Жэневе тав. Літвінаў, нясуць не толькі распаясаўшыяся агрэсары, але наўрад ці не ў першую чаргу іх пасобнікі, мюнхенскія «міратворцы». Няма і не можа быць двух думак: Чэхаславацкая трагедыя магла-б застацца ў спісе нязбыўшыхся мараў Гітлера і не мець месца ў рэчаіснасці. І для выратавання Чэхаславакіі нават не прышлося-б і ваяваць. У маі 1938 года такая-ж пагроза вайны была лёгка адбіта цвёрдай заявай Францыі, што яна выканае свой доўг і прыдзе на дапамогу Чэхаславакіі ў выпадку германскага нападу. Англійскія кансерватары вымушаны былі падтрымаць Францыю і даць параду Гітлеру ўмерыць свой пал.

У верасні 1938 года былі ўсе ўмовы для таго, каб перашкодзіць гітлераўскім планам. Нават сярод германскіх ваенных колаў раздаваліся галасы, што гітлераўскія пагрозы Чэхаславакіі—блёф і авантура, надзвычай небяспечныя для самога германскага фашызма. І калі ў кастрычніку 1938 года германскія войскі і банды фашысцкіх штурмавікоў гаспадараць у Чэхаславакіі—яны гаспадараць там толькі таму, што англійскія кансерватары і рэакцыйная французская буржуазія спалохаліся таго, што паражэнне Гітлера ў чэхаславацкім пытанні прывядзе да ўмацавання антыфашысцкага фронта ва ўсім свеце, падніме народныя масы на барацьбу за новыя, чалавечыя, умовы існавання, падарве панаванне рэакцыі. Чэхаславакія была прынесена ў афяру класавым інтарэсам верхавінкі рэакцыйнай англійскай і французскай буржуазіі.

Мюнхенская капітуляцыя, падарваўшы сістэму калектыўнай бяспечнасці, падарваўшы Лігу нацый, узмацніўшы агрэсіўны націск фашызма, паставіўшы пад пагрозу безапаснасць не толькі малых і сла-

бых народаў, але і безапаснасць Францыі, а ў канчатковым выніку і самой Англіі, акрыліла ўсе рэакцыйныя сілы буржуазнага свету. Англійскія кансерватары разлічваюць цяпер быстра пакончыць, па чэхаславацкаму ўзору, з незалежнасцю Іспаніі, выдаць іспанскі народ на фашысцкую расправу. У больш аддаленым плане яны мараць аб зговары з Японіяй за кошт Кітая. Яны разлічваюць, што ў створаным у Мюнхене блоку «чатырох дзяржаў» яны будуць адыгрываць вядучую ролю, нацкоўваючы, шляхам уступак і згоды пажывіцца за кошт таго ці іншага народа, фашысцкіх агрэсараў адзін на другога і на Францыю. Яны спадзяюцца, што ім будзе суджана ўзначаліць агульны капіталістычны фронт супроць СССР.

Гэтыя планы англійскіх кансерватараў—не тайна для фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Мусаліні прама заявіў, што гэтыя надзеі Англіі беспадстаўны. Ні германскі, ні італьянскі драпежнікі не жадаюць іграць другія ролі ў гэтым блоку. Яны патрабуюць, каб Англія і Францыя былі зброяй германа-італьянскай палітыкі да таго часу, пакуль не настане іх чарга быць яе аб'ектам.

Адным з вынікаў мюнхенскай капітуляцыі было ўзмацненне наступлення рэакцыйнай буржуазіі на народныя масы. Гэта наступленне з асаблівай нагляднасцю выявілася ў Чэхаславакіі і ва Францыі. Ва Францыі ў парадак дня палітычнага жыцця пастаўлена пытанне аб лёсе народнага фронта. Капітуляцыя перад знешнім фашызмам кінула хістаючыяся элементы ў абнімкі ўнутранага фашызма.

Адначасова апошнія падзеі выклікаюць і адваротную рэакцыю. Сістэма калектыўнай безапаснасці, падарваная капітуляцыяй пасобнікаў падпальшчыкаў вайны, усё больш і больш пачынае разглядацца шырокімі народнымі масамі і нават буржуазнымі коламі раду пагражаемых краін, як адзіны сродак прадухілення новых фашысцкіх авантур.

У сувязі з гэтым у надзвычайнай ступені вырас прэстыж адзінай соцыялістычнай дзяржавы—СССР, якая была ў гэтыя крытычныя тыдні адзіным, да канца паслядоўным і цвёрдым абаронцаю сістэмы калектыўнай безапаснасці і недзялімага міру.

Увесь свет памятае і ўсё перадавое, прагрэсіўнае чалавецтва паўтарае, што Совецкі Саюз у Лізе нацый змагаўся супроць усялякіх відаў агрэсіі, настойваў на неабходнасці калектыўнага адпору агрэсарам, папярэджваў, што папушчэнства агрэсіі пагражае міру новай вайною. Усе памятаюць зусім ясную і чоткую палітыку Совецкага ўрада, як пры майскай спробе германскага нападу на Чэхаславакію, так і ў верасні 1938 года. Усе ведаюць, што Совецкі Саюз яшчэ 17 сакавіка 1938 г. прапанаваў (пасля захвату Аўстрыі германскім фашызмам) склікаць канферэнцыю для барацьбы з агрэсіяй, для папярэджання паўтарэння выпадкаў агрэсіі. Выступленне тав. Літвінава ў Лізе нацый у момант, калі Францыя і Англія дагаварваліся аб лёсе Чэхаславакіі з германскім фашызмам, паказала чотка, з кім СССР і як ён цвёрда і паслядоўна змагаецца за справу міру.

Гэта пазіцыя СССР паказала таксама, што мірная палітыка не мае нічога агульнага з палітыкай папушчэнства агрэсіі, што мірная палітыка ёсць палітыка стварэння калектыўнай безапаснасці, палітыка барацьбы з агрэсарам там, дзе ён асмеліцца нападаць.

Як жыццёвая ілюстрацыя да гэтага палажэння прагучэлі ў момант мюнхенскай капітуляцыі заявы прадстаўнікоў Іспаніі і Кітая ў Лізе нацый, паказаўшыя, што з агрэсіўным фашызмам не толькі трэба біцца, але і можна біцца і можна яго біць, апіраючыся на народныя масы, аб'яднаныя мыслю, што іх барацьба ёсць не толькі барацьба за выратаванне радзімы ад ненавісных ворагаў чалавецтва, але і барацьба за агульную справу ўсяго чалавецтва, барацьба за мір. Народы Іспаніі і Кітая паказваюць гераічныя прыклады барацьбы з агрэсіяй фашызма, і гэтыя прыклады засвойваюцца шырокімі масамі народаў іншых краін, якія на прыкладзе Чэхаславакіі бачаць, што ім няма чаго разлічваць на моцных апекуноў і на ўласныя буржуазныя кіруючыя класы, а неабходна патрабаваць і браць зброю і біць фашыстаў усюды, дзе яны паднімаюць руку на свабоду і незалежнасць народаў.

* * *

У дзень XXI гадавіны Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэвалюцыі многамільённыя масы працоўных нашай неабсяжнай радзімы выйдуць на вуліцы і плошчы нашых гарадоў і сёл, падводзячы радасны вынік яшчэ аднаму году слаўнай калектыўнай працы, году вялікіх спраў і гераічных перамог.

Совецкаму народу ёсць чаму радавацца, ёсць чым ганарыцца. Няма ў нашай краіне такога месца, дзе-б за гэты год не выраслі новыя прадпрыемствы, не ўзняліся новыя жыллёвыя будынкі, не працягнуліся новыя кілометры дарог, не выраслі новыя кадры, не адбыліся вялікія працоўныя гераічныя ўчынкі.

У гэты дзень мільёны працоўных, калгаснікаў, служачых, совецкіх інтэлігентаў, мільёны партыйных і непартыйных большэвікоў з гонарам успомняць і гістарычны дзень 12 снежня 1937 года, і бліскучыя вынікі выбараў у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік, паказаўшыя нябачанае ў свеце маральна-палітычнае адзінства совецкіх народаў, адданасць працоўных мас СССР вялікай справе Леніна—Сталіна, гарачую любоў да совецкага ўрада, да партыі, да правадыра працоўнага чалавецтва—таварыша Сталіна.

У гэты дзень мы ўспомнім усё, чым быў насычан мінулы год: і геранчную эпапею папанінцаў, і гераічныя ўчынкі нашых слаўных лётчыкаў і лётчыц, і беззаветную адвагу герояў Хасана, і самаадданую ахову пагранічнікамі нашых рубяжоў ад шпіёнаў і дыверсантаў, і тысячы іншых слаўных спраў, імён, дат.

У гэты дзень кожны з нас, ідучы ў святочных калонах дэманстрацыі, будзе памятаць і аб капіталістычным акружэнні, не забываць аб якім нас вучыць таварыш Сталін. Вітаючы нашых чырвонаармейцаў, пяхоту, кавалерыю, танкістаў, лётчыкаў, кожны з нас з гордасцю падумае, што нам не страшны ніякія фашысты ў свеце, што наша безапаснасць не залежыць ад паноў Чэмберленаў і Даладʼе, што граніцы нашай радзімы знаходзяцца пад надзейнай аховай, і кожная «свіная морда» гэта ведае не горш чым мы.

Гэтым пачуццем безапаснасці і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні мы абавязаны самім сабе. Мы, пад кіраўніцтвам нашай партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, у барацьбе з ворагамі народа—трацкістамі, зіноўеўцамі, бухарынцамі і іншымі агентамі капіталістычнага акружэння,—стварылі ў працоўных бойках на будоўлях, на заводах, на калгасных палях тую вялікую, непрыступную цвярдыню соцыялізма, якая ахоўвае зараз жыццё і шчасце кожнага з нас, якая з'яўляецца аплотам міру і для ўсяго чалавецтва.

С. Беляеў
Заг. АКПО ЦК КП(б)Б

# Прыём у партыю—важнейшая задача партарганізацый

З часу пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю прайшло два годы. За гэты перыяд у нашай краіне нязмерна вырасла актыўнасць і палітычная спеласць соцень тысяч і мільёнаў рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі.

Ворагі народа, якія ашуканчым шляхам прабраліся да кіраўніцтва партарганізацыямі Беларусі, пачкамі выключалі з партыі чэсных камуністаў, тармазілі прыём новых членаў і ўсяляк шкодзілі партыйнай рабоце. Партарганізацыі Беларусі пад кіраўніцтвам Сталінскага Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), пры дапамозе нашых слаўных чэкістаў на чале з тав. Ежовым раскрылі і знішчылі фашысцкія гнёзды прэзрэнных трацкістаў-бухарынцаў. У гэтай велізарнай выкрываўчай рабоце павысілася рэвалюцыйная пільнасць не толькі камуністаў, але і ўсяго беларускага народа. Лепшыя людзі Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі імкнуцца арганізацыйна звязаць сябе з партыяй Леніна—Сталіна, уступіць у яе рады.

Бліскучая перамога сталінскага блока камуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і БССР, небывалая палітычная актыўнасць найшырэйшых мас працоўных спрыялі росту новых кадраў беспартыйнага актыва—выдатнага рэзерва для папаўнення радоў нашай партыі сапраўды перадавымі, да канца адданымі справе комунізма людзьмі. Аднак, партыйныя арганізацыі мала ўвагі ўдзялялі прыёму ў партыю новых членаў і толькі за апошні час гэта работа крыху палепшылася.

З моманту аднаўлення прыёму ў ВКП(б), г. зн. з 1 лістапада 1936 года, партыйнымі арганізацыямі Беларусі прынята ў партыю ўсяго 4526 чал., з іх у члены партыі—1581 і ў кандыдаты—2945 чал.

Асноўная маса новапрынятых адносіцца да перыяда 1938 г. Калі за першыя 14 месяцаў у члены партыі і кандыдаты было прынята толькі 496 чал., то за 8 месяцаў 1938 года ў члены партыі прынята 1297 і ў кандыдаты—2733, а ўсяго за 8 месяцаў—4030 чал.

Найвялікшы рост партыйных радоў мы маем за апошнія месяцы. Так, у ліпені прынята ў члены і кандыдаты партыі—779 і ў жніўні—987 чал.

Аднак, трэба сказаць, што абкомы партыі, а таксама многія райкомы і гаркомы зусім недастаткова кіруюць гэтай важнейшаю справай. За агульнымі лічбамі не бачаць бяздзейнасці многіх пярвічных партарганізацый. У выніку па 18 раёнах рэспублікі прыёму амаль не

было, а рад пярвічных партыйных арганізацый за гэты час не прыняў у партыю яшчэ ні аднаго чалавека.

Буйным недахопам з'яўляецца таксама адсутнасць сур'ёзнай работы над ростам партыі за лік калгаснікаў.

З прынятых за 1938 год у кандыдаты партыі 2773 чал. калгаснікаў усяго 258 чал. Па 17 раёнах за гэты год у партыю не прынята ні аднаго калгасніка. Партыйная праслойка ў калгасах за першую палавіну 1938 года скарацілася на 133 чалавекі.

Гэты сур'ёзнейшы недахоп можна выправіць толькі тады, калі кожная раённая партарганізацыя па-большэвіцку разгорне палітыка-масавую работу сярод калгаснага актыва, сярод праверaных на рабоце, адданых справе Леніна—Сталіна людзей і будзе смялей уцягваць іх у рады нашай большэвіцкай партыі.

* * *

ЦК ВКП(б) у пастанове ад 4 сакавіка 1938 года патрабаваў «асобую ўвагу звярнуць... на спыненне валакіты пры разглядзе заяў аб уступленні ў партыю і пры выдачы партыйных дакументаў новапрынятым у партыю».

Аднак, партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дапускаюць у гэтай справе злачынную валакіту. Даволі сказаць, што на 1 верасня 1938 года засталіся неразгледжанымі 2546 заяў аб прыёме ў партыю, у тым ліку ў пярвічных партарганізацыях 1535, у райкомах 362 і абкомах 649. З рэкамендаваных райкомамі комсамола 6662 комсамольцаў прынята ў кандыдаты партыі толькі 1814, справы астатніх не разгледжаны з прычыны валакіты ў афармленні рэкамендацый.

Аб наяўнасці валакіты сведчаць наступныя факты:

Дэпутат Вярхоўнага Совета СССР тав. Альтшулер падаў заяву аб прыёме яго кандыдатам у партарганізацыю Гомсельмаша ў снежні 1936 г., а разабрана заява была толькі ў студзені 1938 г.

Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР тав. Шарко Ольга Канстанцінаўна падала заяву аб прыёме яе кандыдатам у пярвічную партарганізацыю Менскай МТС 10 красавіка 1938 г., аднак заява ўсё яшчэ не разгледжана.

Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР тав. Кульба пярвічнай партарганізацыяй Падгайскага сельсовета прынята ў кандыдаты партыі 23 сакавіка 1938 г., Менскім райкомам—1 красавіка, а Менскім абкомам—толькі 23 чэрвеня, гэта значыць, што абком цягнуў справу каля чатырох месяцаў.

Рудзенскі райком комсамола рэкамендаваў у кандыдаты партыі сакратара комсамольскага камітэта торфзавода «Дукоры» тав. Бахера. Атрымаўшы рэкамендацыю, тав. Бахер звярнуўся да парторга торфзавода тав. Лазарава, які сказаў, што трэба падаць заяву на атрыманне анкеты. Калі тав. Бахер такую заяву напісаў, парторг анкету яму не выдаў, а прапанаваў напісаць яшчэ і аўтабіяграфію. Урэшце, 3 верасня 1938 года справа разглядаецца пярвічнай арганізацыяй, якая прымае рашэнне: «У сувязі з тым, што ў Бахера не хапае рэкамендацый, прапанаваць яму падшукаць рэкамендацыю».

Член комсамола тав. Пархоменка падаў заяву ў райком 10 сакавіка 1938 г. Кандыдацкая група разглядзела заяву 23 красавіка, а праз пару месяцаў накіравала ўвесь матэрыял у райком праз інструктара райкома тав. Кітайчыка. Атрымаўшы гэты матэрыял 13 чэрвеня, тав. Кітайчык перадаў яго па прызначэнню толькі 27 жніўня. Такім

чынам, справа тав. Пархоменка $2^1/_2$ месяца праляжала ў кішэні інструктара райкома.

З гэтых тыповых для многіх партарганізацый прыкладаў відаць, як яшчэ дрэнна вядзецца барацьба з валакітай пры прыёме ў партыю.

Задача кожнай партыйнай арганізацыі—як найхутчэй пакончыць з бюракратызмам. Для гэтага неабходна, каб райкомы штодзенна кіравалі прыёмам у партыю, правяралі работу пярвічных партыйных арганізацый і дапамагалі-б ім ліквідаваць недахопы на гэтым адказнейшым участку.

Па-большэвіцку кіраваць прыёмам у партыю, значыць забяспечыць індывідуальны падыход да кожнага прымаемага, каб не дапусціць засмечанасці партыйных радоў чуждымі, варожымі і выпадковымі элементамі.

Тым часам, у асобных партарганізацыях наглядаюцца выпадкі павярхоўнага, безадказнага падыходу да прыёму новых членаў, адсутнасць высокай большэвіцкай пільнасці.

Сенненскі райком прыняў у кандыдаты нейкага Л. і ў члены партыі нейкага Т., якія праз месяц былі выкрыты як ворагі народа. Падобныя выпадкі былі ў Камарынскім і Бягомльскім раёнах. Цэлы рад фактаў сведчыць аб тым, што варожыя і чуждыя элементы ўсякімі спосабамі прабуюць пранікнуць у партыю. Абавязак партыйных кіраўнікоў і кожнага комуніста быць сугуба пільнымі, найстражэйшым чынам выконваць патрабаванні ЦК нашай партыі і таварыша Сталіна, каб не даць ворагу ніякай магчымасці пранікнуць у рады партыі.

Ведучы бязлітасную барацьбу з бюракратызмам і валакітай, партыйныя арганізацыі павінны адбіраць у партыю сапраўды перадавых людзей, бязмежна адданых справе партыі Леніна—Сталіна. Ні на хвіліну нельга забываць аб тым, што варожыя элементы і ў далейшым будуць спрабаваць пранікнуць у рады ВКП(б). Задача кожнай партыйнай арганізацыі, усямерна павышаючы большэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чуждых, варожых і выпадковых элементаў.

* * *

Буйнейшым недахопам з'яўляецца таксама недапушчальная зацяжка выдачы партыйных дакументаў прынятым у кандыдаты і члены партыі.

За першыя пяць месяцаў 1938 года па КП(б)Б было прынята ў партыю 2026 чалавек, а партыйныя дакументы атрымала толькі 350 чалавек. У чэрвені выдана 328, у ліпені 511 і ў жніўні 1005 партдакументаў. Зрух, як бачым, ёсць. Але трэба сказаць, што многія абкомы і райкомы партыі ўсё яшчэ праяўляюць недапушчальную марруднасць. Усё яшчэ не выконваецца пастанова ЦК ВКП(б) ад 14 ліпеня 1938 г., якая патрабуе «устанавіць... такі парадак, пры якім новапрынятыя ў партыю атрымлівалі-б партыйныя дакументы ў райкомах і гаркомах партыі не пазней чым у дэкадны тэрмін з дня іх канчатковага зацверджання адпаведнымі кіруючымі партарганізацыямі».

На 1 верасня не атрымалі яшчэ партыйных дакументаў 1551 чал.

Асабліва нездавальняюча пастаўлена выдача партыйных дакументаў у раёнах Магілеўскай вобласці.

На 5 верасня Бабруйскім райкомам гэтай вобласці не выданы партдакументы 72 чалавекам. З гэтай колькасці не атрымалі партдакументаў прынятыя ў члены партыі яшчэ ў сакавіку—1, у красавіку—9, у маі—12, у чэрвені—1 і ў ліпені—24 чал.

Кіраўскі райком не выдаў партдакументаў 4 чал., у тым ліку аднаму кандыдату, прынятаму яшчэ ў кастрычніку 1937 года.

Магілеўскі райком не выдаў партдакументаў 35 членам партыі і 73 кандыдатам, у тым ліку прынятым яшчэ ў лютым—3, у сакавіку—24, у красавіку—25, у маі—14, у чэрвені—3 і ў ліпені—14 чал.

Не лепш пастаўлена справа ва многіх райкомах Віцебскай, Менскай і Гомельскай абласцей. Трэба пакончыць з падобнай безадказнасцю і валакітай, прыцягваючы да адказнасці асоб, якія затрымліваюць выдачу партдакументаў.

* *
*

Рэзервы для росту партыі ў нашай рэспубліцы за апошні год нязмерна павялічыліся. Комсамольская арганізацыя рэспублікі налічвае ў сваіх радах 168787 чал. У радах спачуваючых—8625 чал. За час выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР вырас новы выдатны беспартыйны актыў. Тысячы беспартыйных актывістаў працавалі ў перыяд выбарчай кампаніі агітатарамі, даверанымі членамі, сакратарамі і старшынямі ўчастковых выбарчых камісій. У прамысловасці і сельскай гаспадарцы—дзесяткі тысяч стаханаўцаў і ўдарнікаў.

Аднак, з беспартыйным актывам у нас не наладжана сістэматычная работа. У выніку мы маем нездавальняючы рост партыі і надзвычай слабы рост груп спачуваючых.

За 8 месяцаў колькасць спачуваючых павялічылася толькі на 2644 чал.

У радзе раёнаў Беларусі за 8 месяцаў прынята ў спачуваючыя толькі па 3—7 чалавек. Менскі сельскі РК за 8 месяцаў прыняў у спачуваючыя—7 чал., Бягомльскі—7, Грэскі—5, Чырвонаслабодскі—3, Плешчаніцкі—3, Пухавіцкі—6, Смалявіцкі—2, Любаньскі—3, Халопеніцкі—3, Чэрвеньскі не прыняў ні аднаго чалавека (Менская вобласць); Уваравіцкі—4, Кармянскі—7, Журавіцкі—7, Лоеўскі—7 (Гомельская вобласць); Жыткавіцкі—7, Тураўскі—6 (Палеская вобласць); Мазырскі—7, Чашніцкі—8, Талачынскі—5 (Віцебская вобласць); Быхаўскі—4, Клімавіцкі—6, Хоцімскі—3 (Магілеўская вобласць).

На менскім заводзе імя Молатава (сакратар тав. Гальперын) працуе 396 стаханаўцаў, але за гэты год ні адзін чалавек не ўцягнут у групу спачуваючых.

На буйнейшым прадпрыемстве нашай сталіцы, заводзе імя Кірава, працуе 540 стаханаўцаў, аднак група спачуваючых налічвае толькі 7 чалавек. Рабочы-слесар тав. Рубенчык расказвае: «Я падаў заяву аб прыёме ў спачуваючыя ў студзені 1937 года, а быў прынят у красавіку 1938 года. Год і тры месяцы мая заява не разбіралася, у канцы канцоў яна загубілася, і мне прышлося напісаць другую».

У рашэннях снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) (1935 г.) па дакладу тав. Ежова сказана, што партарганізацыі павінны прыцягваць спачуваючых у адпаведнасці з патрабаваннямі статута партыі да выканання паасобных даручэнняў, даводзіць да іх ведама і растлумачваць ім важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, паставіць са спачуваючымі сур'ёзную палітычную работу і выкаваць у іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

Большасць райкомаў і пярвічных партарганізацый гэтага рашэння не выконвае. Вельмі рэдка праводзяцца адкрытыя партыйныя сходы, што пазбаўляе спачуваючых магчымасці прайсці школу бальшэвіцкага выхавання.

Адкрытыя партыйныя сходы трэба арганізоўваць так, каб на іх прысутнічалі спачуваючыя і комсамольцы. Спачуваючым трэба часцей даваць спецыяльныя партыйныя даручэнні, часцей збіраць іх для інфармацыі аб важнейшых рашэннях нашай партыі і ўрада, прыцягваць да актыўнай грамадскай работы.

У Бабруйскім раёне 279 спачуваючых, з іх не ахоплены палітвучобай 173 чал. У пярвічнай партарганізацыі РВК (Клічаўскі раён) спачуваючыя на працягу гэтага года ні разу не маглі наведаць партсход, бо ўсе яны былі закрытымі.

Спачуваючыя Магілеўскай шоўкавай фабрыкі стаханаўка тав. Новікава (з 1936 г.), ударнік тав. Канцавы (з 1933 г.) і стахановец тав. Сцешанаў (з 1935 г.) не памятаюць выпадку, каб сакратар парткома з імі гутарыў.

У пярвічнай партарганізацыі фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» (Орша) з 12 спачуваючых ні адзін не вучыцца і не мае даручэнняў. У пярвічнай партарганізацыі Менскага трамвайнага парка з 11 спачуваючых ні адзін не ахоплен палітвучобай.

Для ўступлення ў рады партыі спачуваючым цяжка бывае дастаць рэкамендацыю. Так, тав. Рускі (гомельскі хлебакамбінат) скардзіцца, што, калі ён звярнуўся да члена партыі з 1920 г. тав. Гекціна за рэкамендацыяй, той не знайшоў іншага выхаду, як сказаць: «Я не ведаю, як пісаць рэкамендацыю». Гэты выпадак труслівай перастрахоўкі не стаў прадметам абмеркавання на сходзе пярвічнай партарганізацыі.

У рэспубліцы ёсць сотні спачуваючых з 1934—35 г. Многія з іх ўпаўне падрыхтаваны для ўступлення ў партыю. Аднак дрэнная работа з імі прывяла к таму, што за 1938 год у партыю прынята толькі 647 спачуваючых.

* * *

Нельга не спыніцца на рабоце пярвічных партарганізацый з кандыдатамі.

Па КП(б)Б налічваецца да 50 проц. кандыдатаў, у якіх даўно скончыўся кандыдацкі стаж. Многія кандыдаты маюць па 7—8 год кандыдацкага стажу, і партыйныя арганізацыі зусім не клапоцяцца аб падрыхтоўцы іх да ўступлення ў рады партыі.

У партарганізацыі Палескай вобласці 502 кандыдаты маюць стаж па 4—8 год.

У Петрыкаўскай партарганізацыі (Палеская вобласць)—66 кандыдатаў, з іх 41 з 1930—1936 гг. З часу аднаўлення прыёму прынята ў партыю толькі 8 кандыдатаў.

У Хойніцкай партарганізацыі 65 кандыдатаў, або 35 проц. агульнай колькасці комуністаў. З іх 53 з'яўляюцца кандыдатамі з 1930—1935 гг. Пераведзена ў члены партыі з пачатку прыёму 8 чалавек.

У Мазырскім раёне 10 кандыдатаў-адзіночак. Райком склікаў іх толькі адзін раз —у час выбараў парторганаў. У партарганізацыі гомельскага хлебакамбіната толькі трое з 8 кандыдатаў маюць партдаручэнні.

Прыведзеныя факты сведчаць аб зусім нездавальняючай рабоце з кандыдатамі партыі.

Трэба пакончыць з падобнай практыкай. Кожная партыйная арганізацыя павінна сістэматычна працаваць над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню кандыдатаў, прыцягваючы іх да актыўнай партыйнай і грамадскай работы.

Партыйныя кіраўнікі павінны таксама праявіць клопаты аб падшуканні рэкамендацый кандыдатам, якія падрыхтаваліся да прыёму ў партыю.

Важнейшая задача ўсіх партарганізацый—«выхаванне маладых комуністаў у духу большэвіцкай партыйнасці і прыцягненне іх да актыўнага ўдзелу ў партыйнай і грамадскай рабоце».

Гэта ўказанне ЦК ВКП(б) многія партарганізацыі на практыцы не ажыццяўляюць, праяўляючы агульны падыход да работы з навауступіўшымі, а часта і зусім закідаючы яе.

У партарганізацыі завода імя Молатава нядаўна прыняты ў кандыдаты партыі 22 чал. Палавіна нсвапрынятых не мае партдаручэнняў.

Тав. Пікулік заяўляе: «Як прынялі мяне ў партыю, так і забыліся пра мяне. Лічаць, што я ўжо дастаткова палітычна вырас. Сакратар парткома ні разу нас не збіраў і не гутарыў з намі». Кандыдат партыі тав. Міхасенка (завод імя Молатава) гаворыць, што сакратар парткома тав. Гальперын не ведае, у якім цэху Міхасенка працуе.

Падобныя факты безадказных адносін да большэвіцкага выхавання маладых членаў і кандыдатаў партыі нярэдкі.

Задача кожнай партарганізацыі—самым рашучым чынам ліквідаваць адзначаныя недахопы. Абкомы і райкомы павінны штодзенна кіраваць справай прыёму ў партыю, павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню маладых комуністаў і спачуваючых. Кожная партарганізацыя, кожны яе кіраўнік павінны цвёрда засвоіць, што сістэматычнае ідэйна-палітычнае выхаванне маладых комуністаў і спачуваючых узніме іх ідэйную ўзброенасць, актыўнасць, рэволюцыйную загартаванасць і пільнасць у барацьбе з усімі ворагамі народа, з фашысцкімі трацкісцка-бухарынскімі шпіёнамі і здраднікамі.

Распрацаваны камісіяй ЦК ВКП(б) і асабіста таварышом Сталіным «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» —гэты найвялікшы ўклад у скарбніцу марксізма-ленінізма—павінен быць пастаўлен у цэнтры работы па павышэнню ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў і спачуваючых.

**В. Кудраеў**

# За баявое выкананне рашэнняў Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)

Рашэнні Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) «Аб памылках партарганізацый пры выключэнні комуністаў з партыі, аб фармальна-бюракратычных адносінах да апеляцый выключаных з ВКП(б) і аб мерах па ўстараненню гэтых недахопаў»—баявая праграма палітычнай работы партыйных арганізацый. Гэтыя рашэнні з'яўляюцца для ўсіх партарганізацый і для кожнага комуніста-кіраўніка мацнейшаю зброяй у барацьбе за далейшае ўмацаванне магутнасці нашай ленінска-сталінскай партыі, за ўмацаванне яе сувязі з шырокімі масамі працоўных, за поўны разгром і знішчэнне ворагаў народа.

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) заклікаў партыйныя арганізацыі і ўсіх партыйных работнікаў рашуча пакончыць з агульным падыходам да членаў партыі, бязлітасна выкрываць паклёпнікаў, кар'ерыстаў, перастрахоўшчыкаў, знішчаць замаскаваных ворагаў народа, трацкісцка-бухарынскіх бандытаў, спрабаваўшых масавымі выключэннямі з партыі перабіць большэвіцкія кадры, пасеяць сумненне, няўпэўненасць і залішнюю падазронасць у нашых партыйных радах.

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) патрабаваў, каб кіраўнікі партыйных арганізацый і кожны комуніст навучыліся па-сталінску спалучаць большэвіцкую пільнасць з праяўленнем чуласці і таварыскіх клопатаў аб члене партыі.

> «Пара зразумець, што большэвіцкая пільнасць не толькі не выключае, а наадварот прадпалагае ўменне праяўляць максімум асцярожнасці і таварыскіх клопатаў пры вырашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі».

Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) узброіў нашы партыйныя арганізацыі на далейшы разгром і знішчэнне трацкісцка-бухарынскіх наймітаў фашызма, на выпраўленне недахопаў і памылак пры выключэнні з партыі, на знішчэнне фармальна-бюракратычных адносін да разгляду апеляцый, на ліквідацыю рэштак шкодніцтва ў партыйнай рабоце.

Узброіўшыся гістарычнымі ўказаннямі таварыша Сталіна на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) і рашэннямі Студзеньскага пленума, партыйныя арганізацыі Беларусі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна, правялі вялікую работу па выкарчоўванню і знішчэнню трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма, па выпраўленню памылак, дапушчаных пры выключэнні комуністаў з партыі. Узрасла адказнасць пры вырашэнні пытанняў аб партыйнасці, яшчэ больш павысілася палітычная пільнасць. За перыяд, які аддзяляе нас

ад Студзеньскага пленума, звыш 3000 чалавек адноўлены ў званні членаў і кандыдатаў і вярнуліся ў сваю родную партыю.

Аднак, не ўсё яшчэ зроблена для поўнай рэалізацыі рашэнняў Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б). Некаторыя партыйныя арганізацыі дапускаюць яшчэ грубейшыя памылкі пры разглядзе спраў і апеляцый выключаных з партыі, праяўляюць бесклапотныя, безадказныя адносіны да лёсу комуністаў пры выключэнні іх з партыі.

Прывядзем некалькі характэрных прыкладаў.

Магілеўскі гарком партыі на адным са сваіх пасяджэнняў разглядзеў справы 26 чалавек без папярэдняй праверкі ўсіх матэрыялаў, звязаных з выключэннем, і механічна пацвердзіў свае ранейшыя рашэнні аб выключэнні іх з партыі. Праз нейкі час з гэтай колькасці выключаных гарком аднавіў 2 чалавек і КПК—4. Гомельскі гарком больш 20 апеляцый выключаных з партыі перадаў на разгляд пярвічным партарганізацыям, якія частку апеляцый пратрымалі ў сябе па 4—5 месяцаў. Апеляцыя Велічкевіча праляжала без разгляду з лютага па жнівень месяц.

Церахаўскі райком партыі выключыў у чэрвені гэтага года Я. Тапароўскага за тое, што ён, будучы старшынёй промарцелі, нібыта давёў яе да развалу. Пры праверцы абвінавачанне не пацвердзілася, і тав. Тапароўскі рашэннем Гомельскага абкома адноўлен у кандыдатах партыі. Абком партыі ўказаў пры гэтым Церахаўскаму райкому, што ён працягвае старую практыку бяздушных адносін да лёсу комуністаў.

Аршанскім райкомам быў выключан з радоў партыі інжынер Гарабец. Пры праверцы гэтай справы Віцебскім абкомам партыі ўстаноўлена беспадстаўнасць абвінавачання, і тав. Гарабец у партыі быў адноўлен.

Гомельскі гарком партыі пры паўторным разглядзе справы тав. Сарокіна, выключанага ў перыяд праверкі партдакументаў, пацвердзіў сваё былое рашэнне нібыта за недаказанасцю прыналежнасці тав. Сарокіну кандыдацкай картачкі. ЦК КП(б)Б, разглядаючы справу тав. Сарокіна, устанавіў неабгрунтаванасць выключэння і аднавіў яго кандыдатам партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) рашуча асудзіў практыку фармальных, бяздушных адносін да лёсу членаў партыі і патрабаваў ад партыйных арганізацый пакончыць з гэтым чуждым большэвізму падыходам да людзей.

> «Партыя стала для члена партыі вельмі вялікай і сур'ёзнай справай і членства ў партыі або выключэнне з партыі—гэта вялікі пералом у жыцці чалавека».
>
> «Для радавых членаў партыі прабыванне ў партыі або выключэнне з партыі,—гэта пытанне жыцця і смерці» **(Сталін).**

Цэлы рад фактаў сведчаць аб недапушчальнай маруднасці пры разглядзе апеляцый выключаных з партыі. Даволі сказаць, што на 1 кастрычніка ў райкомах, гаркомах і абкомах партыі яшчэ не разгледжана каля 400 апеляцый. Неабходна як мага хутчэй ліквідаваць зацяжку і валакіту і кожны такі факт рабіць прадметам абмеркавання.

Асобай увагі заслугоўваюць факты, калі асобныя райкомы ў выніку бесклапотных, няўважлівых адносін да разгляду апеляцый і аслаблення палітычнай пільнасці аднаўляюць у партыі чуждых і варожых людзей. Такія факты мелі месца ў Бабруйскай, Чавускай і іншых партарганізацыях.

Гомельскі гарком партыі, разглядаючы справу П., якому пярвічная

партарганізацыя вынесла суровую вымову, адмяніў гэта рашэнне і даручыў рэдакцыі абласной газеты рэабілітаваць П. У хуткім часе пасля гэтага П. быў выкрыт, як вораг народа. Той-жа гарком партыі, разглядаючы апеляцыю Ф., аднавіў яго ў партыі. ЦК КП(б)Б, азнаёміўшыся з гэтай справай, адмяніў рашэнне Гомельскага ГК, паколькі выяснілася, што Ф. скрыў рад фактаў, якія ўнушаюць да яго палітычнае недавер'е. Гомельскаму ГК было ўказана на безадказныя адносіны да разбору справы Ф.

Хоцімскі райком партыі аднавіў М. на той падставе, што высунутыя супроць яго абвінавачанні нібыта беспадстаўны. Праверкай-жа было ўстаноўлена, што М.—выхадзец з кулацкай сям'і, быў цесна звязан з кулацкімі элементамі. Рашэнне Хоцімскага райкома партыі аб аднаўленні М. было адменена.

Некаторыя партарганізацыі з недапушчальнай маруднасцю рэабілітуюць адноўленых у партыі комуністаў, не выконваюць рашэнняў Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб прыцягненні паклёпнікаў да адказнасці.

Па дзесяці раёнах Палескай вобласці (Глуск, Даманавічы і інш.), дзе былі выпадкі выключэння з партыі на падставе паклёпніцкіх матэрыялаў, ні адзін паклёпнік не быў прыцягнут да адказнасці.

У Бабруйску не рэабілітаваны многія комуністы, выключаныя на падставе паклёпніцкіх матэрыялаў.

Газета «Соцыялістычны шлях» Крычаўскага раёна ў маі месяцы 1937 года назвала ворагамі народа тт. К. і Л. і не рэабілітавала іх, калі яны былі адноўлены ў партыі.

Кіраўскі райком партыі не прыцягнуў да адказнасці паклёпнікаў, якія выступалі супроць чэсных комуністаў з беспадстаўнымі матэрыяламі, што прыводзіла да выключэння з партыі адданых ёй людзей.

Неабходна зараз-жа разгледзець усе пытанні, звязаныя з рэабілітацыяй адноўленых у партыі комуністаў, на якіх быў узведзен паклёп. Трэба забяспечыць поўнае выкананне рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) аб рэабілітацыі членаў партыі ў тых органах друку, якія ў свой час змясцілі дыскрэдытуючыя члена партыі матэрыялы.

Ёсць яшчэ выпадкі, як, напрыклад, у Бабруйску, Горках, Дрыбіне, калі выключаныя з партыі знімаюцца з займаемай імі пасады, а другая работа ім не прадастаўляецца. Усе гэтыя факты павінны быць дэталёва разгледжаны, а вінаватыя ў невыкананні рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) прыцягнуты да адказнасці.

Пастанова пленума ЦК ВКП(б) абавязвае райкомы і гаркомы партыі «тэрмінова выдаваць партыйныя дакументы адноўленым у партыі, прыцягваць іх да ўдзелу ў партыйнай рабоце і растлумачваць усім членам пярвічных партарганізацый, што яны адказваюць за большэвіцкае выхаванне адноўленых у радах ВКП(б)».

Аднак, мы бачым недапушчальную валакіту з выдачай партыйных дакументаў. Аб гэтым сведчыць тая акалічнасць, што 750 адноўленых у партыі комуністаў на 1 кастрычніка не атрымалі партдакументаў.

Праверкай, праведзенай КПК у жніўні г. г. па Гомельскай вобласці, устаноўлена, што партдакументаў не атрымалі некаторыя комуністы, адноўленыя ў партыі яшчэ ў 1937 г. Тав. Шэйнін (Гомель) быў адноўлен у партыі ў жніўні 1937 года, і толькі ў чэрвені 1938 года гарком вынес рашэнне аб выдачы яму партдакументаў. Аналагічныя з'явы адзначаны ў Клімавіцкай, Крычаўскай, Шклоўскай і іншых партарганізацыях.

Ёсць райкомы партыі, якія абыякава адносяцца да таго, ці ўцягнуты ў актыўную партыйную работу адноўленыя ў партыі. Яны забываюць, што рэабілітаваны і адноўлены ў радах партыі комуніст павінен вярнуцца ў партыйныя рады, як роўнапраўны член сваёй партарганізацыі.

Крупскі райком партыі, аднавіўшы ў сваіх радах тт. Одночка і Бобрыка, не паклапаціўся аб тым, каб прыцягнуць іх да актыўнай партыйнай работы. Больш таго, тав. Одночка яшчэ не атрымаў партдакумента і не дапускаецца на партсходы.

У Крычаўскім раёне адноўлены ў партыі тав. Кабылка ніякіх партыйных даручэнняў не мае, партвучобу не наведвае, партсходы прапускае. Таксама не мае ніякіх партдаручэнняў і тав. Грабскі, абяцанне прымацаваць да яго настаўніка не выканана.

Неабходна як мага хутчэй закончыць выдачу партдакументаў адноўленым і ўцягнуць іх у актыўнае партыйнае жыццё.

Няўхільна выконваючы ўказанні таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам, партарганізацыі абавязаны ўзмацніць работу па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню адноўленых у партыі.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)»—гэта вялікае вучэнне большэвізма павінна стаць у цэнтры ўсёй нашай работы па партыйна-палітычнаму выхаванню комуністаў, павышэнню іх ідэйнай узброенасці. Глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б), упартая, неаслабная работа над павышэннем тэарэтычнага ўзроўню кожнага члена і кандыдата партыі, прынятага і адноўленага,—важнейшая задача ўсіх партарганізацый.

Рашэнні Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—узор сталінскіх клопатаў аб чалавеку, баявая праграма дзеянняў для кожнай партарганізацыі.

Неаслабна павышаючы рэволюцыйную пільнасць у барацьбе з заклятымі ворагамі народа, трацкісцка-бухарынскімі, буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашызма, неабходна зрабіць усё, каб давесці да канца работу па выпраўленню памылак, дапушчаных пры выключэнні комуністаў з партыі, рашуча знішчыць элементы бюракратызма і валакіты, праяўляць сталінскую чуласць і клопаты аб чалавеку, забяспечыць усе ўмовы для большэвіцкага выхавання і актыўнай работы адноўленых у радах КП(б)Б.

Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў пачатку кастрычніка, дэталёва і глыбока абмеркаваў пытанне аб выкананні рашэнняў Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і намеціў рад канкрэтных мерапрыемстваў. У сваёй пастанове пленум ЦК КП(б)Б абавязаў партарганізацыі прыняць усе меры, каб у найкарацейшы тэрмін поўнасцю выканаць рашэнні Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і тэрмінова знішчыць дапушчаныя партарганізацыямі памылкі і недахопы.

Поўнасцюператвараць у жыццё рашэнні Студзеньскага пленума ЦК ВКП(б)—пярвейшы абавязак кожнага партыйнага работніка.

**С. Новік**

**Пракурор Беларускай ССР,
дэпутат Вярхоўнага Совета БССР**

# Пракуратура БССР у барацьбе з нарушальнікамі соцыялістычнай законнасці

У гістарычныя дні Надзвычайнага VIII Усесаюзнага З'езда Советаў, калі абмяркоўваўся праект новай Канстытуцыі, таварыш Сталін катэгарычна асудзіў і адверг дадатак, у сілу якога прапанавалася прадаставіць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета права выдаваць часовыя законадаўчыя акты.

У сваім дакладзе З'езду таварыш Сталін указаў:

> «Трэба, нарэшце, пакончыць з тым становішчам, калі законадаўствуе не адзін які-небудзь орган, а цэлы рад органаў. Такое становішча супярэчыць прынцыпу стабільнасці законаў. А стабільнасць законаў патрэбна нам цяпер больш, чым калі-б то ні было. Законадаўчая ўлада ў СССР павінна ажыццяўляцца толькі адным органам, Вярхоўным Советам СССР».

Гэта ўказанне таварыша Сталіна з'яўляецца арганічным абгрунтаваннем ленінскага погляду на соцыялістычную законнасць.

Яшчэ ў 1922 годзе ў пісьме «Аб «падвойным» падпарадкаванні і законнасці», адрасаваным таварышу Сталіну, Владзімір Ільіч Ленін пісаў:

> «... законнасць не можа быць калужская і казанская, а павінна быць адзіная ўсерасійская і нават адзіная для ўсёй федэрацыі Совецкіх рэспублік... законнасць павінна быць адна, і асноўным злом ва ўсім нашым жыцці і ва ўсёй нашай некультурнасці з'яўляюцца папушчэнства спакон-рускага погляду і звычкі поўдзікуноў, жадаючых захаваць законнасць калужскую ў адрозненне ад законнасці казанскай» [1]).

Сталінская Канстытуцыя ўстанавіла адзінства законадаўчай улады СССР.

З часу прыняцця гэтага найвялікшага гістарычнага дакумента прайшло каля двух год. Гэта двухгоддзе адзначана непрымірымай барацьбой супроць трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма і выкрыццём гэтых заклятых ворагаў нашай партыі, ворагаў совецкага народа. У той-жа час—гэта перыяд

---

[1] **Ленін**, т. XXVII, стар. 298 і 299.

выключнага ўмацавання прынцыпаў совецкай дэмакратыі, велізарнага творчага ўздыму народных мас нашай краіны.

У гэтай гістарычнай перспектыве сугуба знамянальна законадаўчая работа 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета Саюза ССР. У радзе прынятых гэтай Сесіяй на аснове Сталінскай Канстытуцыі законаў асабліва важнае значэнне мае «Закон аб судаўстройстве СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік».

У законе ўказваецца:

> «Правасуддзе ў СССР мае сваёй задачай забеспячэнне дакладнага і няўхільнага выканання совецкіх законаў усімі ўстановамі, арганізацыямі, пасадавымі асобамі і грамадзянамі СССР».

У адным з артыкулаў закона прадугледжаны, як падлягаючыя разгляду народнага суда, крымінальныя справы: «... аб службовых злачынствах пасадавых асоб—злоўжыванні ўладай, перавышэнні ўлады, бяздзейнасці ўлады, растратах, безгаспадарнасці, падлогах, абважванні і абмерванні, перавышэнні цэн».

Адною з форм злоўжывання ўладай і перавышэння яе з'яўляецца выданне незаконных абавязковых пастаноў, якія шырока выкарыстоўваліся ворагамі народа, што прабраліся ў совецкі апарат.

З канкрэтных прыкладаў законадаўчай практыкі ў БССР ясна відаць, што на месцах да апошняга часу нярэдка практыкавалася «законатворчасць», якая біла па самых асновах совецкай дэмакратыі.

Большэвіцкая барацьба з нарушальнікамі совецкіх законаў, барацьба з людзьмі, якія ў сваёй практычнай рабоце папіраюць совецкія законы, з'яўляецца непасрэдным абавязкам не толькі органаў пракуратуры, але і ўсіх грамадзян Совецкага Саюза.

Працэс антысовецкага «права-трацкісцкага блока» да канца ўскрыў перад усім светам агіднейшыя метады падрыўной работы ворагаў народа, накіраваныя на расчляненне Совецкага Саюза і рэстаўрацыю капіталізма на яго тэрыторыі.

Тройчы прэзрэнныя, подлыя здраднікі социялістычнай радзімы—нямецка-польскія фашысцкія шпіёны і дыверсанты, якія арудавалі ў розных кіруючых органах БССР, імкнуліся аслабіць эканамічную і палітычную магутнасць нашай краіны, сарваць мерапрыемствы партыі па социялістычнаму будаўніцтву.

У тых-жа мэтах ворагі народа, якія ашуканчым шляхам прабраліся да кіраўніцтва ў пракуратуру БССР, грубейшым чынам парушалі важнейшыя ўказанні Владзіміра Ільіча Леніна аб тым, што

> «Пракурор мае права і абавязан рабіць толькі адно: сачыць за ўстанаўленнем сапраўды аднастайнага разумення законнасці ва ўсёй рэспубліцы, не гледзячы ні на якія мясцовыя адрозненні і наперакор якім-бы то ні было мясцовым уплывам»... і што «Пракурор адказвае за тое, каб ні адно рашэнне ні адной мясцовай улады не разыходзілася з законам» [1]).

Ворагі народа, прабуючы аслабіць нагляд за захаваннем социялістычнай законнасці, прывівалі паасобным работнікам органаў пракуратуры нігілістычныя адносіны да совецкага закона, уцягвалі іх у актыўную шкодніцкую работу.

---

[1] **Ленін**, т. XXVII, стар. 299.

У выніку варожай дзейнасці нагляд за законнасцю ў радзе савецкіх, адміністрацыйных і гаспадарчых арганізацый насіў выпадковы характар. Цэлы рад пытанняў, што складаюць аснову работы па агульнаму нагляду, зусім выпаў з поля зроку органаў Пракуратуры БССР.

У некаторых раёнах нашай рэспублікі ворагі народа, прабраўшыся да кіраўніцтва, свядома выдавалі незаконныя абавязковыя пастановы, каб выклікаць нездаволенасць працоўных. Толькі за апошні час удалося выявіць цэлую серыю такіх «абавязковых пастаноў» і дабіцца іх адмены.

Падобна Шчэдрынскаму граданачальніку Беневаленскаму, некаторыя кіраўнікі горсоветаў мелі нястрымную цягу да «законадаўства», якая «так галосна ўзывала аб задавальненні, што перад яе голасам змаўкалі нават довады розуму» (Салтыкоў-Шчэдрын «История одного города»).

Рагачоўскі горсовет «у мэтах упарадкавання горада» выдаў абавязковую пастанову, у якой абавязваў усіх кіраўнікоў дзяржаўных, грамадскіх і кааператыўных прадпрыемстваў і ўстаноў, жакты і домаўладальнікаў зрабіць каля сваіх домаўладанняў тратуары і платы па ўстаноўленаму горсоветам стандарту.

«Эстэты» з Рагачоўскага горсовета ў прошлым годзе выдалі абавязковую пастанову, у якой установам і прыватным асобам пад пагрозай штрафу ўмянялася ў абавязак на працягу пэўнага тэрміну афарбаваць дамы, платы і вароты пад устаноўлены колер: па Совецкай вуліцы—светла-зялёны, па Ленінскай—светла-жоўты, па Кааператыўнай, Карла Маркса і іншых—блакітны, на фабрычна-заводскім пасёлку—сталёвы, па ўсіх астатніх вуліцах—цёмна-зялёны.

Аналагічныя «абавязковыя пастановы» выдаваліся Капыльскім і Лельчыцкім райвыканкомамі, а таксама Барысаўскім і Гомельскім горсоветамі.

Зразумела, што выданне падобных «пастаноў» не прадугледжана ніякімі законамі. Выклікаючы звышпланавыя гаспадарчыя выдаткі, такія пастановы прама штурхалі кіраўнікоў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый на шлях нарушэння фінансавай дысцыпліны. Для прыватных асоб затраты, звязаныя з выкананнем такіх пастаноў, вельмі часта аказваліся непасільнымі. Па сутнасці, уводзіўся незаконны падатак, які выклікаў нездаволенасць насельніцтва, што іграла на руку ворагам народа.

Характэрна, што сігналам да выдання падобных абавязковых пастаноў паслужыў 3-ці артыкул цяпер адмененай пастановы ЦВК і СНК БССР ад 3 жніўня 1936 года «Аб будаўніцтве новых і рамонце тратуараў, якія знаходзяцца супроць уласных домаўладанняў». Пастанова гэта супярэчыла дзеючай пастанове ЦВК і СНК СССР ад 19 сакавіка 1936 года «Аб парадку фінансавання будаўніцтва і рамонту маставых і тратуараў у гарадах і рабочых пасёлках». Ворагі народа незаконнай пастановай імкнуліся выклікаць нездаволенасць працоўных.

Многія райвыканкомы самі выдавалі незаконныя абавязковыя пастановы аб прыцягненні насельніцтва да будаўніцтва дарог, хоць гэта пытанне поўнасцю рэгулюецца пастановай ЦВК і СНК СССР ад

4 сакавіка 1936 года «Аб працоўным удзеле сельскага насельніцтва ў будаўніцтве і рамонце шасейных і грунтовых шляхоў.

Райвыканкомы Полацкага, Круглянскага, Грэскага, Капыльскага, Бабруйскага, Крупскага і іншых раёнаў выдалі абавязковыя пастановы аб кругласутачным дзяжурстве грамадзян у населеных пунктах, тым часам як прыцягненне насельніцтва да працоўнай павіннасці дазваляецца законам толькі ў адным выпадку—для барацьбы са стыхійнымі няшчасцямі, дый то за плату.

Мсціслаўскі райвыканком выдаў абавязковую пастанову аб санітарных мерапрыемствах, якою абавязваў кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарчых арганізацый «забяспечыць знішчэнне зародкаў мух у прыёмніках для нечыстот, прыбіральнях, выграбных ямах і скрынках для смецця». Нарушэнне гэтай пастановы каралася штрафам у 100 руб. або папраўча-працоўнымі работамі да 15 дзён.

Магілеўскі горсовет сваёй абавязковай пастановай ад 16 красавіка 1938 года «Аб утрыманні гарадскіх могілак» пад пагрозай штрафу да 100 руб. забараніў грамадзянам гуляць і хадзіць па могілках летам пазней 9 і зімою пазней 6 гадзін вечара. Навошта спатрэбілася такая «мудрая» пастанова, вядома толькі магілеўскім горсоветчыкам.

Гомельскі горсовет абавязковай пастановай ад 23 мая 1938 года забараніў грамадзянам пад пагрозай налажэння штрафу купацца ў рацэ Сож.

Прэзідыум Даманавіцкага райвыканкома Палескай вобласці абавязковай пастановай ад 25 сакавіка 1938 года забараніў насельніцтву пад пагрозай штрафу да 100 руб. тапіць печы ў вячэрні час.

Яшчэ раней прэзідыум Талачынскага райвыканкома Віцебскай вобласці выдаў абавязковую пастанову, якою пад страхам штрафу да 100 руб. забараніў насельніцтву і ўстановам тапіць печы пасля 9-ці гадзін вечара.

Гэтыя пастановы нагадваюць разважанні чэхаўскага унцера Прышыбеева, які, як вядома, браў на заметку сялян, якія вечарамі «сядзяць з агнём».

Прыведзенымі фактамі далёка не вычэрпваецца колькасць выданых горсоветамі і райвыканкомамі і апратэставаных Пракуратурай БССР незаконных абавязковых пастаноў, парушаючых правы і інтарэсы совецкіх грамадзян і совецкай дзяржавы.

Некаторыя адміністрацыйныя камісіі пры горсоветах і райвыканкомах, зыходзячы з пампадурскага прынцыпа «уляпіць» ва што-б там ні стала, накладалі на грамадзян незаконныя штрафы ў масавым парадку.

Старшыня камісіі пры Мозырскім горсовеце Харкевіч ухітрыўся штрафаваць жыхароў свайго горада па матывах, нашым законадаўствам не прадугледжаных. Грамадзян Кузьменка і Северына ён аштрафаваў па 25 руб. кожнага за тое, што яны «смяяліся пад акном у гр. Гінзбурга», гр. Каменецкая паплацілася 5 рублямі «за спяванне частушак на вуліцы», гр. Серада—той-жа сумай «за парушэнне чаргі ў магазіне пры пакупцы насавой хусткі», гр. Малашчанка заплаціў заўзятаму Харкевічу 25 руб. «за парушэнне цішыні ў сваім доме», а гр. Лебедзінская—5 руб. «за нявыхад на работу».

Аднак усе рэкорды пабіла адміністрацыйная камісія пры Віцебскім горсовеце. Толькі за адзін дзень—11 лютага 1938 года—яна наклала штрафы на 566 чал.

Выпадкі грубейшага нарушэння соцыялістычных законаў, праў і інтарэсаў грамадзян сустракаюцца яшчэ нярэдка.

Былы галоўны дзяржаўны санітарны інспектар рэспублікі выдаў «Санітарныя правілы аб будаўніцтве, абсталяванні і ўтрыманні цырульняў». У гэтых «правілах» цырульнікам забаранялася абслужваць грамадзян, якія маюць плямы на твары або неахайна апрануты.

Выконваючы абавязкі галоўнага дзяржаўнага санітарнага інспектара БССР 17 мая г.г. выдаў пастанову № 79/II, якою абавязаў усіх дырэктароў поўных і няпоўных сярэдніх школ у абавязковым парадку патрабаваць, каб паступаючыя ў школу вучні прадстаўлялі медыцынскія спраўкі не толькі аб воспапрывіванні, але і аб процідыфтэрыйных прывіўках.

Для ўсёй нашай народнай гаспадаркі вялікае значэнне мае падрыхтоўка спецыялістаў, у прыватнасці для тарфянай прамысловасці. Беларускі тарфяны басейн—Асінторф мае школу ФЗУ, якая рыхтуе кваліфікаваных рабочых: слёсараў-лакамабілістаў, трактарыстаў, токараў і т. п. Нам. наркома мясцовай прамысловасці БССР тав. Галуза, каб скрыць зрыў наркаматам выканання дырэктыў партыі і ўрада аб арганізаваным наборы рабочай сілы, 8 чэрвеня г.г. даў дырэктару ФЗУ тэлеграфнае распараджэнне спыніць заняткі і перакінуць вучняў на сушку торфу да канца сезона. Толькі дзякуючы ўмяшанню пракуратуры рэспублікі гэта яўна няправільнае распараджэнне было адменена.

З года ў год мацнее і развіваецца наша соцыялістычнае земляробства. Радасным, шчаслівым жыццём жыве калгаснае сялянства. Партыя Леніна—Сталіна, совецкі ўрад аказваюць яму ўсямерную дапамогу. Велізарныя поспехі калгаснай вёскі выклікаюць шалёную злобу ворагаў народа. Прабраўшыяся ў кіруючыя зямельныя органы, трацкісцка-бухарынскія, нацыянал-фашысцкія агенты замежных разведак, шпіёны, дыверсанты, шкоднікі імкнуліся падарваць калгасны лад. Яны ўсяляк ушчымлялі правы калгаснікаў, па-шкодніцку ўрэзвалі прысядзібныя ўчасткі, змяншалі кошт працадня, без усякай падставы выключалі калгаснікаў. Слаўныя наркомунудзельцы пры дапамозе ўсяго совецкага народа раскрылі і сцёрлі з твару совецкай зямлі гэту зграю шалёных сабак.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) сваёй гістарычнай пастановай ад 2 жніўня 1937 года «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага будаўніцтва» аказалі велізарную дапамогу беларускаму калгаснаму сялянству і ўказалі канкрэтныя шляхі ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 красавіка 1938 года «Аб забароне выключэння калгаснікаў з калгасаў», «Аб няправільным размеркаванні даходаў у калгасах», «Аб падатках і іншых абавязацельствах у адносінах аднаасобных гаспадарак» указваюць канкрэтныя шляхі далейшага ўмацавання нашых калгасаў. Яны прасякнуты сталінскімі клопатамі аб калгасным сялянстве і ўсёй магутнасцю совецкага соцыялістычнага закона наносяць удар па тых, хто нарушае

правы калгаснікаў, статут сельскагаспадарчай арцелі і Сталінскую Канстытуцыю.

За апошні час у радзе абласцей і раёнаў Пракуратура БССР ускрыла супроцьпартыйную і супроцьдзяржаўную практыку агульнага, зусім не абгрунтаванага выключэння з калгасаў.

З калгаса «Новы шлях», Халопеніцкага раёна, Узнацкага сельсовета, быў выключан калгаснік Сямёнаў за тое, што ў яго, як брыгадзіра, нехапала 53 кгр. мукі.

З гэтага-ж калгаса быў выключан, як вораг народа, калгаснік тав. Асташка. Як устаноўлена пракуратурай, «варожая дзейнасць» тав. Асташка заключалася ў тым, што ён аднойчы назваў калгаснікаў непрыстойнымі словамі, будучы нецвярозым.

У Крычаўскім раёне пастановай праўлення калгаса «Маяк» ад 25 красавіка гэтага года быў выключан з калгаса разам з усёй сям'ёю калгаснік Лук'яненка толькі за тое, што займаўся адыходніцтвам.

У Смалявіцкім раёне пастановай агульнага сходу членаў калгаса «Праца», на якім прысутнічаў 81 калгаснік з агульнай колькасці 256 чал., завочна былі выключаны з калгаса за нявыхад на работу В. Шліонскі і А. Блацік. Зараз яны ў калгасе адноўлены.

У Асвейскім раёне агульны сход членаў калгаса «Пераможца» 1 лютага г.г. без усякіх матываў выключыў з калгаса 5 сямей. У пастанове літаральна запісана: «Слухалі—аб выключэнні калгаснікаў. Пастанавілі—выключыць з калгаса: Бувалу Броню, Бувалу Анелю, Русака Егора, Русака Сямёна, Шаблоўскага Сцяпана». Характэрна, што на сходзе прысутнічала 96 калгаснікаў з агульнай колькасці 171 чал.

Пракуратурай рэспублікі выяўлен рад фактаў неабгрунтаванага адмаўлення ў прыёме ў члены калгаса.

У Менскім раёне 18 сакавіка г. г. пастановай агульнага сходу членаў калгаса імя ДПУ адмоўлена ў прыёме гр. А. Мазуркевічу па матывах адсутнасці ў калгасе кватэр, тады як ён кватэры не прасіў.

У Быхаўскім раёне было адмоўлена ў прыёме ў калгас «Рэвалюцыя» за 1937 год 16 грамадзянам і за 4 месяцы 1938 года—26. Матывам з'яўлялася тое, што ў калгас уступаюць члены сям'і, а глава сям'і працуе на вытворчасці, што жадаючыя ўступіць у калгас жывуць не на яго тэрыторыі, а ў суседніх сельсоветах.

У Ельскім раёне праўленне калгаса «Прагрэс» адмовіла грамадзянцы Ірыне Кажадуб на той падставе, што яна ўступае ў калгас без мужа. У Крычаўскім раёне гр-цы Шуляковай Фёкле праўленне калгаса «Ударнік» адмовіла ў прыёме на той падставе, што ў яе не было спраўкі аб паходжанні, хоць усім калгаснікам добра вядома, што яна з'яўляецца дачкой калгасніка гэтага-ж калгаса, жыве ў свайго бацькі, а муж яе—нічым не апарочаны ветэрынарны работнік.

Прыведзеныя факты сведчаць аб грубым парушэнні 7 артыкула сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі, згодна якому ў члены арцелі могуць уступаць усе працоўныя, як жанчыны, так і мужчыны, дасягнуўшыя 16-гадовага ўзросту.

Пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 красавіка 1938 года ўскрыты шматлікія выпадкі няправільнага размеркавання грашовых

прыбыткаў, разбазарвання калгасных сродкаў, растранжырвання прадукцыі і рад іншых нарушэнняў статута сельгасарцелі.

Падобныя выпадкі мелі месца і на Беларусі.

Кіраўніцтва калгаса імя Леніна Крычаўскага раёна для палявых работ прыцягвала аднаасобнікаў і налічвала ім працадні. У 1937 годзе аднаасобнікам было выплачана, з ураджаю і грашыма, за 1143,16 працадня.

Аналагічная практыка прыцягнення аднаасобнікаў да работы ў калгасе і аплаты працаднямі мела месца ў Мехаўскім і іншых сельсоветах Крычаўскага раёна. Гэтыя нарушэнні не выпраўляліся кіраўніцтвам раёна.

Праўленне калгаса «Май» Капыльскага раёна ў студзені г.г. вынесла пастанову: налічваць кожнаму калгасніку, у якога пераначуе прадстаўнік з раёна, 1,5 працадня і, акрамя таго, выдаваць яму 100 грам сала, 400 грам мяса, 1 літр малака і 1 кгр. хлеба.

Праўленне калгаса «Чырвоны маяк» Добрушскага раёна 5 сакавіка г.г. пастанавіла выдаць бясплатна гр-ну Жаўнову 50 кіло бульбы за работу па вывучэнню Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Праўленне калгаса імя Карла Маркса Чачэрскага раёна пастановай ад 21 красавіка 1937 года налічвала рэдактару насценгазеты 1 працадзень за кожны выпушчаны нумар, прычым газета павінна была выходзіць кожную пяцідзёнку.

У Якаўлевіцкім сельсовеце Аршанскага раёна ёсць вартаўнік-прыбіральшчык гр-н Шэвераў. Акрамя зарплаты ў сельсовеце, ён на працягу чатырох год атрымліваў ад усіх 11 калгасаў сельсовета 380 працадзён штогодна за тое, што дзяжурыў у сельсовеце за кожны калгас.

Праўленне калгаса імя Комінтэрна, Менскага раёна, 12 сакавіка г.г. пастанавіла налічваць загадчыку дома соцкультуры Чарняўскаму па 0,5 працадня ў дзень «за работу па палітычнай лініі». І гэты, з дазволу кажучы, «палітработнік» не супярэчыў.

Пракуратурай БССР выяўлена, што многія раённыя і абласныя зямельныя аддзелы не дапамагаюць праўленням калгасаў у пераглядзе і пераўкладанні расходнай часткі гадовых каштарысаў у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 красавіка г.г. Гэта важнейшая работа зачастую праводзіцца недапушчальна марудна. Так, напрыклад, у 22 калгасах Чачэрскага раёна да гэтага часу не перагледжаны і не пераўкладзены каштарысы. У Сенненскім раёне са 164 калгасаў каштарысы пераўкладзены толькі ў 50.

У радзе раёнаў нашай рэспублікі былі выпадкі, калі аднаасобнікі не выконвалі сваіх абавязацельстваў перад социялістычнай дзяржавай, а мясцовыя кіруючыя совецкія работнікі не рэагавалі на гэта, лічачы за лепшае выдаваць смеху вартыя «абавязковыя пастановы».

Трэба цвёрда памятаць ленінска-сталінскае ўказанне аб тым, што малейшае беззаконне, малейшае нарушэнне совецкага парадку ёсць ужо дзірка, якую тэрмінова выкарыстаюць ворагі працоўных.

На вялікі жаль, у нас яшчэ нямала кіраўнікоў як цэнтральных, так і мясцовых совецкіх органаў і арганізацый, якія забываюць гэта важнейшае ўказанне і дапускаюць у сваёй рабоце нарушэнні социялістычнай законнасці.

Органы пракуратуры павінны ўважліва вывучыць палітычны твар нарушальнікаў, каб дапамагчы партыі да канца выкрыць і з коранем вырваць уцалеўшыя яшчэ дзе-ні-дзе рэшткі разгромленых ворагаў народа, трацкісцка-бухарынскіх агентаў.

Органы Пракуратуры БССР, ачысціўшы свае рады ад варожых і нягодных элементаў і ўмацаваўшы кадры праверанымі, стойкімі партыйнымі і непартыйнымі большэвікамі, аддадуць усе сілы, каб выканаць адказнейшыя задачы, ускладзеныя на іх Сталінскай Канстытуцыяй.

---




Уп. Галоўліта БССР № 4574.
Тыраж 6.700 экз.
380.160 друк. зн. (7 арк.)
Здана ў набор 15/X—38 г.
Падпісана да друку 30/X—38 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку, Зак. № 4045.

